# 450 гадоў з дня нараджэння Льва Сапегі - канцлера Вялікага Княства Літоўскага,

## пры ім Лідзе было нададзена Магдэбургскае права





***Медаль “Леў Сапега. За адраджэньне беларускай дзяржаўнасьці”.***
*Медальер Валянцін Прыешкін. Бронза, ліццё. 2007 г.*
*Музей выяўленчага мастацтва Фонд Анатоля Белага, г. Старыя Дарогі.*

# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 ( 38 ) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2007 г.

## У НУМАРЫ:



***На першай старонцы вокладкі здымак Ігара Пешахонава.***





**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1342 ад 27.03.2007 г.**

ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ
**Валеры Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

РЭДАКТАР
**Станіслаў Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231293, Лідскі р-н,
в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by

**Наклад 350 асобнікаў**
**12 друк. аркушаў**

Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.
Замова № 10
Часопіс падпісаны да друку 30. 06. 2007 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 1740 руб.
індывід. 6 мес.- 3480 руб.
Кошт у розніцу: вольны

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

# ДОЎГАЧАКАНАЯ ЗНАХОДКА





*Пасля публікацыі ў нумары 35 "Лідскага летапісца" артыкула "Расчыстка сядзібы Ігната Дамейкі ў Заполлі" рэдакцыя атрымала ліст ад **І.І. Лоўкіса**, які вучыўся ў Запольскай сярэдняй школе з 1958 па 1968 год і з'яўляецца выпускніком апошняга выпуска гэтай школы.*

*Спадар Лоўкіс даслаў фатаграфіі школы і планы яе абодвух паверхаў.*

*Развеяны яшчэ адзін міф, а менавіта міф пра тое, што не існуе ні адной фатаграфіі гэтага дома, за што мы выказваем спадару **І.І. Лоўкісу** самую шчырую падзяку.*

Запольская сярэдняя школа размяшчалася ў доме Квяткоўскай-Шалевіч, які быў разбудаваны з дома Ігната Дамейкі ў Заполлі Лідскага раёна.

Дасланыя фатаграфіі і планы дапаўняюць і ўдакладняюць артыкул у нумары 35 часопіса. На самай справе гэта ўсё-такі не двухпавярховы дом, а аднапавярховы дом з мансардай. Мясцовыя жыхары аднак лічылі яго двухпавярховым.

План, дасланы І.І. Лоўкісам, складзены папамяці, але вельмі дакладна кладзецца на план фундаментаў сядзібы, складзены паводле абмераў.

Адкрыта яшчэ адна старонка нашай гісторыі.

# План размяшчэння памяшканняў Запольскай сярэдняй школы, 1968 г.

II паверх




1. Калідор.
2. Спальны пакой (для дзяўчынак, дзеці з далёкіх вёсак маглі начаваць у школе).
3. Класны пакой.
4. Фіз.-хім. кабінет.
5. Спальны пакой (для хлопчыкаў).

I паверх




1. Ганак.
2. Калідор (фае).
3. Класны пакой.
4. Класны пакой.
5. Актавая зала.
6. Бібліятэка.
7. Класны пакой.
8. Каморка.
9. Класны пакой.
10. Класны пакой.
11. Калідор (4 пячныя стаякі).
12. Настаўніцкая.
13. Кабінет дырэктара.
14. Кухня.

# КРОНІКА ЛІДЫ




У красавіку 2007 года 11-цікласнік Лідскай гімназіі № 1 **Станіслаў Шапавалаў** заняў 1-е месца ў Рэспубліканскай алімпіядзе па матэматыцы.
Настаўнік - Заслужаны настаўнік Беларусі Альфрэд Антонавіч Ладыка.



15 красавіка 2007 года ў мікрараёне Маладзёжны г. Ліды асвечаны касцёл Літасці Божай.




26 красавіка **Марыя Карабан** з Ліды стала "Міс Уроцлаўскай палітэхнікі".
(Уроцлаўскага палітэхнічнага ўніверсітэта, Польшча.)

27 красавіка 2007 г. на тэрыторыі Лідскай бальніцы адкрыты акушэрскі корпус, будаўніцтва якога было пачата ў канцы 80-х гадоў.









У траўні 2007 г. загадчык аддзела "Лідскай газеты" Святлана Талмачова прызнана лепшай журналісткай Гарадзенскай вобласці.

У чэрвені 2007 года выйшла кніга лідскага паэта Смарагда Сліўко "Продлись мгновение" (пасмяротнае выданне).



# Цвермы: вяртанне святыні

### *28 траўня 2007 года асвечана адноўленая капліца ў Цвермах*

Цвермы. Гэтая невялікая вёсачка, якая знаходзіцца за 12 км ад Ліды, мае сваю цікавую гісторыю, цесна звязаную з капліцай. Капліца знаходзіцца ў лесе недзе за кіламетр ад вёскі. Аб яе ўзнікненні ў касцельных паперах захаваліся наступныя звесткі. Некалі з даўніх часоў у тым месцы стаяў крыж з драўлянай фігуркай Ісуса Хрыста, а побач шматвекавая хвоя. Да крыжа мясцовыя людзі ставіліся з вялікай павагай. Аднойчы была вялікая бура, якая паваліла крыж. Жыхар вёскі Стэфан Валяль (згодна касцельных дакументаў памёр у 1787 г.) забраў фігурку дахаты і паклаў у спіжарню. Аднойчы Стэфану прысніўся сон, у якім ён пачуў словы: “Навошта ты трымаеш мяне замкнуўшы ў спіжарні?”, і пасля гэтага Стэфан аслеп. Суседзі разам з жонкай Мар’янай дапамаглі яму зрабіць новы крыж, прымацаваць фігурку і даставіць яго на старое месца. Пасля установкі крыжа зрок вярнуўся да Стэфана. З таго часу крыж пачаў лічыцца цудадзейным, які дапамагае пры хваробах. Старэйшыя жыхары Цвермаў сцвярджаюць, што самі не раз звярталіся да крыжа, і не раз бывала, што хваробы праходзілі. У 1920 годзе крыж быў першы раз зняважаны. Нейкі чырвонаармеец, які праязджаў па дарозе пасек яго шабляй. Людзі аднавілі крыж і працягвалі гэтае месца шанаваць. Бачачы такую павагу да гэтага месца, пробашч Лідскага фарнага касцёла Іпаліт Баярунец ў 1935 годзе на сродкі парафіян пабудаваў драўляную капліцу. Згодна паведамленняў тагачаснай польскай прэсы на асвячэнні капліцы присутнічала каля 15000 чалавек. З таго часу на другі дзень свята Сёмухі кожны год каля капліцы збіралася некалькі тысяч вернікаў з парафій Ліды, Бердаўкі, Тракеляў і іншых, нават, з замяжы Лідскага павету. Святы крыж з фігуркай Хрыста быў размешчаны ў галоўным алтары капліцы. Захаваўся фотаздымак капліцы 1939 г. На здымку побач з капліцай бачна і шматвекавая хвоя.

З прыходам Савецкай улады такая папулярнасць капліцы атэістычнаму начальству не спадабалася, таму яе было вырашана разбурыць. Кіраваў гэтым актам вандалізму ў 1960 годзе, а капліца была цікавым помнікам архітэктуры народнага дойлідства, дырэктар Дварышчанскага саўгаса Іваноў. Яму дапамагалі саўгаснікі Слюсараў, Жамойда і іншыя.

Разбуралі трактарам, зачапіўшы тросам за верх капліцы. Вернікам аднак дазволілі вынесці крыж з фігуркай, які яны перадалі ў Тракельскі



KRZYŻ W ĆWIERMACH KOŁO LIDY

*Цудадзейны Цвермскі крыж. Здымак 1939 г.*




*Капліца ў Цвермах. Здымак 1939 г.*



*Апрануты ў медзь Цвермскі крыж у Тракельскім касцёле. Травень 2007 г.*



***Асвячэнне новай капліцы ў Цвермах. 28.05.2007 г.***



***Каля паваленай старажытнай хвоі. 28.05.2007 г.***

касцёл, дзеяго адзелі ў медныя шаты, і дзе ён прастаяў давясны 2007 г. А старую хвою чакаў наступны лёс. Пасля разбурэння капліцы геадэзісты вырашылі паставіць у гэтым месцы трыангуляцыйны знак. Сасна замінала ім гэта зрабіць, і таму было вырашана яе спілаваць. Як толькі пачалі пілаваць высветлілася, што піла ўзята замалая, а з дрэва пацякла смала колерам падобная на кроў. Гэта моцна напалохала геадэзістаў, і яны пакінулі дрэва ў спакоі. Аднак час зрабіў сваю справу, і дрэва пару гадоў назад павалілася. Гэта было сапраўды магутнае дрэва таўшчынёй у тры з паловай ахопы.

Месца, дзе была капліца, шмат гадоў прастаяла ў запусценні. І вось у 2007 г. знайшоўся фундатар - фермер Капачэль Валянцін Эдвардавіч, які разам са сваімі сваякамі, пабудаваў на месцы старой, невялікую новую капліцу, на старое месца з Тракельскага касцёла быў вернуты знакаміты крыж. І праз 47 гадоў 28 траўня 2007 года на гэтым месцы зноў прагучала святая імша. На асвячэнні капліцы, нягледзячы на панядзелак, прысутнічала каля пяці соцень чалавек з Лідскай, Бердаўскай і Ліпнішскай парафій…

*Аўтары вельмі ўдзячныя пробашчу Тракельскага касцёла Паўлу Станіславу Ушакевічу і усім жыхарам Цвермаў за прадстаўленыя матэрыялы для напісання артыкула.*

***Уладзімір Круцікаў, Міхась Бурачэўскі.***

# Кроніка айкумены

## Лідскі гістарычны каляндар

## красавік - чэрвень

**1387 год, вясна - лета.** Хрышчэнне жыхароў Лідчыны ў каталіцкую веру.

**1387 год, 15 чэрвеня.** Кароль польскі Ўладзіслаў Ягайла прыняў у Лідскім замку прысягу ад князя полацкага Скіргайлы-Яна. Скіргайла прызначаны Вялікім князем і намеснікам польскага караля ў ВКЛ.



*Князь Скіргайла*



*Дзітва ў раёне Белагруды*

**1387 год.** Першае пісьмовае згадванне р. Дзітва.

**1507 год.** Захарыяш Кузьміч атрымаў ад караля і Вялікага князя Жыгімонта 6 валок зямлі ў раёне сучаснай вуліцы Энгельса.

**1527 год, 27 траўня.** Кароль Жыгімонт пацвярджае сынам Юрыя Ільініча раздзел бацькаўскай спадчыны. Упершыню згадваецца Бердаўка, а таксама Дворышча, Збляны, Прыдыбайлы.



*Леў Сапега*

**1557 год, 1 красавіка.** Прыняты "Устаў на валокі"- закон аб валочнай памеры.

**1557 год, 4 красавіка.** Нарадзіўся Леў Сапега - дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Канцлер ВКЛ у 1589-1623 гг. У часы яго канцлерства Ліда атрымала Магдэбургскае права і герб.

**1697 год, 25 красавіка .** Лідскі харунжы Францішак Юзафаў Масевіч запісаў 24 000 злотых, забяспечаных на фальварку Зарэчча, кармяліцкаму кляштару.

**1797год, 15 траўня.** Імператар Павел І з сынамі Аляксандрам і Канстанцінам па дарозе з Слоніма ў Вільню спыняўся і начаваў у Лідзе ў піярскім кляштары. Раніцай Павел І выдзеліў піярам на будаўніцтва касцёла 5000 руб.

**1797 год.** На землях роду Вісьмантаў закладзены хрысціянскія могілкі (цяпер вул. Энгельса).

**1897 год.** Пачалося будаўніцтва Васілішскага касцёла на сродкі вернікаў пад кіраўніцтвам ксяндза Францішка Сакалоўскага.

**1907 год, 18 красавіка (1 траўня н. ст).** У Лідзе прайшлі невялікія страйкі.

**1907 год.** У Лідзе расквартаравана 3-я паветраплавальная рота расійскага войска, афіцэры размешчаны на прыватных кватэрах па вуліцы Віленскай, насупраць праваслаўных могілак .

**1917 год, красавік**. Арганізавана Супольнасць Вайскоўцаў Палякаў Менскага аддзела, адным з арганізатараў быў ураджэнец Лідскага павету палкоўнік Стэфан Макрэцкі.

**1937 год, красавік.** Пробашчам у Слабадскім касцёле стаў Вінцэнт Лобан, вікарыем быў Люцыян Мрачкоўскі.

**1937 год, 1 траўня.** У Лідзе, паводле паведамлення сакратарыяту ЦК КПЗБ, адбылася дэманстрацыя.




***Мемарыяльная дошка ў гонар фундатараў пабудовы касцёла ў Старых Васілішках. Сярод фундатапраў бацькі нацыянальнага героя Беларусі Вацлава Іваноўскага Леанард і Ядвіга Іваноўскія з Лябёдкі.***

**1937 год, 23-30 траўня.** У дзяржаўнай гімназіі імя гетмана Хадкевіча адбылася выстава графікі і карцін мясцовага графіка і мастака прафесара Адольфа Паплаўскага.

**6-12 чэрвеня.** У дзяржаўнай гімназіі адбылася выстава малюнкаў і вырабаў ручной працы гімназічнай моладзі. Выстава складалася з 5 аддзелаў: малюнкаў, вырабаў ручной працы дзяўчат, вырабаў з металу, шкла і дрэва.

**1947 год, 29 красавіка.** У газеце "Звязда" апублікаваны артыкул "Заганны стыль працы Лідскага гарвыканкама", як публічная дэманстрацыя прычынаў, паводле якіх 15 траўня таго ж года вызвалены з працы адказны сакратар Лідскага гарсавету Даўгалёў М.Ф.

**1947 год, 28 чэрвеня.** У дзень 5 гадавіны з дня смерці Я. Купалы ў гарадской бібліятэцы адчыніўся памятны пакой Я. Купалы. Уладкаваная выстава аб жыцці і творчасці народнага паэта з фатаграфіямі і малюнкамі даваеннай Ліды. Створаны альбом "Я. Купала - наш дэпутат" - сабраныя выразкі, фотаздымкі, успаміны, зробленыя рукой самадзейнага мастака, краязнаўца і калекцыянера Аляксандра Каспяровіча.

**1957 год, 29 чэрвеня.** Зацверджаны акт дзяржпрыёмкі будынка летняга кінатэтра ў гарадскім парку.

**1967 год, 9 траўня.** Урачыста-жалобны мітынг ля Кургана Неўміручасці. Адкрыў першы сакратар ГК Г.Ф. Фамічоў. Выступіла Е.Е. Глебкіна - маці 4 сыноў, з якіх двое з вайны не вярнуліся. Ля кургана пахаваны Невядомы салдат, перавезены з-пад в. Чэхаўцы.

**1987 год, 17 траўня.** З'яўленне першай пасляваеннай польскай арганізацыі.

**1987 год, 13-14 чэрвеня.** У Лідзе праведзена першынство вобласці сярод працоўных мясцовай прамысловасці і камунальна-бытавых прадпрыемстваў па летнім шматбор'і комплексу ГПА.

**1997 год, 6 траўня.** Чальцы Лідскай арганізацыі БНФ "Адраджэньне" ў чарговы раз усталявалі на магіле ксяндза Адама Фалькоўскага ў парку драўляны крыж. У той жа дзень крыж быў знесены.

**1997 год, 17 чэрвеня.** Адбылася гарадская канферэнцыя БПСМ, першым сакратаром абраны Андрэй Бароўскі, другім - Кацярына Наполава.

**22 чэрвеня.** Чальцы Лідскай арганізацыі БНФ "Адраджэньне" высвенцілі ў капліцы па вул Тухачэўскага крыж, урачыста пранеслі крыж да магілы ксяндза Фалькоўскага і ўсталявалі яго. 8 чальцоў акцыі былі затрыманыя міліцыяй, шасцёра з іх: Суднік, Хрышчановіч, Пігулеўскі Бурачэўскі, Аўгусцін, Шырма былі аштрафаваныя. Крыж быў знесены ў тую ж ноч.

# Лідскія юбіляры 2007 года

**ЗУСМАН Арон Міхайлавіч** (22.03 (4.04 па новым стылі)1907 - 4.04.1986) Нарадзіўся ў мястэчку Сярэдзіна-Буда Ноўгарад-Северскага павету Чарнігаўскай губерні ў сям'і рамесніка. Працоўную дзейнасць пачаў у 1921 г. на мылаварных прадпрыемствах, з 1923 г. працаваў на бугэлькавым, хімічным, металургічным заводах у Канстанцінаўцы Сталінскай вобласці: быў баначнікам, паяльшчыкам па свінцы, сечкаром жалеза. Скончыў вячэрні рабфак і ў кастрычніку 1930 г. прызваны ў Чырвоную Армію на 26 гадоў. Служыў у 14 радыётэлеграфным батальёне (1930-32), у частках адмысловага прызначэння (1932-40), а з 1940 г. нам. па тэхчасцы 100 аўтабата 169 стралковай дывізіі. У 1931 г. уступіў у партыю.


Зусман А. М.

Усю вайну з 22 чэрвеня 1941 г. па 9 траўня 1945 г. ваяваў у складзе 169 стралковай дывізіі намеснікам па тэхнічнай частцы 100-га аўтамабільнага батальёна (1941) і намеснікам камандзіра 307 артылерыйскага палка (1942-45). Адбіваў атакі румын, у траўні 1942 г. наступаў на Харкаў, удзельнічаў у Сталінградскай бітве, Курскай бітве, фарсіраваў Сож, вызваляў Рагачоў, Ваўкавыск, Беласток, Польшчу. У 1944 г. пад Наравам быў кантужаны, 2,5 месяцы правёў у шпіталі, пасля чаго ўдзельнічаў у бітвах за Кёнігсберг і Берлін, фарсіраваў Одэр, ля Брандэнбурга сустрэўся з амерыканцамі.

У кастрычніку 1945 г. Рагачоўская Чырванасцяжная, ордэнаў Суворава і Кутузава, стралковая 169 дывізія сваім ходам прыйшла з Нямеччыны, і ў ліпені 1946 г. была расфармаваная.

Пасля вайны служыў нам камандзіра па тэхнічнай частцы 544 артылерыйскай брыгады (1945-46), пасля яе расфармавання - нампатэхам 480 арткорпуснага палка (1946-47), затым старэйшым інспектарам па мехцязе 3 арміі, у вайсковым эрэсаўскім палку і нам камандзіра 98 гвардзейскага артпалка 48 дывізіі. Скончыў гадавую вышэйшую афіцэрскую школу (1951). У лістападзе 1955 г. дэмабілізаваны з войска ў званні падпалкоўніка.


Русак І. І.

Працаваў дырэктарам Лідскай аўтабазы (1956-59), начальнікам транспартнага аддзела на камбінаце харчовых канцэнтратаў (1960), начальнікам аддзялення УТЭК (1960-61), інжынерам па цэнтралізаваных перавозках аўтабазы № 4 (1961-62), затым на заводзе электравырабаў прыёмшчыкам АТК (1962-63), майстрам і старшым майстрам зборачнага цэха (1963-70), слесарам па рамонце (1970-76). У 1976 г., у веку 69 гадоў, пайшоў на пенсію.

Узнагароджаны ордэнамі Леніна (1966), Чырвонага Сцяга (1950), Чырвонай Зоркі (1943, 1944, 1944), Айчыннай вайны 1 і 2 ступені (1943), 12 медалямі. За мірную працу ўзнагароджаны медалём "За працоўную адзнаку" і Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР (1980). 14 гадоў быў дэпутатам Лідскага Савета народных дэпутатаў (1957 - 71), старшынём камісіі жыллёвай гаспадаркі. Да 1980 г. быў старшынём Савета ветэранаў завода электравырабаў.

**РУСАК Іван Іванавіч.** Нарадзіўся 5 красавіка 1927 г. у в. Крупава Лідскага павета (цяпер Шчучынскага раёна). Скончыў Гарадзенскі педагагічны інстытут (1951). Выкладчык Індурскай СШ (1951-52), вайсковы перакладнік у ГДР (1952-55), выкладчык нямецкай мовы і дырэктар СШ № 7 (1956-57), дырэктар Лідскага дзіцячага дома (1957-1960), выкладчык нямецкай мовы СШ № 2 (1960-67), загадчык Лідскага ГарАНА (1967-76), дырэктар СШ № 4 (1976-94). "Выдатнік народнай асветы" (1968), "Заслужаны настаўнік БССР" (1978).


Бічэль І. Б.

**БІЧЭЛЬ Іосіф Баляслававіч** (10.06.1927-ліпень 2007) Нарадзіўся ў в. Новая Жыжма Лідскага павету. Скончыў 5 класаў Князікоўскай ПШ (1939), 6 і 7 класы Дарашоўскай школы. Рабочы на чыгунцы (1944-45). З верасня 1945 г. працаваў у будаўнічых арганізацыях Ліды: БК -2, будучастак № 2, УНР -53, БК -53, будтрэст № 19. Муляр (1949-50), брыгадзір муляроў (1950-56), брыгадзір комплекснай брыгады (з 1956). Прымаў удзел у будаўніцтве 34 аб'ектаў: ЦЭЦ, хлебазавода, мясакамбіната, малочна-кансервавага завода, абутковай фабрыкі, нафтабазы, завода "Лідсельмаш", СПТВ, гаркама партыі, кінатэатра "Кастрычнік", інтарната педвучэльні, тэхнікума, лякарні, дзіцячых садоў, жылых дамоў. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга (1966), медалямі, ганаровымі знакамі, званнямі і граматамі. Ганаровы грамадзянін горада Ліды.



Ашмяна Г. М.

**АШМЯНА Георгій Міхайлавіч** нарадзіўся 6 траўня 1947 года ў в. Палуты Лідскага раёна Гарадзенскай вобласці ў сям'і сялян. У 1954 годзе пайшоў вучыцца ў першы клас Феліксаўскай пачатковай школы якую скончыў у 1958 годзе. З 1958 г. па 1962 г. закончыў 8 класаў Сямашкінскай васьмігадовай школы.

У 1965 годзе закончыў 11 класаў СШ № 11 г. Ліды. З 1965 па 1966 год працаваў кіроўцам аўтамабіля саўгаса "М. Мажэйкава" Лідскага раёна. З чэрвеня 1966 па снежань 1968 года служыў у СА, Прыбалтыйская вайсковая акруга. З красавіка працаваў у аўтобусным парку № 2 г. Ліды на пасадах кіроўцы аўтобуса, механіка АТК, начальніка аддзела тэхнічнага кантролю, намесніка дырэктара, а з 1982 года кіраўніком гэтай аўтагаспадаркі. У 1976 годзе скончыў без адрыву ад вытворчасці Беларускі палітэхнічны інстытут. Удзельнічаў у грамадскім жыцці г. Ліды. Шматкроць абіраўся ў кіраўнічыя партыйныя органы. 22 гады запар дэпутат гарадскога і раённага саветаў дэпутатаў.

Жонка Людміла Васільеўна, цяпер пенсіянерка, дачка Таццяна настаўніца СШ№ 8 г. Ліды. Сын Сяргей супрацоўнік Лідскага РАУС.

За шматгадовую плённую працу ўзнагароджаны медалём "За працоўную адзнаку" у 1986 годзе, узнагароджаны ганаровым знакам "Ганаровы транспартнік" (1995 г.), абвешчана падзяка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2001 г.), прысвоена ганаровае званне "Заслужаны працаўнік транспарту Рэспублікі Беларусь"(2002 год).

# Міхальчук Ігар Анатольевіч,

## *майстар спорту міжнароднага класу, чэмпіён свету сярод юніёраў*
## (3.05.1967, Ліда - лістапад 1993)

Дзед - Максім Канстанцінавіч (1898-1953) з в. Кавалі Слонімскага павету, беларус, меў 5 братоў, майстар па будаўніцтву млыноў. За сваё жыццё пабудаваў 13 млыноў. Ажаніўся, купілі зямлі 5 га. Перад вайной пабудавалі хату. Немцы далі каманду - перавезці хату на Моўчадзь. Ім пабудаваны ў 1936 г. Ходараўскі турбінны млын. Абсталяванне купіў у Францыі абшарнік Славінскі, вада падавалася ўзбоч па латку шырынёй каля 3 метраў. Дзед надтачыў турбіну, генератар даваў ток. Загінуў 15 траўня 1953 г. Быў недахоп у турбіны, адкручвалася ніжняя гайка. Стаяла вялікая чарга - дзед рызыкнуў, вырашыў падцiснуць гайку на турбіне, якая працавала. Схапіла за палу, закруціла, перамалола ўсе косткі на нагах. Млын у Ходараўцах разабралі, у 1964 г. ужо не малолі.

Бацька - Анатоль Максімавіч 1931 г.н., скончыў будаўнічы тэхнікум у Луганску. Апошнія гады працаваў у лякарні.

Маці - Марыя Апанасаўна Мацвеенка скончыла Гомельскі педінстытут, у Лідскі раён прыслалі па размеркаванні, працавала ў педвучэльні. Яе бацька - каваль-малатабоец, працаваў на БЕЛГРЭС.

Пазнаёміліся ў Ходараўцах. Анатоль прыйшоў касу кляпаць да гаспадыні, у якой жыла Марыя. Ажаніліся ў 1961 г., у Лідзе жывуць з 1964 г., кватэру атрымалі ў 1966 г. Першы сын нарадзіўся 9 лістапада 1963 г., у 11 гадоў памёр ад саркомы. Другі сын Ігар нарадзіўся 3 траўня 1967 г. вагой 5,1 кг.

Займаўся футболам, хакеем. Хацелі аддаць у бокс да Памахі. Прыйшоў трэнер Талдыкоў Вячаслаў Мікалаевіч у 4 клас (1977) і запрасіў займацца вольнай барацьбой, з 1978 г. у старэйшага трэнера ДЮСШ № 2 Турко Іосіфа Лявонцевіча. Скончыў 8 класаў СШ № 3 (1982), школу алімпійскага рэзерву ў Менску (1983-85). Скончыў тры курсы БДІФК (1985-88). У 1989 г ажаніўся з Ўльянай, якая скончыла медыцынскую вучэльню, працавала медсястрой, пазнаёміліся ў Стайках.



Міхальчук І. А.

Працаваў у Менску на заводзе спартовага абсталявання (1986-93)

Сыйшоў з спорту таму, што пасварыўся з А. Мядзведзем, і тады ж сыйшоў з інстытута

Загінуў у Польшчы ў Шчэціне, смерць наступіла ад удушша, у галаве была расколіна. Засталася дачка Саша.

**Спартовая біяграфія.**

**1977 г. 10 гадоў.**

27 лютага. Асабістае першынство Ліды сярод юнакоў. 44 кг. 3 месца.

26-27 лістапада. Адкрытае першынство гарсавета ДСТ "Чырвоны сцяг". 52 кг. 3 месца

**1978 г. 11 гадоў.**

29 кастрычніка. Ліда. Адкрытае першынство

гарсавета ДСТ "Чырвоны сцяг". 56 кг. 2 месца.

**1979 г. 12 гадоў.**

Гулец хакейнай каманды "Усход" ДК-1, Ліда.

15 лютага. Каманда заняла другое месца ў абласных спаборніцтвах на прыз клуба "Залатая шайба" сярод юнакоў 1967-68 г. н.

13 траўня. 33-я абласная спартакіяда школьнікаў, да 68 кг. 3 месца.

Берастравіца. Міжнародны турнір імя Прытыцкага. 1 месца.

24 верасня. Свіслач. Міжнародны турнір памяці М. Астапчыка. Да 65 кг. 2 кругі. 3 месца.

Вільня. Таварысцкая сустрэча.

**1980 г. 13 гадоў.**

27 сакавіка. Ліда. Турнір памяці А. Клімко, да 81 кг. 2 месца.

Рыга. Усесаюзны турнір "Дзень Перамогі". 3 месца.

Свіслач. Міжнародны турнір памяці М. Астапчыка. 2 кругі.

Берастравіца. Міжнародны турнір імя Прытыцкага. 2 месца.

Берастравіца. 34-я спартакіяда школьнікаў вобласці. 4 месца.

30 верасня. Даўгаўпілс. Усесаюзны юнацкі турнір прысвечаны Дню Канстытуцыі СССР, + 77 кг. 1 месца.

18-20 кастрычніка. Усесаюзны турнір ДСТ "Лакаматыў", + 77 кг. 2 месца.

**1981 г. 14 гадоў.**

30 студзеня (красавіка). Ліда. Турнір памяці А. Клімко, да 87 кг. 1 месца

Вільня. Усесаюзны турнір "Надзея". 3 месца.

15 сакавіка. Асабістае першынство Ліды, + 77 кг. 1 месца.

21 сакавіка. 35-я абласная спартакіяда школьнікаў, да 87 кг. 1 месца.

Сакавік. Калуш. Усесаюзны турнір імя А.П. Каракова. 1 месца

Ленінград. Усесаюзны турнір "Белыя ночы". 2 месца.

Кіеў. Усесаюзны турнір. 2 месца.

5 лістапада. Менск. Першынство БССР сярод ДЮСШ, + 77 кг. 4/1, 3 месца

28-29 лістапада. Гомель. Першынство Белсавета "Дынама" сярод юнакоў, + 77 кг. 2/0, 1 месца.

Снежань. Гомель. Кубак БССР. 1/3, 3 месца.

15-19 снежня. Сухумі. Усесаюзны турнір памяці М. Рогова (Гогава). Юнакі 66-67 г. н., + 87 кг, 3/1, 2 месца.

**1982 г. 15 гадоў.**

24 студзеня. Магілёў Першынство Белсовета "Дынама" сярод юнакоў + 97 кг 2/0 1 месца.

Люты. Пінск. Першынство БССР. 3/1, 5 месца.

Сакавік. Калуш. Усесаюзны турнір імя А.П. Каракова, 3/0, 1 месца.

12-17 сакавіка. Кемерава. Першынство ЦС "Дынама", 1965-66 г. н., да 97 кг., 3/1, 3 (2) месца.

1 красавіка. Магілёў. Першынство ДЮСШ Міністэрства асветы БССР, + 77 кг. 4/0, 1 месца.

21 красавіка. Ліда. Міжнародны юнацкі турнір на прыз А. Клімко, да 77 кг. 2/0, 1 месца.

*"У лідскім Доме фізкультуры "Сельмашавец" завяршыўся традыцыйны юнацкі турнір па вольнай барацьбе, прысвечаны памяці камсамольца - падпольшчыка Аляксандра Клімко. У турніры прынялі ўдзел 187 маладых волатаў з 12 гарадоў чатырох рэспублік нашай краіны. Хочацца адзначыць, што з кожным годам турнір становіцца ўсё папулярней. У тым несумнеўная заслуга арганізатара турніру старшыні федэрацыі барацьбы Гарадзенскай вобласці Ул. Ів. Ваўчка. Пахвальнага водгуку заслугоўвае і дакладная праца суддзяў, якімі кіраваў суддзя міжнароднай катэгорыі Леанід Пятровіч Фурса. Пераможцамі ў парадку вагавых катэгорый сталі: ... ... А. Банцэвіч (Ліда)... І. Міхальчук (Ліда), М. Філіпчык (Ліда)." (Фізкультурнік Беларусі. 5 траўня 1982 г.)*

Красавік. Ліда. 36-я спартакіяда школьнікаў вобласці. 2/0, 1 месца.

12-18 траўня. Ерэван. Першынство СССР, школ-інтэрнатаў. 1965-66 г. н., + 97 кг, 3/2, 1 прайграў чыста.

7-10 ліпеня. Гомель. 36-я спартакіяда школьнікаў БССР, 3/0, 1 месца.

Верасень. Кубак вобласці. 1/0, 1 месца.

21-24 кастрычніка. Менск. Кубак Менска 6/0, 1 месца.

21-25 кастрычніка. Рыга. Кубак РСДЮШАР МП Латвійскай ССР. 1967-68 г. н., + 77 кг, 4/0, 1 месца.

Кастрычнік. Стайкі. Усесаюзны турнір памяці Сяльнецкага, 2/1, 4 месца.

4 снежня. Менск. Адкрытае першынство таварыства "Буравеснік" сярод юніёраў, да 100 кг, 2/0, 1 месца.

Снежань. Віцебск. Кубак БССР, 6/0, 1 месца.

**1983 г. 16 гадоў.**

5-9 студзеня. Днепрапятроўск. Першынство СССР сярод юнакоў 1966-67 г. н. 15 удзельнікаў, + 97 кг, 4/1 чыста, 2 месца. 1. Лачашвілі. 2. Міхальчук. 3. Маўза, 4. Хацінукоў. 5. Кузьменка. 6. Абдулкарымаў.

Студзень. Гомель. Белсавет "Дынама", 2/0, 1 месца.

Люты. Менск. Першынство Менска. 3/0, 1 месца.

18-20 сакавіка. Пінск. Першынство БССР сярод юнакоў. Да 97 кг, 4/0, 1 месца.

25-28 сакавіка. Масква. Першынство ЦС "Дынама" сярод юнакоў 1966-67 г. н., + 97 кг., 4/0, усё чыста, 1 месца. Удзельнічалі: Панфілаў *Рас.*, Міхальчук *Белар.*, Жарабцоў *Кірг.*, Мітронаў *Укр.*, Чынашывілі *Груз.*, Машчынскас *Літ.*

4-10 траўня. Львоў. Першынство СССР, школ-інтэрнатаў. 2/0, 1 месца.

1-5 чэрвеня. Ленінград. Усесаюзны юнацкі турнір "Алімпійскія надзеі" кругавая сістэма. Адборачны да першынства светуу і турніру "Сяброўства" 1965-66 г. н., да 97 кг, 3/1, 2 месца.

Удзельнічалі: 1 месца - Іваноў М. - Улан-Удэ. 2. Міхальчук-Ліда. 3. Бігаеў-Арджанікідзэ. 4. Кузьменка-Ташкент. 5. Маўза-Каўнас.

1-5 ліпеня. Магілёў. 37-я спартакіяда школьнікаў БССР. 1967-68 г. н., + 97 кг, 7 удзельнікаў, 4/0, усё чыста, 1

месца.

13 кастрычніка. Кіеў. Матчавая сустрэча зборная ЦС "Дынама" - зборная ЧССР. 1963-64 г. н. + 97 кг, 2/0.

*"Першую сутычку змагаўся з чэшскім цяжам, ён важыць 110 кг, і ростам вышэй за мяне на галаву, фізічна здаровы, але тэхнікі няма. У першым перыядзе я ўзяў 2 балы, кінуў млыном. У другім я паплыў, атрымаў два папярэджанні, прайшоў яму ў нагу і перавёў на бал, і гэтаксама аддаў бал. Лік 3:1.*

*Другую сутычку выйграў. Чэх важыць 102 кг. Тэхнікі няма, але фізічны стан выдатны. Першы перыяд узяў бал, захоп рукі пад плячо, швунг пад сябе і ў нагу. Другі перыяд таксама ўзяў бал, у нагу ўзбоч прайшоў. Лік 2:0."*

27-30 кастрычніка. Ліда Першынство БССР сярод юніёраў 1964-65 г.н. +100 кг. 3/0 - усё чыста. 1 месца.

9-12 кастрычніка. Львоў. Усесаюзны турнір на прыз газеты "Наша моладзь" 1967-68 г.н. +97 кг. 3/0. 1 месца.

*"У фінале змагаўся з узбекам. Лік 2:2. Першы перыяд, прайграў бал, прапусціў у ногі, і ён падняў мяне наверх . Другі перыяд: я бяру бал, прайшоў у ногі на краі дывана. Другі бал я прайграю ў партэры, ён кідае далёкае сцягно. Я падаю на бок. Да канца 15 сек. Два разы праходжу ў дзве нагі, бяру бал і другі ўжо разам з гонгам."*

9-11 снежня. Масква. Адборачнае першынство таварыства "Дынама" сярод юнакоў 1967-68 г.н. + 97 кг. 7 удзельнікаў. 4/0 - усё чыста. 1 месца.

**1984 г. 17 гадоў.**

5-8 студзеня. Фрунзе. Першынство СССР сярод юнакоў 1967-68 г.н. +97 кг. 14 удзельнікаў. 5/0. 1 месца.

*"Першую сутычку выйграў чыста. У пятку і накат, паклаў за 1 хвіліну. Другая сутычка з Лачашвілі (мс, "Праца" Руставі). Першы бал прайграў, ён ідзе ў нагу на краі дывана, я саджуся на зваротны ў зоне, даюць свісток. Другі бал я бяру праходам у нагу, трэці таксама. У другім перыядзе мне і яму далі па два папярэджанні. Лік 2:1. Я выйграў. Трэцяя сутычка з Хубулуры (кмс, "Буравеснік", Горы). Узяў 4 балы па адным праходам у левую нагу ўзбоч. Два балы прайграў, ён выключыў мне руку на ключ. Лік 4:2. Ён дыхае добра. 4-я сутычка з Кочкам (кмс, "Дынама", Фрунзе). Выйграў 6:3. Абыграў на нагах і зрабіў накат. Фінал з Купатадзэ (кмс, "Працоўныя рэзервы" Тбілісі). Першы бал прайграў, затым зрабіў прыганамку на два балы. У другім перыядзе я ўжо прыплыў. Ён увесь час ідзе ў ногі, Лік 6:5 да канца 30 секунд, я выйграваю. Ён ідзе на мяне, і я кідаю яго прагінам. Тушэ за 5,30. Я першы."*

На гэтым першынстве Міхальчук выступаў як кмс.

22-27 лютага. Будапешт. Спартакіяда таварыства "Дынама" і дружалюбных таварыстваў сацыялістычных краін. 1964-65 г.н. +100 кг. 3 удзельнікі. 2/0. 1 месца.

Першая сутычка з балгарынам Барбутавым, выйграў 9:0. Па норах, расцяжка ў партэры. Другая сутычка з румынам Сабо. 1.20 чыста - у дзве нагі, накат, адхоп, за пятку і паклаў.

9-12 красавіка. Гародня. 38-я спартакіяда школьнікаў вобласці 1967-68 г.н. + 97. 6/0 - усё чыста. 1 месца

17-22 красавіка. Ленінград. Усесаюзныя спаборніцтвы сярод юнакоў 66-67 г.н., да 97 кг. 3/2. 3 месца.

*"Выйграў 3 сутычкі і 2 прайграў. 7 балаў Ткенілашвілі. Прапусціў 2 нагі, задняя падсечка - прайграў 4 балы са сваіх дзеянняў. 1:1. Парвану: бал аддаў па дурасці, на сваім прыёме ўзяў галаву зверху, ён выслізнуў узбоч."*

1-8 траўня. Улан-Батар. Турнір сац. краін, дарослыя, +100 кг. 0/1.

*"Прайграў сутычку манголу 3:1, быў траўміраваны пасля Ленінграда і зняўся."*

11-14 ліпеня. Гомель. Спартакіяда юнакоў "Дынама", 67-68 г.н. 4/0 - усё чыста. 1 месца.

10-15 верасня. Ташкент. 17-я Ўсесаюзная спартакіяда школьнікаў. 5 удзельнікаў. 4/1. 2 месца.

1. Парван. 2. Міхальчук. 3. Жывіца. 4. Касмачоў. 5. Хубулуры. Дзве сутычкі выйграў чыста, адну 8:0, адну 2:1. Фінал прайграў 5:0. *"Быў зусім мёртвы, нічога не мог зрабіць."*

9-12 кастрычніка. Варонеж. Першынство таварыства "Дынама" сярод юніёраў 1965-67 г.н. +100 кг. 3/0. 1 месца.

Удзельнікі: Міхальчук (Бел.), Абдулкерымаў, (Масква), Дзідкоўскі (Укр.), Гур'еў (Кірг.), Маўза (Літ.) Арыпаў (Узб.). Фінал 7:2.

**1985 г. 18 гадоў.**

6-10 лютага. Кіравакан. Першынство СССР сярод юніёраў да 100 кг. 2 месца.

3 сакавіка. Рэспубліканскія летнія юнацкія гульні +97 кг. 1 месца.

23 верасня. Гомель. Міжнародны турнір сярод юніёраў. +100 кг. 1 месца.

2 кастрычніка. Бабруйск. Першынство БССР сярод юніёраў, да 100 кг. 1 месца.

Юнацкія гульні СССР - 8 месца.

**1986 г. 19 гадоў.**

16 лютага. Фрунзе. Першынство СССР сярод юніёраў да 100 кг. 1 месца.

**10- 15 ліпеня. Канада. Чэмпіянат свету сярод юніёраў. 1 месца.**

2 лістапада. Наваі. Кубак СССР. 3 месца.

5-7 снежня. Гародня Першынство БССР сярод юніёраў, 100 кг. 1 месца.

Рост 187 см, вага ад 97 да 120 кг.

31.09.81 па 1.09.82 - 13 спаборніцтваў, 44 сутычкі: выйграў 35, чыста 25, па балах 10; прайграў 9, па балах 5, чыста 4.

31.09.82 па 1.09.83 - 14 спаборніцтваў, 50 сутычак: выйграў 47, чыста 36, па балах 11; прайграў 3, чыста 1.

31.09.83 па 1.09.84 - 10 спаборніцтваў, 35 сутычак, выйграў 32, чыста 24, па балах 8; прайграў 3, усё па балах.

28-30 кастрычніка 1994 у Лідзе быў праведзены першы міжнародны турнір па вольнай барацьбе, прысвечаны памяці пераможца Кубка Свету Ігара Міхальчука сярод юнакоў 1980-81 г.н.

***Алег Трусаў,***
***кандыдат гістарычных навук,***
***дацэнт кафедры гісторыі Беларусі і***
***музеязнаўства Беларускага дзяржаўнага***
***універсітэта культуры і мастацтваў***

# Мінулае і сучаснасць Лідскага замка

У XIV ст. усе беларускія землі разам з літоўскімі і большай часткай украінскіх увайшлі ў новую еўрапейскую дзяржаву – Вялікае Княства Літоўскае (поўная афіцыйная назва з XV ст. – Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае). Утварэнне гэтай дзяржавы – вынік унутранага сацыяльна-эканамічнага і палітычнага жыцця часткі старажытна-беларускіх земляў (Гарадзенскае, Наваградскае і Полацкае княствы) і ўсходне-літоўскіх плямёнаў – у XII– XIII стст. было значна паскорана іншаземнай агрэсіяй. Толькі разам можна было адбіцца ад крыжацкай і татарскай навалы, захаваць сваю незалежнасць, культуру і мову. Аб'яднанне адбывалася рознымі шляхамі, але пераважна мірным – праз дагаворы і шлюбныя сувязі феадалаў і ў цэлым было прагрэсіўнай з'явай.

На беларускіх і ўкраінскіх землях узровень развіцця феадальнага грамадства быў больш высокі, чым на ўласна-літоўскіх, таму яны мелі вялікі ўплыў на ўсе сферы ўнутранага жыцця дзяржавы. Дастаткова сказаць, што дзяржаўнай мовай у Вялікім Княстве Літоўскім аж да канца XVII ст. была беларуская.

Але крыжацкая небяспека існавала ўсё XIV стагоддзе да 1410 г., калі аб'яднаныя сілы беларусаў, палякаў, літоўцаў і іншых народаў нанеслі смяротны ўдар Тэўтонскаму ордэну пад Грунвальдам.

Крыжацкія набегі на беларускія землі асабліва ўчасціліся ў канцы XIII – пачатку XIV ст. Старыя драўляныя ўмацаванні з мураванымі вежамі-стаўпамі ўжо не маглі стрымаць узброенага да зубоў ворага. Таму ў першай палове XIV ст. узнікае абарончая сістэма з магутных замкаў у Лідзе, Наваградку, Крэве, Медніках, Вільні і Троках. Гэта былі як старыя драўляныя, з цягам часу адбудаваныя з каменю і цэглы замкі-дзядзінцы, так і новы тып замкаў – кастэлі, запазычаны на Захадзе.

Слова "кастэль" мае старадаўнюю лацінскую аснову (castellum – замак) і спачатку азначала ўмацаваны валам і ровам лагер рымскага легіёна. У XIII – XIV стст. кастэлем у Заходняй Еўропе назвалі невялікі мураваны замак, які звычайна меў адну ці дзве вежы і будаваўся ў нізіннай мясцовасці на штучным насыпе.

Мясцовыя дойліды, узяўшы за ўзор рыцарскі кастэль, прыстасавалі гэты тып абарончага збудавання



**Лідскі замак-кастэль.** *Фотарэканструкцыя Ігара Пешахонава.*



**Агульны выгляд Лідскага замка XV-XVI стст.** *Рэканструкцыя аўтара.*

да сваіх умоў. Яны значна павялічылі плошчу замкавага двара, дзе маглі ў час небяспекі знайсці прытулак не толькі войска, але і мірнае насельніцтва, са сваім скарбам.

Будаўніцтва Лідскага мураванага замка – аднаго з самых вялікіх на тэрыторыі Беларусі (памеры двара складаюць прыблізна 80Х80 метраў) – прыпадае на 20-ыя гады XIV стагоддзя. Тады на чале Вялікага Княства Літоўскага стаяў князь Гедзімін, які ўвайшоў у гісторыю як таленавіты палкаводзец, змагар супраць крыжакоў. Ён разумеў, што спыніць наступ крыжацкага войска могуць толькі мураваныя замкі з моцнымі залогамі. Таму, скарыстаўшы мудрыя дыпламатычныя хады, князь заключыў часовае перамір'е з Ордэнам і вясной 1323 года разаслаў лісты ў ганзейскія (паўночна-нямецкія) гарады, якія не вельмі шанавалі крыжакоў, з запрашэннем на працу розных рамеснікаў, у тым ліку і муляроў. Ёсць меркаванні, што ганзейскія майстры прынялі непасрэдны ўдзел у пабудове Лідскага замка.[1]

Для забудовы была абрана невялікая пясчаная выспа (дзюна) ў балоцістай сутоцы двюх рэк – Лідзейкі і Каменкі. Выспу пераўтварылі ў штучную прамавугольную пляцоўку і месцамі яе дасыпалі жвірам, камянямі, буйной рачной галькай да вышыні 5—6 метраў. З поўначы, на адлегласці 7 метраў ад яе праходзіў шырокі (каля 20 метраў) роў, які злучаў дзве ракі і аддзяляў умацаванне ад горада.

Беларускі вучоны Міхась Ткачоў падлічыў, што для будаўніцтва Лідскіх муроў спатрэбілася каля 23 тысяч кубічных метраў каменю, каля 1,5 мільёна цэглін, вялікая колькасць вапны і пяску. Розныя пісьмовыя крыніцы сведчаць, што работы на замку вяліся 5—7 гадоў. Падчас раскопак на тэрыторыі Лідскага замка ў пяску былі знойдзены фрагменты прыладаў працы і зброі людзей каменнага веку. Пясок на замчышча вазілі з найбліжэйшых радовішчаў. Бліжняе пескавішча знаходзілася за 200-300 м ад замка па сучаснай вул. Камсамольскай. Кар'еры там ліквідавалі толькі пасля апошняй вайны. Калі пясок вазілі адсюль, то легенды пра даўнія пасяленні людзей на тэрыторыі Ліды маюць пэўны матэрыяльны грунт.

Недалёка ад будучага замка за год-два да пачатку работ рабілі ямы для гашэння вапны. Потым, калі вапна была падрыхтавана, а будаўнічая пляцоўка расчышчана ад кустоў і выпадковых камянёў, капалі ямы пад падмуркі. Магчыма, што ў XIV стагоддзі яшчэ не ўмелі разбіваць на мясцовасці дакладна, геаметрычна акрэслены план будучага замка, і таму замкавыя муры ніколі не ўтвараюць у плане правільных геаметрычных фігур накшталт квадрата альбо прастакутніка. Дарэчы, лідскія майстры памыліліся пры вызначэнні кірунку ўсходняй замкавай сцяны і частку ўжо закладзенага падмурка (гэта высветлілася падчас раскопак) давялося пакінуць у зямлі.

Капалі ямы драўлянымі рыдлёўкамі, краі якіх былі акаваны жалезам. Пакуль ішлі земляныя работы, на

вазах прывозілі камяні для падмуркаў і сцен, пясок для рошчыны і абпаленую цэглу: яе складвалі штабялямі ў пэўным парадку.

У выкапаныя неглыбокія, каля метра, равы для падмуркаў кідалі вялікіх і сярэдніх памераў камяні, перасыпалі іх пяском альбо глінай. Верхнія рады пралівалі вапнавай рошчынай. Затым браліся за працу муляры. Памочнікі падносілі ім камяні і цэглу, рошчыну ў драўляных начоўках, ваду ў цэбрах (таксама драўляных). Усё гэта падавалася наверх па лесвіцах і на спецыяльных блоках з дапамогай вяровак. У тоўшчу сцен у якасці арматуры клалі драўляныя брусы.

Адначасова з мурамі раслі і рыштаванні вакол іх. Яны значна адрозніваліся ад сучасных, бо не прывязваліся да сцен, а мацаваліся за кошт таго, што канцы драўляных кансольных бэлек закладаліся непасрэдна ў муроўку. Пасля заканчэння будаўніцтва іх проста адразалі або вымалі.

Лідскі замак пабудаваны з палявога каменю і цэглы. Таўшчыня сцен унізе – 2 метры, уверсе яны звужаюцца да 1,5 метра і пераходзяць у баявую галярэю. Парапет галярэі, таўшчынёй у 70 сантыметраў, складзены з цэглы, мае адзін рад байніц трох тыпаў. Насціл галярэі апіраўся на драўляныя бэлькі сячэннем 20X20 сантыметраў. На паўднёвай і ўсходняй сценах знаходзіліся два цагляныя данскеры (туалеты) на каменных фігурных кансолях.

Спачатку замак меў толькі адну вежу – у паўднёва-заходнім куце двара. У плане яна ўяўляла сабой квадрат (па ўнутранаму абводу амаль 9X9 метраў). Як высветлілі археолагі, ад яе засталіся толькі фрагменты падмуркаў.

У XV ст. рамак меў тры ўваходы. У паўднёвай сцяне на адлегласці 22 метраў ад вежы – невялікі паўцыркульны праём на вышыні 4 метраў ад першапачатковага ўзроўню двара, які, відаць, лічыўся запасным (на выпадак выведкі або ўцёкаў), і трапіць туды можна было толькі з дапамогай доўгай прыстаўной альбо вяраўчанай лесвіцы. Два ўваходы – ва ўсходняй сцяне: малы, зроблены на ўзроўні абрэза падмуркаў сцяны, і вялікі (відаць, крыху пазнейшы), размешчаны каля паўночна-ўсходняй вежы на вышыні 2,5 метра. Трапіць у замак праз вялікі ўваход можна было толькі дзякуючы пад'ёмнаму масту. Пра яго наяўнасць сведчыць вялікая разгрузачная спічастая ніша, якую праразаў уваходны праём меншых памераў.

Праём малога ўваходу меў таксама паўцыркульную форму і вышыню 2,45 метра. Захаваліся сляды ад бегункоў варот. Гэта два вялікія камяні ў аснове аркі з круглымі гнёздамі-адтулінамі. Знадворку малы ўваход бараніла падковападобнае ў плане збудаванне, ад якога засталіся нязначныя рэшткі падмуркаў.

Вонкавыя паверхні замкавых муроў зроблены з вялікіх, часткова абчасаных валуноў, што пакладзены гарызантальнымі, дакладна вызначанымі радамі. Камяні добра падабраныя адзін да аднаго. Прамежкі паміж імі запоўнены каменнымі аскалёпкамі на вапнавай рошчыне (цагляныя кліны сустракаюцца вельмі рэдка). Забутоўка паміж "шчокамі" сцен – з дробных камянёў. Цэгла ўжывалася толькі для асноўных канструктыўных элементаў і архітэктурных дэталяў. З яе выкладзены вуглы замкавых муроў і вежаў, дэкаратыўныя паясы на



**Паўночна-ўсходняя вежа і фрагмент усходняй сцяны XV ст.** *Рэканструкцыя аўтара.*

фасадах усходняй і паўночнай сцен, аркі, скляпенні, байніцы і вонкавыя паверхні парапета баявой галерэі (крэнеляжа).

Цагляныя паясы знадворку замкавых сцен выкананы ў тэхніцы балтыйскай, або вендскай, муроўкі. Гэта чаргаванне двух, альбо трох доўгіх бакоў цагліны і кароткага.

Муроўка выканана з цэглы двух тыпаў памерамі 31Х15Х10 і 31Х14Х7 сантыметраў. Вузейшая ішла толькі на аблямоўку крэнеляжа.

На некаторых цаглінах захаваліся слабыя адбіткі пальцаў старажытных цагельнікаў, якія рукамі ці спецыяльнымі прыладамі збіралі рэшткі гліны паверх драўлянай формы. Перад абпалам цэгла сушылася або проста на зямлі, або на пасыпанай пяском пляцоўцы, недалёка да жылля рамеснікаў. Таму зрэдку на ёй сустракаюцца сляды лап свойскай жывёлы: сабак, катоў, свіней, коз. Часам можна ўбачыць "шрамы" ад травы і адмеціны ад дажджу.

Дзякуючы археалагічным даследаванням, можна сцвярджаць, што ў першай палове XIV стагоддзя існавала толькі паўночна-заходняя вежа замка, якая мела ахоўнае і жылое прызначэнне. Асноўны цяжар абароны прыходзіўся на муры з баявой галерэяй, што яшчэ не былі разлічаны на ўжыванне агністрэльнай зброі. У час ваеннай небяспекі каля байніц стаялі воіны, узброеныя лукамі і арбалетамі (самастрэламі). Апошнія з'явіліся ў XIII стагоддзі і шырока ўжываліся да пачатку XVI стагоддзя. Кароткая і цяжкая арбалетная страла ляцела на меншую адлегласць, чым лучная, але яе забойная сіла была значна большай: гранёныя цяжкія наканечнікі маглі прабіць стальную браню цяжкаўзброеных рыцараў. Шмат розных па форме наканечнікаў лучных і арбалетных стрэл знойдзена ў Лідскім замку. У 1976 годзе археолагі адшукалі і касцяны "арэх" – асноўную дэталь спускавага механізма самастрэла.

У канцы XIV—пачатку XV стагоддзя ўнук Гедзіміна, вялікі князь Вітаўт, перабудоўвае замак і робіць яго адным з самых магутных у Вялікім Княстве Літоўскім. У сувязі з развіццём вайсковай справы для ўмацавання замка будуецца другая, паўночна-ўсходняя, вежа з разлікам на вядзенне гарматнага бою. Кладзецца яна з цэглы лепшай якасці і іншых памераў – 29—30 Х 14 Х 7,5—8 сантыметраў.

Вежа прыбудавана да муроў упрытык. Таўшчыня сцен, якія выходзілі на двор —3 метры, а дакладкі да двухмятровых муроў замка (зроблены з мэтай узмацніць сцены) – 83 сантыметры. Падмуркі яе ляжаць на 70—80 сатыметраў глыбей замкавых.

Некалі вежа мела арачны дзвярны праём з двара (ён выкладзены са спецыяльнай фігурнай цэглы) і лесвіцу ў тоўшчы заходняй сцяны шырынёй 1 метр з драўлянымі прыступкамі на цаглянай аснове. Паўночная і ўсходняя сцены знутры аздоблены дзвюма нішамі, а ў паўднёвай першага паверха захаваліся дзве глыбокія нішы-печы, што некалі ацяплялі верхнія памяшканні. Першы паверх меў крыжовае скляпенне, рэбры якога выкананы са стрэлападобнай цэглы.[2] Абедзве вежы былі накрыты паўцыркульнай дахоўкай.

Падчас раскопак двара высветлілася, што з трох бакоў (акрамя паўднёвага) да замкавых муроў туліліся драўляныя аднапавярховыя будынкі-казармы (захаваліся рэшткі падмуркаў, печаў і абгарэлых бярвенняў). Шырыня іх каля 4 метраў. Непадалёку ад заходняй сцяны стаяў асобны будынак, дзе, напэўна, жыў са сваёй сям'ёй камендант замка (кашталян). Гэта было збудаванне прамавугольнае ў плане (6Х4 метры), з каменным падмуркам, пакладзеным на гліне. Яго памяшканні абаграваліся кафлянай печкай.

Ва ўсходняй частцы двара знаходзіліся два калодзежы. Адзін, меншых памераў, непадалёку ад паўночна-ўсходняй вежы. Другі, вялікі, відаць, прызначаўся для таго, каб паіць жывёлу, бо да вады вяла брукаваная сцежка. Пры раскопках прасочаны рэшткі драўляных калодзежных зрубаў. Сярэдзіна замкавага двара была таксама забрукавана. Каля паўднёва-ўсходняй вежы мясціліся кузня і салдацкая кухня.

Гістарычны лёс Лідскага замка надзвычай складаны. У XIV стагоддзі яго муры не раз вытрымлівалі націск крыжакоў. Упершыню пад замкавымі сценамі яны з'явіліся ў 1384 годзе. Пасля працяглай аблогі і штурму ворагі захапілі замак. Другі раз набег быў зроблены зімой 1392 года, калі балоты вакол умацавання скаваў лёд. Захопнікі спалілі навакольныя будынкі, абрабавалі горад і аблажылі замак. Кіраўнік абароны, князь Карыбут, які меў нязначную колькасць воінаў, вырашыў не чакаць штурму і ноччу праз патаемны ход разам з залогай пакінуў цвердзь. Рыцары захапілі шмат вайсковага рыштунку і зброі. Праз два гады крыжацкія



**Абаронец Лідскага замка XIV-XV стст.**
*Рэканструкцыя мастака В. Кіслага па матэрыялах раскопак..*

атрады зноў напалі на Ліду, але на гэты раз замак выстаяў. Пры падтрымцы жыхароў горада воіны залогі мужна адбілі ўсе атакі непрыяцеля.

Сляды зацятых баёў з крыжаносцамі засталіся ў культурным археалагічным слоі на замкавым двары і знешніх схілах муроў. Гэтатоўстыя праслойкі вугалю – сведкі пажараў, рэшткі рознай зброі, а таксама рыштунку конніка і збруі каня.

У 1977 годзе ў ваколіцах Ліды падчас меліярацыйных работ знойдзены кароткі лёгкі меч – корд – даўжынёй каля метра. Датуецца ён XV стагоддзем. Зараз экспануецца ў Лідскім краязнаўчым музеі. На яго лязе ёсць два кляймы: г. Пасаў – “воўк” і крыжык на дузе. Хутчэй за ўсё меч паходзіць з Германіі, бо такія знакі, як



**Знакаміты лідскі корд XV ст.** *Адзіны корд, знойдзены на тэрыторыі Беларусі.*

пасаўскі “воўк”, сустракаюцца на зброі з тагачасных нямецкіх гарадоў. Падобнае кляймо стаіць на мячы пскоўскага князя Даўмонта. Корд знайшлі студэнты будатрада Гарадзенскага мединстытута і перадалі будатраду БДУ імя Пічэты, які вёў раскопкі замка.

Непадалёку ад замка мясцовы жыхар у сваім агародзе адкапаў каваны кінжал даўжынёй 43 сантыметры. Круглая адтуліна для скуранога раменьчыка ў верхняй частцы дзяржальна сведчыць, што насілі яго на рамяні. Папярэдне знаходка прадатавана XIV стагоддзем.

На замкавым двары адшуканы абламаны наканечнік дзіды, які завяз у конскім чэрапе, і ўток – металічная акоўка ніжняй часткі дрэўца дзіды. (Уток мацаваўся да дрэўца цвіком і дазваляў воіну пры неабходнасці лёгка ўваткнуць цяжкую дзіду ў зямлю).

Сведчаннем шматлікіх нападаў на Лідскі замак з’яўляецца і вялікая колькасць каменных ядраў розных памераў з вапняку і граніту. Іх дыяметр вагаецца ад 7-9 да 34 сантыметраў. Датуюцца ядры канцом XIV— сярэдзінай XVII стагоддзя. У асноўным яны гарматныя, але некаторыя, асабліва вялікіх памераў, маглі прызначацца і для каменямётаў, што былі на ўзбраенні воінаў да XV стагоддзя. Гарматы з’явіліся на Беларусі ў XIV стагоддзі, і доўгі час з іх стралялі выключна каменнымі ядрамі.

Ціск крыжакоў на Панямонне рэзка ўзмацніўся ў канцы XIV ст. Так у 1393 годзе яны разбурылі замкі ў Гародні, Мяркіне, Дзярэчыне і Лідзе. Зноў пад Лідай яны з’явіліся ў першай палове 1394 года.[3] Магчыма тады і пачалі ў Лідскім замке будаўніцтва другой новай вежы.

Некаторыя гісторыкі лічаць, што хаўруснік Вітаўта хан Тахтамыш, які ў 1395—1396 г.г жыў у Кіеве, потым тры гады жыў у Лідскім замку[4].[5] Магчыма, што Вітаўт падрыхтаваў і ўмацаваў замак дадатковай вежай менавіта да прыезду сюды такой значнай асобы.

Дасталося Лідскаму замку і ў час міжусобных войнаў. У пачатку XV стагоддзя каля яго муроў апынуліся войскі смаленскага князя Юрыя, які прыйшоў вызваляць сваю сям’ю, захопленую ў палон Вітаўтам. Смаляне спалілі горад, некалькі разоў штурмавалі замак, але ўзяць яго не здолелі. Неўзабаве у 1433 годзе замак аблажылі войскі князя Свідрыгайлы, прэтэндэнта на вялікакняскі пасад. Зноў горад ушчэнт спляжыў агонь, але абаронцы замка мужна адбілі ўсе прыступы наезнікаў.

У 40-ых гадах XV стагоддзя Лідскім старастам быў яшчэ адзін перабежчык з Залатой Арды – хан Даўлет



**Касцяная дэталь арбалета XIV-XV стст.** *Знойдзена пры раскопках Лідскага замка. Фота аўтара. Публікуецца ўпершыню.*

Хаджы-Гірэй. Яму лёс выпаў больш шчаслівы, чым яго папярэдніку, Тахтамышу, бо з дапамогай феадалаў Вялікага Княства Літоўскага ён стаў ханам перакопскіх татар.

У другой палове XV стагоддзя замак часова знікае са старонак старажытных летапісаў і хронік. І гэта недзіўна. Бо для Ліды надышлі адносна спакойныя часы. Расла гарадская забудова, яна ў тую пору была драўлянай і размяшчалася на поўнач ад замка.

У гэты час Лідскі замак быў адным з самых значных умацаванняў ва ўсім Вялікім Княстве Літоўскім. Таму, невыпадкова Вялікі князь Аляксандр у 1506 годзе вырашыў склікаць сойм ВКЛ у Лідзе і перадаць сваю ўладу, паколькі ён смяротна захварэў, свайму



**Касцяныя накладкі на калчан для стрэлаў XV-XVI стст.**
*З раскопак Лідскага замка. Фота аўтара.*

малодшаму брату Жыгімонту. Ён прыехаў у Лідскі замак і там 24—25 чэрвеня склаў тастамант, паводле якога ўся ўлада пераходзіла да яго малодшага брата.

Аднак у траўні 1506 года адбыўся чарговы напад на ВКЛ крымскіх татараў. У першай палове чэрвеня іх войска стала лагерам у ваколіцах Клецка. Неўзабаве татарскія орды пачалі набліжацца да Ліды. Вось як гаворыць пра той час Хроніка Быхаўца – старажытнабеларускі летапіс: *"...В лето сёмое тысячы пятнадцатого, а од божыяго нароженія тысяча пятсот сёмого после пленения землі Літовской от безбожных татар, і прыехал король і велікі князь Аляксандр до Вільні з Ляхов немоцон вельмі немоцою паралітыковою, і вчынiл сейм в городе Ліде. I будучы ему со всімі паны в Ліде, прышла ко нему вест, іжэ царэвічы перекопскіе Біты-Кірей солтан а Бурнаш солтан прыйшлі з дватцатма тысячма людей ко Слуцку, ідут к Новогородку... татарове прішедші а Новогородку, і скоро прыйшлі за Немон і не доходячі Ліды, около города, от всіх сторон в мілі і в полумілі от города, воевалі церкві божые і дворы велікіе, і весі зажыгалі і людей імалі і забівалі..."* (У арыгінале тэкст напісаны лацінкай).

Таму Вялікага князя Аляксандра давялося тэрмінова на насілках перанесці ў Вільню. Разам з ім была жонка Алена Іванаўна і двор. Аднак штурмаваць умацаваны замак татары баяліся. У гэты час было сабрана народнае апалчэнне колькасцю ў дзесяць тысяч чалавек, якое разбіла прыхадняў у ваколіцах Ліды, на адлегласці адной мілі ад яе, а праз кароткі час ушчэнт разграміла татараў пад Клецкам.

Што ж уяўляў сабой горад і замак у XVI—XVII стагоддзях? Сярэднявечная Ліда – гэта замак, княжацкі двор, уласна горад з падзамчам і прадмесцем, што звалася Зарэчча.

Княжацкі двор, альбо замкавы фальварак, у XVII стагоддзі знаходзіўся за замкам каля рэчкі Каменкі. Інвентар 1680 года згадвае пра млын у фальварку на рацэ Лідзейцы.

Сам горад, як адзначалася вышэй, размяшчаўся толькі па адзін бок замка, на поўнач ад яго. У цэнтры быў рынак, адкуль бралі пачатак чатыры вуліцы. Віленская выходзіла на шлях да Вільні. Ад рынка паўз замак вілася Замкавая, ад яе пачыналася Каменская, якая вяла да дарогі на мястэчка Васілішкі. Вуліца Крывая злучала рынак з Каменскай. (Яе працяг ад Каменскай да замка ў пачатку XIX стагоддзя насіў назву Нова-Кармелітанскай).

Жыхары Ліды былі ў асноўным праваслаўнымі і каталікамі. Гісторык Шымялевіч паведамляе, што да 1553 года ў замкавай вежы знаходзілася праваслаўная царква, якую потым перанеслі ў горад. У 1579 годзе пабудавана сінагога, а затым і кальвінскі збор.[6]

У часы панавання караля Рэчы Паспалітай Яна Казіміра ў горадзе налічвалася каля 15 тысяч насельніцтва, і Ліда атрымала магдэбургскае права (пры Жыгімонту). Сваіх умацаванняў горад не меў, таму ў час небяспекі жыхары шукалі паратунку ў замку.

На той час замак атрымаў дадатковае ўмацаванне – штучнае возера, якое прыкрывала яго з усходу. Гэта возера ёсць на планах і малюнках XVIII—XIX стагоддзяў. Замак з'яўляўся дзяржаўнай маёмасцю і ахоўваўся мясцовай шляхтай. Тут знаходзіліся склады зброі, стаяла залога, паўночна-ўсходняя вежа час ад часу скарыстоўвалася як турма.

Гісторыкі XIX стагоддзя сцвярджаюць, што ў 1638 годзе гараджане атрымалі дазвол збудаваць унутры замка склеп для захоўвання земскіх актавых кніг. Трэба аднак зазначыць, што пры археалагічных даследаваннях рэшткі склепа выявіць не ўдалося. Магчыма, што архіў мясціўся ў вежах. Да канца XVIII стагоддзя тут адбываліся гарадскія суды.

Пра побыт насельнікаў Лідскага замка ў XVI—XVII стагоддзях расказваюць знаходкі археолагаў – вялікая колькасць кафлі, кухоннага і сталовага керамічнага посуду, вырабаў з металу, каменю і косці.[7] Асабліва ўражвае пячная кафля, якой тут некалькі тысяч фрагментаў.

Як ужо адзначалася вышэй, воіны жылі ў драўляных казармах, прыбудаваных да каменных замкавых муроў. Жылыя будынкі ў асноўным мелі форму выцягнутых прамавугольнікаў, падзеленых перагародкамі на асобныя памяшканні. У кожным пакоі стаяла кафляная печ. Пад час шматлікіх аблогаў замка і пажараў драўляныя забудовы гарэлі, а печы разбураліся. Але насельнікі замка хутка зноў аднаўлялі сваё жыллё на старых каменных падмурках, а разбітыя кафлі ішлі на адбудову пода новых печаў.

Поды тых печаў, зробленыя з гліны, невялікіх камянёў і бітай цэглы, захаваліся. Тут жа сабрана мноства гаршковай і каробкавай кафлі, што дазваляе прааналізаваць яе паступовае развіццё, а па іншых археалагічных матэрыялах, напрыклад манетах, вызначыць час існавання таго ці іншага тыпу альбо варыянту. Пасля рэстаўрацыі даследчыкі змаглі выдзеліць два віды і каля трыццаці разнавіднасцяў лідскай кафлі, з якой выкладалася асноўная паверхня печаў.

За гады раскопак ў Лідскім замку сабрана і ўжо часткова адноўлена вялікая колькасць кухоннага і сталовага посуду. Асартымент непаліваных вырабаў паўсядзённага ўжытку, якія адносяцца да XIV—XV стагоддзяў, небагаты. Гэта гаршкі з накрыўкамі, патэльні і цёрлы. Нягледзячы на самыя розныя памеры – ад 0,2 да 8 літраў і больш – посуд прыцягвае ўвагу сваёй зручнасцю, прапарцыянальнасцю. Гліняная паверхня яго крыху грубаватая, часам мае дэкор ў выглядзе прамых ці хвалістых ліній.

XVI стагоддзе прадстаўлена значнай колькасцю найменняў ганчарных вырабаў, традыцыйны кухонны посуд папаўняецца сталовым, пакрытым зялёнай альбо карычневай палівай ці чорнаглянцаваным. Гэта латкі, міскі, рынкі, патэльні, збаны. А вось талеркі, новыя формы місак і паўмiскаў, стопкі, кубкі, куфлі, спецыяльныя начынні для прыпраў і парфумы, гліняныя скарбонкі, фляжкі выраблены ў канцы XVI—першай палове XVII стагоддзя. Пры нанясенні дэкору майстры скарыстоўвалі штамп з малюнкам у выглядзе ромбікаў, што дазваляла атрымліваць арнаменты, характэрныя для традыцыйнага беларускага прыкладнога мастацтва.

Некаторыя талеркі і паўмiскі аздабляліся роспісам. Малюнак наносіўся па гатоваму контуру ў спалучэнні з адвольным сюжэтам. Пасля абпалу выраб пакрываўся бясколернай ці злёгку падфарбаванай палівай і зноў абпальваўся.

Пачынаючы з часоў вялікага князя Аляксандра шляхецкая культура ВКЛ пачынае запазычваць элементы польскай шляхецкай культуры. Сярод імпартнага керамічнага посуду польскай вытворчасці дамінуе белагліняная паліваная кераміка. Сярод паліванага посуду знойдзенага ў Лідскім замку, польская белагліняная кераміка складае каля 12%, што значна болей, чым знойдзена археолагамі на тэрыторыі іншых беларускіх замкаў. Выключэнне толькі Мірскі замак. Тут знайшлі 1119 фрагментаў імпартнага польскага посуду, што складае 20% ад усяго гліянага посуду. Датуецца польская кераміка XVI— пачаткам XVII ст.[8]

Археолагамі знойдзены і цыліндрычныя шкляніцы на паддонах, аздобленыя дзвюма альбо трыма



**Лідская кафля XV-XVI стст.** *Вынікі раскопак.*

шклянымі стужкамі. Адшуканы таксама шарападобныя флаконы XVII стагоддзя, упрыгожаныя па гарызанталі і вертыкалі шклянымі жгутамі, келіхі на масіўных ножках, кілішкі канічнай формы і адвольна фармаваныя стопкі з бясколернага шкла. Дапаўняюць калекцыю кварты і бутэлькі, у якіх захоўваліся вадкасці. Кварты трапляюцца таўстасценныя, з зялёнага шкла, альбо танкасценныя, фармаваныя са шкла асветленага.

Сабрана шмат вырабаў лідскіх рамеснікаў, спецыялістаў па апрацоўцы розных металаў. Яны выраблялі нажы, чаранковыя альбо з прыкляпанымі драўлянымі ці касцянымі накладкамі, нажніцы, круглыя і трохвугольныя вісячыя замкі, ключы, крэсівы, спражкі, сякеры, завесы, прабоі, вугалкі, каваныя цвікі розных памераў, падковы.

Да цікавых знаходак можна аднесці музычны інструмент – варган (у народзе называлі дрымбай) і кавалак гранёнага злітка, магчыма, свінцовага, з выявай "трызубца". У адной з нішаў паўночна-заходняй вежы замка адшуканы металічная пасудзіна з акруглым донцам, двума вушкамі і прымацаванай накрыўкай. Не выключана, што гэта парахаўніца.

Даследчыкі адкапалі некалькі дзесяткаў срэбных і медных манет. Самымі раннімі з'яўляюцца дзве манеты Кейстута і Вітаўта. Яны датуюцца XIV стагоддзем, знойдзены ў паўночна-ўсходняй вежы. Пры расчыстцы адной з пабудоў каля паўночнага замкавага мура выяўлены скарб з 5 манет. Гэта грош Жыгімонта ІІ Аўгуста (1536 год), венгерскі дэнарый Максіміліяна ІІ (1566 год), солід (шылінг) Стэфана Баторыя (1582 год) і два соліды Жыгімонта ІІІ Вазы (1610 год).

Сабраныя ў замкавым двары некалькі дзесяткаў гліняных грузіл для рыбалоўных сетак, вялікая жалезная бляшна з кручком, шмат костак дзікіх жывёл, у тым ліку рогі зубра – доказ таго, што насельнікі замка займаліся рыбалоўствам і паляваннем. А ў вольны ад працы час яны часта сядзелі за шахматнай альбо шашачнай дошкай, аб чым сведчаць касцяныя фігуры XIV—XVI стагоддзяў.



**Шахматная касцяная тура (ладдзя).**
*З раскопак Лідскага замка. Фота аўтара.*

Пра гандлёвыя сувязі расказваюць знаходкі іншаземных рэчаў. У першую чаргу гэта кавалак фаянсавага блюда, ў аснову роспісу якога пакладзены сюжэт з міфа аб Лаакаоне. На адваротным баку яго часткова захаваўся надпіс лацінскімі літарамі. Няма сумнення, што гэта італьянская маёліка.[9]

На тэрыторыі замкавага двара адшуканы таксама два кавалкі вялікага пасудзіны, зробленай у Паўднёвай Германіі ў XVII стагоддзі. Пакрытая празрыстай салянай глазурай і аздобленая барэльефам у выглядзе галавы льва рэч адносіцца да так званай рэйнскай керамікі. Такія багатыя археалагічныя знаходкі сведчаць аб высокім дабрабыце насельнікаў замка.

У сярэдзіне XVII— пачатку XVIII стагоддзя мірнае жыццё горада Ліды было перапынена войнамі. Летам 1659 года замак з усіх бакоў аблажыла 30-тысячнае





**Срэбная манета канца XVI-XVII стст. 6х6 см.**
*З раскопак Лідскага замка. Фота аўтара.*
*Публікуецца ўпершыню.*



**Гаршчок пер. пал. XVII ст.** *З раскопак Лідскага замка. Рэканструкцыя Уладзіміра Ўгрыновіча.*



**Шпора XVI-XVII стст.**
*З раскопак Лідскага замка. Фота аўтара.*

войска царскага ваяводы Мікіты Хаванскага і пасля гарматнага абстрэлу і працяглай асады ўзяло яго. Усе драўляныя будынкі былі спалены (і больш ужо не аднаўляліся), а калодзежы засыпаны. Пасля заканчэння вайны на тэрыторыі замка ніхто пастаянна не жыў. Моцны ўдар лідскім мурам нанеслі шведы, якія ў пачатку XVIII стагоддзя ўзарвалі абедзве вежы, і ўмацаванне страціла сваё стратэгічнае значэнне.

Як ужо адзначалася, пасля Паўночнай вайны на тэрыторыі Лідскага замка жылых пабудоў не было, муры яго паступова пачалі разбурацца. Аднак ва ўцалелых памяшканнях захоўваліся гарадскія акты і праходзілі суды.

Пасля трэцяга раздзелу Рэчы Паспалітай, 14 снежня 1795 года, Ліда ўвайшла ў склад Расійскай імперыі, а з 8 жніўня 1796 года стала павятовым (уездным) горадам Слонімскай губерні.

Трэба адзначыць, што ў канцы XVIII - пачатку XIX стагоддзя замак яшчэ ўражваў сучаснікаў сваёй магутнасцю. Тады стаялі амаль усе замкавыя муры з байніцамі і аркатурным поясам на паўночнай і ўсходняй сценах, дзе-нідзе рэшткі вежаў захоўваліся да ўзроўню трэцяга паверха. Менавіта з гэтага часу пачалося навуковае даследаванне помніка, да нас дайшлі яго першыя замалёўкі і апісанні.

У канцы XVIII стагоддзя ўмацаванне замаляваў вядомы мастак Іосіф Пешка. На яго акварэлі бачна штучнае возера вакол маляўнічых руін замка, на поўнач ад муроў — будынак прыходскага касцёла, узведзены ў 1770 годзе заміж старога драўлянага. Гарадской забудовы вакол замка яшчэ няма.

У канцы мінулага стагоддзя літоўскія гісторыкі архітэктуры перадалі сваім калегам беларусам тры новыя, яшчэ не ўведзеныя ў шырокі навуковы ўжытак малюнкі з выявай Лідскага замка. На адным з іх ёсць




**Конскія падковы XVII-XVIII стст.**
*З раскопак Лідскага замка. Фота аўтара. Публікуецца ўпершыню.*



**Лідскі замак.** *Гравюра XVIII ст.*



**Лідскі замак.** *Малюнак Іосіфа Пешкі, канец XVIII ст.*

дата 1825 год. Каштоўнасць гэтых замалёвак вельмі вялікая, бо на іх упершыню пазначаны асобныя архітэктурныя дэталі помніка. Акрамя выразна акрэсленага аркатурнага пояса на паўночна-ўсходняй вежы з боку горада на ніжніх паверхах заўважаюцца шырокія вокны-байніцы арачнай формы, падобныя да тых, што калісьці асвятлялі княжацкую вежу Крэўскага замка. З усходу ніжнія паверхі вежы былі без вокан, а акно-байніца на ўзроўні трэцяга альбо чацвёртага паверха выходзіла на балкон.

З паўднёва-заходняга боку замак замалявалі ў першай палове XIX стагоддзя вядомыя жывапісцы В. Дмахоўскі і В. Гразноў. Найбольшай дакладнасцю вызначаецца карціна Васіля Гразнова, дзе паказаны асобныя дэталі забудовы, ў тым ліку і адзін з данскераў на ўсходняй сцяне. На той час рэшткі вежаў ужо былі ніжэйшымі, а штучнае возера пачало зарастаць чаротам.

Лідскі замак цікавіў і мясцовых гісторыкаў. Для вывучэння помніка многа зрабіў Тэадор Нарбут. Нарадзіўся ён непадалёку ад Ліды - у маёнтку Шаўры (зараз Воранаўскі раён Гарадзенскай вобласці), дзе і правёў большую частку свайго жыцця. Займаўся гісторыяй, археалогіяй, этнаграфіяй і краязнаўствам, аўтар шматтомавай «Гісторыі літоўскага народа», шэрагу іншых навуковых прац. У яго краязнаўчых работах найбольш каштоўнымі з'яўляюцца звесткі па гісторыі Ліды.

Вучоны меў вялікую колькасць архіўных матэрыялаў, якіх зараз не захавалася. Заснаванне Ліды Нарбут адносіў да 1180 года, аднак археалагічныя раскопкі на тэрыторыі горада і замка не пацвердзілі гэту дату. Самыя раннія знаходкі можна аднесці толькі да XIV стагоддзя.

Не апраўдаліся таксама меркаванні тых гісторыкаў XIX стагоддзя, якія лічылі, што на месцы замка раней было паселішча. Нарбут абследаваў руіны ўмацавання ў самым канцы XVIII стагоддзя і пакінуў звесткі, што ў адной з кутніх вежаў былі шыкоўныя залы і пакоі на верхнім паверсе, на ніжнім — судовая і архіўная «ізбы», а таксама турма.

У сярэдзіне XIX стагоддзя абмеры і замалёўкі лідскіх муроў выканалі рускія вучоныя. Іх матэрыялы захаваліся ў архіве Акадэміі мастацтваў у Санкт-Пецербургу. У гэты час замак малюе знакаміты графік Напалеон Орда. Сітуацыя вакол помніка ўжо іншая: возера амаль перасохла, а гарадская забудова падступае бліжэй да ўмацавання. Малюнак зроблены ў папулярным тады стылі рамантызму, што значна сказіла сапраўдныя абрысы замка. Так, паўночна-ўсходняя вежа паказана круглай і выступаючай за лінію муроў, чаго ў сапраўднасці не было. Вельмі недакладна паказаны і верхнія часткі сцен.

Канец XIX стагоддзя стаў для замка трагічным. У 1891 годзе Ліда згарэла, прычым агонь спляжыў самы цэнтр яе, разам з будынкам ратушы, узведзеным у XVIII стагоддзі. Мясцовыя гарадскія ўлады, не разумеючы гістарычнай каштоўнасці замка, наладзілі разборку і распрадажу муроў, выкарыстоўваючы іх для адбудовы горада. З адхонаў замкавага пагорка сталі браць пясок. Тады былі амаль цалкам знішчаны рэшткі паўднёва-заходняй вежы і разабрана частка заходняй сцяны. Толькі ўмяшанне археалагічнай імператарскай камісіі з Пецярбурга спыніла гэты вандалізм.

У канцы XIX стагоддзя былі зроблены і першыя фотаздымкі Лідскага замка, якія аздобілі некаторыя тагачасныя паштоўкі. Параўноўваючы іх, можна заўважыць, што разбурэнне муроў працягвалася. На адным са здымкаў бачны парушаны паўднёва-ўсходні вугал умацавання. (Шмат адлюстраванняў замка з розных бакоў захоўваецца зараз у рукапісным аддзеле бібліятэкі Віленскага універсітэта.). У 1908-1910 гадах замак вывучаў вядомы рускі рэстаўратар Пётр Пакрышкін. Ён зрабіў абмеры муроў і іх здымкі.

З пачатку XX стагоддзя гісторыяй замка цікавіўся таксама М. Шымялевіч (поўнае імя невядома). У 1906 годзе ў зборніку «Віленскі каляндар» ён надрукаваў артыкул "Горад Ліда і Лідскі замак", якім карысталіся шматлікія пазнейшыя даследчыкі.

У 1909 годзе для частковай кансервацыі старажытнага ўмацавання былі адпушчаны невялікія сродкі - 943 рублі. Будаўнікі раскідалі ненадзейныя месцы муроў, а паверхні сцен абмазалі цэментнай рошчынай. На дрэнную якасць кансервацыйных работ скардзіліся сучаснікі. У 1911 годзе беларускі археолаг Вандалін Шукевіч пісаў, што будаўнікі замуравалі байніцы на паўночнай сцяне, а цэментная нашлёпка на сценах пачала прыцягваць вільгаць, што разбурала вонкавыя паверхні муроў. У час Першай Сусветнай вайны, а таксама рэвалюцыі і грамадзянскай вайны замак не быў пашкоджаны.

У 20-ыя гады мінулага стагоддзя, калі па Рыжскаму пагадненню Заходняя Беларусь трапіла пад уладу Польшчы, лідскія муры крыху паднавілі польскія рэстаўратары. Яны злучылі каменнай агароджай заходнюю і паўднёвую сцены, часткова залажылі разбураны паўднёва-ўсходні кут і замуравалі бакавыя ўваходы. На месцы парушанага паўночна-заходняга вугла з'явіліся драўляныя вароты, праз якія можна было трапіць на замкавы падворак. У летку тут часта спыняўся вандроўны цырк альбо звярынец, а зімой пасярэдзіне двара ставілі ёлку і залівалі каток .

Летам 1929 года замак вывучаў вядомы беларускі мастак Язэп Драздовіч і прысвяціў яму альбом замалёвак. Самыя вартыя з іх аркушы — «Выгляд замчышча з паўднёва-заходняга боку» і «Паўночна-заходняя сцяна замка». На першым малюнку — старажытнае мураванае ўмацаванне лёгка ўзвышаецца над навакольнымі хатамі, пануе над мясцовасцю. Вельмі пластычна пададзена паўночная сцяна забудовы з цікавым пярэднім планам. На ўзгорку пры замкавым муры ўзнялі гарызантальна выцягнутыя кроны дзве старыя сасны, што нагадваюць італьянскія пініі. Унізе, каля дарогі, стаіць студня з адмысловай стрэшкай.

У верасні 1939 г. на вуліцах Ліды з'явіліся чырвонаармейцы. Заходняя Беларусь уз'ядналася з БССР. 22 студзеня 1940 года ўрад рэспублікі прыняў пастанову аб ахове ў заходніх абласцях БССР помнікаў рэвалюцыі, мастацтва, старажытнасці і захаванні архіваў. Лідскі замак атрымаў статус помніка архітэктуры .

У чэрвені 1941 года на Ліду пасыпаліся фашысцкія бомбы. Мясцовыя жыхары расказвалі, што апынуўшыся ў горадзе, захопнікі спачатку трымалі ў замку ваеннапалонных, а потым зрабілі там склады боепрыпасаў. У 1944 годзе, калі вораг ужо адступаў на захад, тут неаднойчы ўзрываліся снарады, але сцен умацавання яны не пашкодзілі. Калі ж савецкія войскі вызвалілі горад, то замкавы двор увесь быў пакрыты глыбокімі вырвамі, паўсюдна валяліся снарады і міны. Даволі многа іх ляжала ў ямах, засыпаных зямлёй. З гэтымі "падарункамі" апошняй вайны і сутыкнуліся пазней

археолагі. Не раз ім даводзілася спыняць раскопкі і выклікаць сапёраў. Так, у 1978 годзе было знойдзена 150 снарадаў і 8 мінамётных мін, шмат патронаў і ўзрывальнікаў. Яшчэ большую колькасць снарадаў паднялі з зямлі ў 1986 годзе. Толькі ў адным з катлаванаў іх налічылі з паўтысячы. Прыйшлося на цэлы месяц адтэрмінаваць раскопкі і рэстаўрацыйныя работы.

Пасля вайны на архітэктурныя вартасці замка звярталі ўвагу розныя даследчыкі. Адзін з першых пасляваенных навуковых артыкулаў, непасрэдна прысвечаных гэтаму помніку, быў напісаны А. Палеесам у 1947 годзе і надрукаваны ў часопісе "Беларусь". У 1953 годзе Лідскі замак увайшоў у спіс помнікаў архітэктуры рэспублікі, якія былі ўзяты пад дзяржаўную ахову.

Калі ў верасні 1967 года ЦК КПБ і Савет Міністраў БССР прынялі Пастанову аб правядзенні неадкладных рамонтна-рэстаўрацыйных работ на помніках гісторыі і архітэктуры, то руіны лідскіх муроў трапілі ў зацверджаны дакумент пад нумарам 13.

У 1967 г. рашэннем мясцовых улад Лідскі замак перададзены пад шэфскі нагляд будаўнічаму трэсту № 19 і там абсталяваны спартыўныя пляцоўкі, падведзена вада і некалькі зімаў заліваўся каток для забаў. У 1970 г. была зроблена спроба ўмацаваць муроўку з-за пастаянных абвалаў вуглоў сцен, што было даручана будаўнічаму трэсту № 19.

Упершыню археалагічныя доследы на замкавым падворку пачаліся ў 1970 годзе пад кіраўніцтвам Міхася Ткачова. Каля вежаў замка заклалі шурфы. Высветлілася, што паўднёва-заходняя вежа больш ранняя. Ад яе часткова захаваўся падмурак таўшчынёй тры метры. Ткачоў выказаў меркаванне, што другая вежа была ўзведзена альбо пасля 1384 года, альбо на мяжы XIV - XV стагоддзяў. Яго даціроўка пацвердзілася ў выніку далейшых даследаванняў. Вучоны таксама прасачыў, што ўмацаваная забудова стаіць на высыпе са жвіру, пяску і камення.[10]

У 1972 г. на адной з сесій абласнога савета народных дэпутатаў было ўзнята пытанне аб аднаўленні замка і зроблена абгрунтаванне гэтай задачы. Ідэю падтрымаў тагачасны старшыня аблвыканкаму Р. Фамічоў.

У 1974 годзе на тэрыторыі замка 12 невялікіх шурфоў заклаў Яраслаў Зверуга. Але тут даследчыку не пашанцавала. Ва ўсіх шурфах, зробленых па перыметру сцен на адлегласці 10 метраў ад іх, знаходзіўся перамешчаны культурны слой.

…Ішоў час. З кожным годам прыгажэла Ліда. На яе вуліцах адзін за адным выраслі шматпавярховыя жылыя дамы. Побач з замкам узнялася дзевяціпавярховая гасцініца, крыху далей - высотны гмах інтэрната для будаўнікоў.



**Студэнцкі будатрад імя В.І. Пічэты на раскопках Лідскага замка ў 1977 г. У цэнтры харугва будатрада з выявай Лідскага замка і Пагоні.** *Публікуецца ўпершыню.*

На фоне новай забудовы сумна выглядалі замкавыя муры, ад якіх час ад часу адвальваліся і каціліся уніз вялікія камяні. Заходняя сцяна нахілілася ў бок дарогі, дзе несціхана стаяў гул цяжкавагавага аўтатранспарту. На замкавым двары «гаспадарыў» будаўнічы трэст, які прыстасаваў яго пад невялікі стадыён. Помнік у цэнтры вялікага горада трэба было ратаваць.

Першы заказ ад Лідскага гарвыканкаму на кансервацыю муроў прыйшоў у Спецыяльныя навуковарэстаўрацыйныя майстэрні Міністэрства культуры БССР у 1975 годзе. Закладзеныя ў верасні 1976 года архітэктурна-археалагічныя шурфы, а таксама шматлікія гістарычныя крыніцы паказалі ўнікальнасць гэтага шэдэўра беларускага дойлідства. Тады навуковы кіраўнік рэстаўрацыйных работ, архітэктар Сяргей Багласаў прапанаваў свой варыянт поўнай адбудовы замка і актыўнага прыстасавання яго для сучасных культурных патрэб горада. Праект быў абмеркаваны і зацверджаны на пасяджэнні Лідскага гаркаму партыі і гарвыканкаму. Мясцовыя ўлады выдаткавалі патрэбныя грашовыя сродкі для здзяйснення задумы.




**Першы вымпел з выявай Лідскага замка і Пагоні, выраблены ў колькасці 150 асобнікаў студэнтамі будатрада імя В.І. Пічэты ў 1977 г.**
*(Публікуецца ўпершыню.)*

Каб распрацаваць дэталёвы праект рэстаўрацыі, тых звестак, якія сабралі гісторыкі, не хапала. Патрабаваліся значныя археалагічныя даследаванні.

У 1977-1978, а таксама ў 1980 і 1985 гадах раскопкі ў замку праводзіў аўтар. У 1977 годзе былі цалкам ускрыты рэшткі абедзвюх вежаў, знойдзены астаткі некаторых драўляных пабудоў на замкавым двары, вызначана месца, адкуль пачынаўся роў перад паўночнай замкавай сцяной. Усе археалагічныя і рэстаўрацыйныя работы выконвалі студэнты будаўнічага атрада імя У.І. Пічэты (першага рэктара БДУ), сфармаванага на гістарычным факультэце універсітэта. Імя У.І. Пічэты насілі студэнцкія будатрады ў 1977, 1978 і 1980 гадах, што само па сабе было справай рызыкоўнай (У.І. Пічэта ў 30-ягады быў рэпрэсаваны). Будучыя гісторыкі працавалі самаадданна. Асабліва цяжка даваліся раскопкі паўночна-ўсходняй вежы, рэшткі якой былі завалены вялізнымі валунамі. Тысячы камянёў вынесла адтуль за два месяцы брыгада студэнтаў з сямі чалавек.

У 1978 і 1980 гадах пры расчыстцы астаткаў асноўных пабудоў на замкавым двары адкапаны дзве студні. Вывучэнне культурнага слоя двара пазней (у 1986—1987 гадах) прадоўжыў Алесь Краўцэвіч. Ён выявіў рэшткі падмуркаў драўлянага будынка, што стаяў асобна ў паўночнай частцы падворка. У выніку раскопак знойдзена шмат каштоўных матэрыялаў, якія ляглі ў аснову праекта аднаўлення Лідскага замка.

Летам 1978 года для вядзення рэстаўрацыі быў створаны вытворчы ўчастак. Сюды прыйшлі мясцовыя рабочыя, узначаліў іх майстар Іосіф Матэйка. Амаль кожны дзень, нягледзячы на сваю занятасць, заходзіў у замак Уладзімір Логаш, што тады быў старшынём гарвыканкаму. Не раз дапамагаў ён тэхнікай, звяртаўся на будаўнічыя заводы Літвы па спецыяльную вялікапамерную цэглу і хвалістую дахоўку. І справа пайшла. Адзін за другім аднаўляліся колішнія муры. Першай над сценамі замка ўзнялася паўночна-ўсходняя вежа. Яе ўпрыгожыў флюгер-ветранік з выявай герба ВКЛ – знакамітай "Пагоняй".

Вялікую цікавасць выклікаў праект замка ў гараджан. На вуліцы былі выстаўлены малюнкі будучага аднаўленага помніка, каля якіх збіралася многа людзей. Спецыяльна была наладжана экскурсія для начальнікаў цэхаў і кіраўнікоў аддзелаў завода "Лідсельмаш", пасля чаго прадпрыемства аказвала дапамогу ў яго аднаўленні. Пры падтрымцы міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі рэспублікі і яго міністра А.Бязлюдава ў горадзе з'явілася праектная група з дзесяці чалавек, для распрацоўкі праектаў дабраўпарадкавання тэрыторыі вакол замка. Значны ўклад у гэту справу тады ўнёс галоўны архітэктар горада А. Пархута.

Непазнавальна змянілася і гарадская тэрыторыя вакол замка. З паўночнага боку раскінулася вялікая плошча, самая прыгожая ў горадзе. Спынены рух цяжкавагавага транспарту каля заходняй сцяны замка. Каб захаваць паступовы пераход ад сучаснай высотнай забудовы да помніка XIV стагоддзя перад ім пакінулі тры невялікія адна- і двухпавярховыя дамы канца XIX – пачатку XX ст. У адным з іх, дзе ў свой час жыў паэт Валянцін Таўлай, будзе створаны Лідскі літаратурны

музей , у другім плануецца адкрыццё Дома рамёстваў, на больш аддалены час спланавана аднаўленне возера каля замка.

Не абышлося і без памылак. Вясной 1986 года раптоўна абваліўся кавалак адноўленай заходняй сцяны. Будаўнік І. Матэйка лічыць, што на разбурэнне магло паўплываць будаўніцтва інтэрната будтрэста непадалёк ад замка, што выклікала значную вібрацыю. Таксама ў савецкі час каля Ліды размяшчалася вайсковая авіяцыйная база і некаторыя знішчальнікі перадольвалі гукавы бар'ер непасрэдна над замкавымі мурамі. Некаторыя ўскладаюць віну на недобрасумленнасць будаўнікоў. Як высветлілася, работы па рэстаўрацыі вяліся ў марозы, і рошчына не змацавала каменні належным чынам. Другі кавалак гэтай сцяны абваліўся ў 2003 годзе.

З 80-х гадоў XX ст. рэстаўратары працавалі над знойдзенымі археалагічнымі экспанатамі. Частку металічных вырабаў расчысціў і закансерваваў Я. Улезла, мастацтвазнаўца М. Яніцкая зрабіла графічныя рэканструкцыі шклянога начыння, а студэнты кафедры керамікі тэатральна-мастацкага інстытута пад кіраўніцтвам дасведчанага выкладчыка У. Угрыновіча аднавілі вялікую колькасць кафлі і рознага посуду.

На той час меркавалася, што аднаўленне замка будзе завершана да 1985 г. Тэрыторыю замкавага двара планавалася прыстасаваць пад гістарычна-археалагічны музей з паказам на мясцовасці планаў былой драўлянай забудовы. У цэнтральнай частцы падворка хацелі размясціць адкрыты гарадскі тэатр, дзе летам маглі гучаць народныя песні, праходзіць фестывалі і гарадскія святы. Намаганнямі дэмакратычных дэпутатаў у Вярхоўным Савеце ўдалося дабіцца выдзялення сродкаў на падводку да замка інжынерных камунікацый. Быў распрацаваны праект і пракладзены трубы пад адбудаваную вежу, якія, трэба думаць, і да гэтага часу знаходзяцца ў рабочым стане і чакаюць падключэння да іх замкавых сістэм камунікацый. Нажаль, рэстаў-



**Лідскі замак. Пачатак першага этапа рэстаўрацыі.**

рацыйныя работы не былі завершаны і спыніліся з-за недахопу фінансавання ў сярэдзіне 1990-х гг.

Доўгі час Лідскі замак стаяў фактычна безгаспадарчым і не закансерваваным, таму многае з таго, што было зроблена ў 1970—1980-я гг. было разбурана, ніякіх работ па яго захаванні не праводзілася.

Толькі ў 2001 г. на рэспубліканскім ўзроўні было прынята рашэнне аб распрацоўцы праекта правядзення першачарговых супрацьаварыйных работ у замку (разборка аварыйнай сцяны і адной з вежаў, кансервацыя пэўных частак). Праект падрыхтавалі ў 2003 г., але сродкаў на яго ажыццяўленне не знайшлі.

Не пакідаюць без увагі замак і розныя грамадскія арганізацыі. Так, Міністэрства культуры здаволіла просьбу кіраўніцтва грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" і для правядзення работ па аднаўленні помніка выдзелілі 100 млн. рублёў з рэспубліканскага бюджэту.

Сёння рэстаўрацыя Лідскага замка нарэшце пачалася, дакладней пачаўся яе другі этап. Зменены падрадчык, які павінен весці разборку аварыйных участкаў сценаў і выконваць рэстаўрацыйныя работы. Зараз гэтым займаецца Лідскі будтрэст № 19. У Лідзе быў створаны пазабюджэтны фонд для назапашвання сродкаў на рэстаўрацыю замка і адкрыты спецыяльны рахунак у філіяле 413 АСБ "Беларусбанк" у Лідзе, на якім знаходзілася больш за 70 мільёнаў рублёў. На сённяшні дзень разабраны аварыйныя сцяна і вежа, праводзяцца работы па дабраўпарадкаванні прылеглай тэрыторыі. На дадзеных работах выкарыстана 60 млн. рублёў, якія паступілі на рахунак пазабюджэтнага фонда захавання культурнай спадчыны Лідчыны. З абласнога бюджэта вылучана 200 млн. рублёў.[11] У траўні 2006 года падрыхтавана праектна-сметная дакументацыя другога этапа рэканструкцыі Лідскага замка. Яе распрацоўкай займаецца УП "Мінскпраект". Нажаль, кантрольныя органы знайшлі нейкія парушэнні пры ўтварэнні фонда, і рахунак быў закрыты.

17-18 верасня 2005 года ў Лідзе прйшоў сярэднявечы фестываль "Замак Гедзіміна", сродкі атрымання ад яго правядзення былі накіраваны на рэканструкцыю Лідскага замка. Арганізатары гэтага мерапрыемства, Рэспубліканскае Грамадскае маладзёжнае аб'яднанне "Рыцары Вялікага Княства" і Лідскі райвыканкам, хацелі прыцягнуць увагу да праблем Лідскага замка. Асаблівасць фестываля ў правядзенні адразу і коннага турніра, і двух пешых, а таксама і турніра лучнікаў. У фестывалі прымалі ўдзел не толькі беларускія клубы, але і клубы з Расіі, Украіны, Польшчы, краін Балтыі. Замест чаканых 420 удзельнікаў, зарэгістравалася 500. Па ацэнцы арганізатараў, за два дні фестывалю ў замку пабывала 10 тысяч гледачоў.[12]

Пасля правядзення ў Лідскім замку Міжнароднага рыцарскага турніру жыццё тут не заглохла, наадварот замак пачаў жыць і функцыянаваць як турыстычны аб'ект. Пасля турніру тут быў наведзены парадак, і супрацоўнікі Лідскага гістарычна-мастацкага музея приступілі да экскурсійнага абслугоўвання замка. У лістападзе 2005 г. ля ўязной брамы замка прымацавана ахоўная дошка, на якой напісана "Гісторыка-культурная каштоўнасць замак XIV ст. Прычыненне шкоды караецца па закону".

19-20 траўня 2007 года ў Лідскім замку праходзіў фэст рыцарскіх баёў. У замку на кожны сеанс збіралася некалькі тысяч чалавек. Гледачоў, на замкавы двор пускалі па дзве тысячы, а за сценамі працавалі, адпачывалі, гулялі тысячы лідзян і гасцей горада. Працаваў горад майстроў, кіпеў гандаль, гучалі песні і музыка на сцэнічнай пляцоўцы. У жніўні 2007 г. праз замак прйшоў трэці Беларускі аўтакруіз "Замкавая Беларусь – сувязь часоў і пакаленняў".

Зараз вучоныя і архітэктары спрачаюцца аб тым, якім будзе ўнутраны двор замка. Гэтае пытанне абмяркоўвалі на навукова-метадычным савеце кіравання па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры. Спрачаліся не аб рэстаўрацыі замкавага двара, а аб канцэпцыі выкарыстання замка як архітэктурнага помніка.

Якім шляхам пайсці: гістарычна каля сцен замка стаялі драўляныя пабудовы. Адзін з варыянтаў, які прапаноўваюць рэстаўратары – узнавіць двор як гістарычны комплекс: з казармамі і домам каменданта. Ёсць думкі аб тым, каб зрабіць замак арэнай для прадстаўленняў і рыцарскіх фестываляў. Выказываюцца ідэі перадаць адну з вежаў півавaрам: і падтрымка мясцовага бізнеса, і аднаўленне традыцый. Архітэктары-рэстаўратары, хаця і прызнаюць рацыянальнасць прапаноў, але перасцерагаюць ад празмернага захаплення масавымі мерапрыемствамі. Напрыклад, для таго



**Крыжакі ў Лідскім замку. Міжнародны рыцарскі турнір 2005 г.** *Фота Ігара Пешахонава.*



**Лідскі замак перад другім этапам рэстаўрацыі.** *2006 г. Здымак Ігара Пешахонава.*

каб пусціць ў замак вялікую колькасць гледачоў, трэба ствараць дадатковы выхад (у адпаведнасці з патрабаваннямі МЧС).[13]

Плануецца, што на першым паверсе вежы будзе размешчана экспазіцыя з прадметаў, знойдзеных падчас археалагічных раскопак ў Лідзе. Па замку можна будзе праводзіць экскурсіі, наладжваць ў ім канцэрты. Ужо ўзнавілася традыцыя заліваць у замкавым двары каток у зімовы час.[14]

Зараз рыхтуецца новы праект турыстычнага абслугоўвання ў Лідскім замку. Ён распрацоўваецца і ажыццяўляецца краязнаўчым музеем сумесна з лідскай турыстычнай фірмай "Святавід". У новую праграму ўключаны экскурсіі па замку і знаёмства з экспазіцыяй у вежы Вітаўта. Турыстам прапануецца стаць гледачамі тэатралізаванага прадстаўлення, якое ўключае абход замка рыцарамі лідскіх рыцарскіх клубаў, фрагмент вяселля Ягайлы з Соф'яй Гальшанскай. Акрамя таго, ахвочыя будуць мець магчымасць пастраляць з лука, памераць рыцарскія даспехі, сфатаграфавацца.[15]

Такім чынам Лідскі замак будзе жыць і зможа стаць прывабным месцам для айчыннага і замежнага турызму.

____

[1] Narbutt, T. Dzeje Narodu Litewskego. Wilno, 1839, t. IV. S. 518-519.

[2] Багласов, С.Г.; Трусов, О.А. Историко-архитектурные исследования и реставрация Лидского замка // Вопросы архитектуры Лит. СС, - 1981. – Вып. VII. С. 34.

[3] . Гудавичюс, Э. История Литвы с древнейших времен до 1569 года. Том 1.—М.: Фонд имени И.Д.Сытина. Baltrus. С. 200.

[4] Тарас, А.Е. Войны Московской Руси с Великим княжеством Литовским и Речью Посполитой в XIV—XVIII веках.—М.: АСТ; Мн.: Харвест, 2006. С.89.

[5] Кулагін, А.Н. Абарончая архітэктура Беларусі X—XIV стст. у кантэксце славянскай і агульнаеўрапейскай гісторыі будаўнічай культуры // Архітэктура Беларусі: нарысы эвалюцыі ва ўсходнеславянскім і еўрапейскім кантэксце. У 4 т. Т. 1. IX-XIV стст.—Мн.: Бел. навука, 2005. С. 315.

[6] Шемелевич, М. Город Лида и Лидский замок // Виленский календарь.—Вильно, 1906. С. 50.

[7] Трусаў, А.А. Старадаўніх муроў адраджэнне = Древних стен возрождение: Мінулае і сучаснасць Лідскага замка.—М.: Полымя, 1990.—79 с.

[8] Здановіч, Н. Замкавая кераміка як адлюстраванне шляхецкай культуры Беларусі // Матэрыяльная і духоўная культура замкаў Беларусі. – Мн.: БелДІПК, 2003. С. 85.

[9] Ганецкая, І.У. Маёліка на Беларусі ў XI—XVIII стст. – Мн.: Навука і тэхніка, 1995. С. 29.

[10] Ткачоў, М.А. Лідскі замак // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі.— № 2. 1971. С. 16.

[11] Кузняцоў, С. Адраджэнне замка. // Звязда – 2005.—15 красавіка.—С. 5.

[12] . Цыганец, В. Лідская крэпасць будзе жыць! // Культура – 2006.—21 студзеня.—С.5.

[13] www.naviny.by

[14] www.nawet.ru

[15] www.belorusiyaland.ru/lida.

# Фэст рыцарскіх баёў у Лідзе
## 19-20 траўня 2007 г.

### Patria superomnio

Такі дэвіз быў напісаны на сцягу аднаго з рыцарскіх гуфаў, якія бралі ўдзел у Фэсце рыцарскіх баёў, што праходзіў у Лідзе 19-20 траўня. Фэст ладзілі Менская унія "Меч і крумкач" і Лідскі райвыканкам. Арганізатарам коннага турніру быў менскі клуб "Залатая шпора".

У фэсце бралі ўдзел каля 40 рыцарскіх клубаў і калектываў па рэканструкцыі старадаўняй культуры з пяці краін. На рысталішча выходзілі рыцары трох краін: Беларусі, Украіны і Расіі.

Беларусь была рэпразантавана Менскам, Віцебскам, Полацкам, Магілёвам, Гомелем, Берасцем, Гародняй, вядома, Лідай і многімі іншымі гарадамі.

Каля паловы беларускіх клубаў займаецца рэканструкцыяй культуры Вялікага Княства Літоўскага, другая палова рэканструе культуры сярэднявечных Германіі, Францыі, Італіі, вікінгаў. Расіяне і ўкраінцы прадставілі рэканструкцыю толькі еўрапейскіх традыцый.

Праграма фэсту ўключала па чатыры сеансы кожны дзень. У першы дзень адбыліся два пешыя рыцарскія турніры, бугурт "Бой на мосце", конны рыцарскі турнір. У другі дзень адбыліся два бугурты, коннае меле і інсцэніроўка бітвы за замак.

У пешым шыхце найбольшай арганізаванасцю, моцаю і непахіснасцю вызначыўся клуб з Менска "Рыцарскі род снежнага барса". Параўнальна невысокага росту і сярэдняга целаскладу дзесятка "барсаў" ламала любога супраціўніка, выйграла 9 з 9-ці бітваў на мосце. "Барсы" ж складалі і аснову залогі горада. Кожная іхняя перамога суправаджалася воклічам: "Слава Вялікаму Княству Літоўскаму". Наогул у славу Вялікага Княства Літоўскага, а з ім і ўславу Беларусі на гэтым фэсце звінеў кожны меч, свістала кожная страла, грымела кожная гармата.

І цяпер можна вярнуцца да дэвізу "Patria superomnio", бо ўсё, што робяць гэтыя рыцарскія клубы і служыць менавіта таму, каб Бацькаўшчына для ўсіх нас была перад усім і над усім.

### І ажылі легенды

У замак на кожны сеанс збіралася некалькі тысяч чалавек, гледачоў пускалі па дзве тысячы, а за сценамі




***Рысталішча ў Лідскім замку***




***Бой на мосце***

працавалі, адпачывалі, гулялі многія тысячы лідзян і гасцей горада. Працаваў горад майстроў, кіпеў гандаль, раз пораз мяняліся бочкі з півам і квасам, не змаўкалі песні і музыка на сцэнічнай пляцоўцы.

Уразіў выкананнем старадаўніх песняў на французскай, правансальскай і іншых еўрапейскіх мовах гурт "DROLLS" з Петразаводска, цудоўна глядзеўся паланэз у выкананні "Тутэйшай шляхты" з БДУ, не адпускалі адысціся іншыя нумары і выканаўцы.

У Лідзе было свята нацыянальнай гісторыі, на-




***Бугурт***




***Да жалеза дадаўся агонь***



***Мужныя рыцары***



***Прыгожыя панны з Горада майстроў***

цыянальнага духу.

А ён, нацыянальны дух, не фармуецца на пустым месцы. Ён моцны тады, калі стаіць на трывалым грунце, такім як сцены і вежы нашых замкаў. Ён моцны тады, калі сілкуецца выглядам выйшаўшых са стагоддзяў высакародных рыцараў і прыгожых паннаў.

У нашым народзе не памерлі рамантычныя памкненні. Іх многія стагоддзі душылі, не давалі праявіцца. Эпоха рамантызму да нас запазнілася. Таму з такім захапленнем і замілаваннем глядзяць на рыцараў і дзеці, і дарослыя, якім у іхнім дзяцінстве ўталкоўвалі веды толькі пра далёкую Кулікоўскую бітву, а тут, дома іхняй спадчынай дазвалялася мець не рыцарскія турніры, а лапці ды жабрацкую торбу.

Але рамантызм не хоча абувацца ў лапці. З моманту, як ажыў Лідскі замак, ажыла ў Лідзе легендатворчасць. Дзецям задаюць сачыненні пра замак, ладзяць мастацкія і літаратурныя конкурсы, і чаго толькі яны не выдумляюць.

Выдумляюць версіі пра паходжанне назвы горада Ліды. Выдумляюць княжну Ліду ці то з трагічным, ці то шчаслівым лёсам. Малююць замак, рыцараў, князя Гедзіміна. Ад іх не адстаюць дарослыя, складнай, навуковай мовай працягваюць творчасць дзяцей. І, хто ведве, можа і ёсць у гэтых выдумках нейкае рацыянальнае зернейка.

Складаюцца легенды, клеплюца латы, куюцца мячы, ладзяцца прадстаўленні на гістарычную тэматыку. Гучаць імёны князёў: Гедзіміна, Альгерда, Кейстута, Вітаўта, Ягайлы, нашых князёў, а не нейкіх прыхадняў. І несучасныя, да нядаўняга часу малавядомымі імёнамі іхнімі ўжо пачынаюць называць малых лідзян.

Ці ёсць у Лідзе хоць адзін чалавек, які б ніколі не бачыў Лідскага замка? Мо толькі сляпы. Ці ёсць у Лідзе чалавек, які ні разу не бачыў рыцараў? Пэўна знойдзецца. Ці ёсць чалавек, які б не ведаў імя заснавальніка горада Вялікага князя Гедзіміна? Таксама знойдзецца. Але гэта таксама сляпыя, сляпыя духоўна. А ўвесь горад жыве ў рэжыме судотыку з замкам, з гісторыяй, з вечнасцю, імкнецца быць у гэтым судотыку вартым сваёй гісторыі, свайго мінулага, сваіх вялікіх продкаў.

Нельга прайсці пад сцяной замка і не адчуць яго веліччы. Нельга жыць у горадзе Лідзе і не дыхаць яго гісторыяй. Нельга жыць у Беларусі і не адчуваць адказнасці за яе лёс.

Замак - Ліда - Беларусь: так фармуецца свядомасць большасці малых лідзян. Аднаўляюцца, адбудоўваюцца сцены Лідскага замка - разбудоўваецца горад Ліда - квітнее Беларусь. Пройдуць гады і людзі, якія вырастуць каля адноўленых, магутных сценаў замка будуць вельмі адрозніваца ад тых, хто рос каля руінаў. І перш за ўсё духам, беларускім духам.

***Фотарэпартаж Ігара Пешахонава.***
***Тэкст Станіслава Судніка.***

# Першы марксіст Беларусі

### *170 гадоў з дня нараджэння Валерыя Ўрублеўскага, 15.12.1836-5.8.1908*

***Тэрмін "Беларусы эпохі тэарэтычнага марксізму" ў беларускай гістарыяграфіі малаўжывальны або неўжывальны зусім. І справа тут не ў тым, што такой катэгорыі людзей не было ці было мала. Яны былі: і не адзін, не два. Справа ў тым, што само геаграфічнае і этнічнае паняцце "Беларусь" не толькі было слаба вядомае на Захадзе, яно было слаба вядомае і дома. Яшчэ толькі лепшыя сыны беларускага этнасу пачыналі разбірацца з "тутэйшымі", паступова скіроўваючы думкі народных ў рэчышча беларускасці. На Захадзе ж пра Беларусь меркавалі па беларускай эміграцыі, а беларуская эміграцыя другой паловы XIX стагоддзя - гэта амаль на 100 адсоткаў каталіцкая шляхта, якая ў масе сваёй акрамя беларускай, выдатна валодала і польскай мовай, а пісала выключна па-польску, бо да новай беларускай пісьменнасці заставаўся яшчэ не адзін дзесятак гадоў. Таму гэтую польскаадукаваную шляхту на Захадзе лагічна лічылі палякамі, ды і многія з іх сябе самі перад Захадам адносілі да палякаў, і толькі паміж сабой эмігранты з былой Рэчы Паспалітай традыцыйна дзяліліся на каронных, ліцьвінаў, русінаў ды жмудзінаў. Таму лагічна, што беларускія эмігранты ў тыя часы ўваходзілі ў тыя ж эмігранцкія арганізацыі, што і польскія, і зусім лагічна, што гэтыя арганізацыі называліся і лічыліся польскімі, а сяброў гэтых арганізацый называлі палякамі. Праз 100 гадоў усіх выхадцаў з Савецкага Саюза на Захадзе называлі рускімі, не абцяжарваючы сябе праблемай разбірацца, дзе там грузін, а дзе латыш.***

***Адноль кавымі на тым этапе дзейнасці былі і мэты ды задачы польскай ды беларускай эміграцыі: усе побач з сацыяльнымі лозунгамі абавязкова ставілі нацыянальна-вызвольныя. У адных і другіх быў адзін вораг - расейскі царызм, пытанне нацыянальна-вызвольнай барацьбы беларусаў супраць палякаў яшчэ, або ўжо, не стаяла. Старыя польскія крыўды былі прыглушаны крыўдамі расійскімі, да новых польскіх крыўдаў было далёка. І хоць традыцыйны ліцьвінскі сепаратызм ніколі не паміраў, але перыядычна ён адсоўваўся на другі план. Таму ўсё, што напісана пра беларусаў эпохі тэарытычнага марксізму, напісана пра іх, як пра палякаў. Канешне, калі Валеры Ўрублеўскі ствараў і ўзначальваў эмігранцкую арганізацыю "Люд польскі", то можна зразумець, чаму гісторыкі адносяць сяброў гэтай арганізацыі да палякаў.***

***Вылучыць беларускі элемент у дзейнасці гэтых арганізацый цяжка. Лягчэй персаналізаваць гэты рух і выдзеліць дзейнасць ураджэнцаў Беларусі. Мы ўбачым цэлую пляяду такіх, як Урублеўскі, Судзілоўскі, Мінейка і многія іншыя. Па ўсім свеце, на ўсіх кантынентах стваралі яны сённяшнюю гісторыю Беларусі, закладвалі падмурак нацыянальных годнасці і гонару. Кожны з іх на Парыжскіх барыкадах, у гарах Грэцыі, на Гавайскіх выспах і г.д. ішоў да сваёй і нашай Беларусі.***

***Станіслаў Суднік.***

**РАЗАМ З МАРКСАМ І ЭГЕЛЬСАМ**

Дакладная дата ад'езду Ўрублеўскага з Парыжа, нажаль, невядомая. Першыя дакументальныя звесткі аб яго прибыцці ў Лондан утрымоўваюцца ў лісце Ф. Энгельса да В. Лібкнехта, адпраўленым з Лондана і датаваным прыкладна сярэдзінай жніўня 1871 г. Гэты ліст пачынаецца наступнай фразай: *"Урублеўскі, Лонге, Бастэліка знаходзяцца тут"*. Усе тры названыя асобы - прыбылыя з Парыжа камунары: Ш. Лонге - чалец Камуны, А. Бастэліка - службовая асоба адной з яе ўстаноў. Аб прыездзе Лонге ў Лондан Энгельс пісаў П.Л. Лаўрову ў лісце ад 9 жніўня 1871г. Ці прыехаў Урублеўскі разам з імі, з кімсьці адным з іх або зусім асобна, калі менавіта гэта адбылося? Адказу на гэтыя пытанні мы пакуль не маем.

Маркс і Энгельс уважліва сачылі за гераічнай барацьбой французскіх працаўнікоў і добра ведалі ўсіх бачных дзеячаў Парыжскай камуны. Пасля разгрому Камуны яны рабілі ўсё магчымае, для таго каб дапамагчы камунарам, якія апынуліся ў эміграцыі. Гэта былі загартаваныя барацьбіты, ваенны і палітычны дослед якіх з'яўляўся найкаштоўнейшым набыццём сусветнага рэвалюцыйнага руху. Генеральная Рада І Інтэрнацыяналу яшчэ з чэрвеня 1871 г. шмат займалася



***В. Урублеўскі***

камунарамі, якія прыбывалі з Францыі і нават утварыла адмысловы камітэт дапамогі эмігрантам Камуны, з якім супрацоўнічалі асобныя прагрэсіўныя дзеячы з ліку буржуазных радыкалаў і рэспубліканцаў. 25 жніўня Маркс пісаў у адным з лістоў, адрасаваных у Нью-Ёрк: *"На наступным тыдні Вы атрымаеце Зварот Генеральнай Рады аб дапамозе камунарам-эмігрантам. Асноўная маса іх (80-90 чалавек) знаходзіцца ў Лондане. Генеральная Рада дагэтуль ратавала іх ад згубы..."*



***К. Маркс***



***Ф. Энгельс***



***П.Л. Лаўроў***

Кіруючы ўсімі мерапрыемствамі па аказанні матэрыяльнай дапамогі камунарам і шмат займаючыся вывучэннем і тэарэтычным асэнсаваннем доследу Камуны, Маркс і Энгельс вельмі цікавіліся кожным удзельнікам падзей. Цалкам натуральна, што генерал Камуны Ўрублеўскі прыцягнуў іх увагу і вельмі хутка стаў у іх сталым госцем. Паміж імі ўсталяваліся адносіны поўнага разумення і даверу. Захавалася нямала кранальных сведчанняў іх сяброўства.

Першым чынам трэба было знайсці для Ўрублеўскага заробак, які даваў бы сродкі да існавання. Даволі падрабязна пра гэта распавёў Энгельс у лісце да П. Л. Лаўрова ад 29 лістапада 1871 г.: *"Пра Ўрублеўскага мы ўжо атрымалі звесткі ад Развадоўскага. [...]. Мы зрабілі ўсё, што было ў нашых сілах, але з-за ўпартага і хваравіта ганарлівага характару гэтага чалавека нам прыйшлося дзейнічаць вельмі асцярожна; тым не менш мы лічым, што нам удалося дабіцца хоць бы таго, што ён, прынамсі, мае самае неабходнае. Вы ведаеце, што ён адмаўляецца ад усякай медычнай дапамогі, і перамагчы гэтую забабоннасць будзе вельмі цяжка"*

Старыя раны, нервовая напруга і цяжкія ўмовы жыцця прывялі здароўе Ўрублеўскага да канца 1871 г. у поўны разлад. Неабходна было лячэнне, забяспечыць якое для немаёмнага чужаземца аказалася справай нялёгкай. Маркс усяляк стараўся дапамагчы генералу Камуны, загаворваў аб тым, каб памясціць яго ў лякарню Лонданскага ўніверсітэта. Горача падзякаваўшы за клопаты, Урублеўскі ў адным з сваіх лістоў Марксу пісаў: *"Пасля нашага прыбыцця ў Лондан мы, палякі, атрымалі з вашага боку гэтулькі ўвагі і ўсялякай дабрыні, што гэта выклікала у мяне глыбокае сяброўства да вас..." "Я поўны надзеі,- гаварылася далей у лісце,- з часам расплаціцца з усімі даўгамі Інтэрнацыяналу [...], грамадскай і палітычнай дзейнасці якога [...] я так горача адданы".* Хвароба неаднаразова прыкоўвала да пасцелі генерала Камуны; Маркс і Энгельс штораз клапаціліся аб ім і дапамагалі ўсім, чым маглі.

31 снежня 1871 г. Урублеўскі атрымаў запрашэнне сустрэць надыходзячы Новы год у сям'і Маркса. Хвароба перашкодзіла яму скарыстацца запрашэннем, і ён паслаў Марксу цыдулку: *"Сталыя хваробы не дазволілі мне правесці апошнія гадзіны гэтага страшнага года ў вашай паважанай сям'і, якая мне дае гэтулькі ўспамінаў аб лепшых днях майго жыцця і сваім абаяннем нагадвае мне родную хату. Адзін у сваім пакоі, я злосна п'ю мікстуру, абвяшчаючы тост за згубу старога свету і за тое, каб мы, поўныя надзей на будучыню, уступілі ў новы. Пасылаю вам братэрскае прывітанне".*

Адносіны Ўрублеўскага з Марксам і Энгельсам заставаліся сяброўскімі і ў наступныя гады. 3 студзеня 1873 г., напрыклад, Урублеўскі паслаў Энгельсу ліст, у якім паведамляў, што ўжо два тыдні з-за хваробы не ўстае з пасцелі, вельмі жадае ўбачыцца і пагаварыць па пытанні, якое цікавіць Энгельса. У верасні таго ж года Маркс настойліва прасіў Э. Освальда ўладкаваць Урублеўскага на працу. Пры гэтым ён пісаў пра Ўрублеўскага, як пра чалавека, *"які нарадзіўся ў Літве і ведае рускую мову гэтак жа добра, як і польскую".* Некалькі пазней, у верасні 1874 г., у Ўрублеўскага абвастрыліся болі, звязаныя з яго цяжкімі раненнямі. Энгельс, паведамляючы аб стане яго здароўя Марксу, пісаў у лісце ад 21 верасня: *"Урублеўскаму лепш, ён лячыўся электрычнасцю. Аб ампутацыі рукі не было і размовы, гутарка ішла толькі аб тым, каб выразаць кавалак цягліцы, у які, верагодна, урос канец нерва, што прычыняла боль. Але, відаць, яму прыйшлося жудасна цяжка, і нашыя грошы былі атрыманыя ў вырашальны момант".* Вышэй ужо гаварылася, што Ўрублеўскі бываў у сям'і Маркса. Нярэдка ён наведваў і Энгельса. Аб гэтым сведчыць, у прыватнасці, адзін з лістоў Энгельса да В. Лібкнехта ад чэрвеня 1872 г., у якім паведамлялася, што Ўрублеўскі праседзеў у Энгельса цэлы вечар.

Пачатак кантактаў Маркса і Энгельса з польскай дэмакратычнай эміграцыяй узыходзіць да 40-х гадоў XIX ст. Яны асабліва пашырэлі і памацнелі пасля стварэння Міжнароднага Таварыства Рабочых (верасень 1864 г.). Чальцамі Генеральнай Рады І Інтэрнацыяналу сталі спачатку Э. Халторп і Ф. Рыбчынскі, а затым К. Бобчынскі, Л. Жабіцкі, Л. Аборскі, Я. Крынскі,

забяспечвала прэстыж фірмы.

Шырока ўкараняецца тэхналогія фармавання вырабаў метадам прасавання. Пераважаюць колеры тыпу смарагд, сапфір, разалін і лалавы.

Удасканальваецца канструкцыя газагенератараў; нараўне з дровамі для атрымання генератарнага газу пачынаецца выкарыстанне торфу і каменнага вугалю.

Перад пачаткам Першай Сусветнай вайны 1914 г. на заводзе Столе Ю.А. працавалі 4 шкловарныя гаршковыя печы са здымам 4500 тн шкломасы ў год, вага гатовай прадукцыі перавышала 2700 тн/год, а колькасць працоўных - 1023 чалавекі. Магутнасць усталяваных рухавікоў дасягнула 196 к.с.

За 1914 г. на заводзе "Нёман-А" было выраблена прадукцыі на суму 281,4 тыс. руб., а рэалізавана - на суму 269,0 т.р. Усяго ж рэалізацыя па двух заводах склала 540,4 т.р.

З справаздачы фірмы за 1914 год па заводзе "Нёман-А" відаць, як размяркоўваліся выдаткі на выраб прадукцыі па артыкулах. У прыватнасці, выдаткі па матэрыялах складалі 11,8%; па паліве - 19,5%; фармаванне і дэкараванне вырабаў - 30,6%, пакаванне - 6,2%, амартызацыя і рамонт - 6,4%; гандлёвыя выдаткі - 6,7%; фабрычныя выдаткі і ўтрыманне адміністрацыі - 10,8%; страхоўка і выплата адсоткаў за заняты капітал - 4,2%; утрыманне конёй - 1,9%; выраб шкловарных гаршкоў і іншага вогнетрывалага прыпасу -1,7%. Удзельная вага заработнай платы ў сабекошце - 35,7%.

Агульная сума выдаткаў на вытворчасць па заводзе "Нёман-А" склала ў 1914 г. 288,4 т.р., г.зн. сума страт па вытворчасці вылілася ў 7,0 т.р. За кошт атрымананага прыбытку ад малявальнай майстэрні ў памеры 1,4 т.р. яны скараціліся да 5,6 т.р.

Але з прыкладанай "Справаздачы..." адначасова відаць, што бухгалтар, які складаў яе вызначыў за 1914 г. па заводзе "Нёман-А" чысты прыбытак у памеры 7020,81 руб. Нараўне з малявальнай майстэрняй ён паказаў прыбытак ад эксплуатацыі вузкакалейнай чыгункі ў суме 12594 руб.

Чысты прыбытак у такім жа памеры паказаны і ў "Балансе крыштальнай фабрыкі "Нёман-А" Ю.А. Столе на 31 снежня 1914 г.

Отчетъ
за 1914 г.
Хрустальн. фабр. "Нёманъ А" Ю.А. Столле

Як на "Справаздачы...", так і на "Балансе..." маюцца па дзве рэзалюцыі Ю.А.Столе, пацверджаныя яго подпісамі:

1) пасля выключэння няіснага ў рэчаіснасці прыбытку ў руб. 12594 па рахунку "Утрыманне фабр..чыг." атрымаецца страта 5573 руб. 19 кап.;

2) з сапраўдным дакладна.

Вядома, недахоп інфармацыі, якой у той час валодаў, як бухгалтар, які складаў "Справаздачу..." і "Баланс...", так і гаспадар фірмы, не дазваляе заняць той або іншы бок, тым больш што час-то быў ваенны. Але адно сцвярджаць можна напэўна: бухгалтар валодаў вялікай незалежнасцю пры складанні дакументаў і сваю нязгоду з яго высновамі гаспадар фірмы мог выказаць толькі адпаведнымі рэзалюцыямі і падвойным подпісам.

Раён размяшчэння заводаў у 1915 г. апынуўся ў зоне ваенных дзеянняў, у выніку якіх завод "Нёман-Б" згарэў, а мясцовасць аказалася акупаванай нямецкімі войскамі, і завод "Нёман-А" спыніў працу. На яго тэрыторыі немцы арганізавалі стайню і жывёльны двор, дэмантавалі рэйкі і шпалы, а абсталяванне вывелі з ладу.

І пацягнуліся гады страт, нявызначанасці і разрухі. Яшчэ не паспела скончыцца Першая Сусветная вайна, як Расійская імперыя была ўзрушаная спачатку Лютаўскай, а затым Кастрычніцкай рэвалюцыямі, па слядах якой прыйшла грамадзянская і польска-савецкая вайна. А калі грукоча кананада - людзям у прыфрантавой паласе не да рамёстваў.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Валеры Сліўкін***

# Гісторыя партызанскага атрада "Іскра" *напісаная па успамінах партызан і жыхароў Лідскага раёна*

У атрада "Іскра", аднаго з лепшых у Заходняй Беларусі, не знайшлося свайго гісторыка, і пра яго дзейнасць у шырокіх колах грамадскасці мала што вядома. У трохтомавай манаграфіі "Усенародная барацьба ў Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны" (Мінск, 1985) атраду прысвечана 9 радкоў. У 60-70 х гадах у лідскіх газетах "Уперад" і "Сцяг працы" публікаваліся невялікія газетныя нататкі за подпісам П. Слядкова, У. Дзямідава, А. Коннава, С. Лазавога, А. Рэпнікава і інш. Але паўнавартаснай працы так і не з'явілася. Гэта тым больш дзіўна, што першым дырэктарам Лідскага музея быў былы партызан "Іскры" Я.К. Шуціла. А другі дырэктар музея М.І. Іваноў адшукаў многіх з былых партызан, падтрымліваў з імі перапіску, сабраў вялікую колькасць матэрыялаў і збіраўся напісаць кнігу. Кнігу аб партызанах Лідскай зоны збіраўся напісаць і сакратар Лідскага падпольнага гаркаму партыі Я.Д. Гапееў. Так і не напісалі.

Мне шчымліва было глядзець на паліцы, дзе стаялі сабраныя папярэднікамі ўспаміны, лісты і дакументы. У рэшце рэшт нехта павінен быў асвоіць гэты матэрыял, і я, не партызан, не ваяр, чалавек, які глыбока ненавідзіць вайну і забойствы, змушаны гэта зрабіць. У памяць і ў напамінак. Адзінай магчымай формай выкладання мне здалася форма, калі гавораць самі партызаны. Я пастараўся даць успаміны без істотных граматычных і арфаграфічных выпраўленняў, бо перакананы, што ўсякая літаратурная апрацоўка нівелюе дзейных асоб і абкрадвае гісторыю.

## 1. Першыя тыдні акупацыі

Пасля акупацыі нямецкімі войскамі Лідскага раёна і ўсталявання фашысцкага парадку высвятлілася, што камуністы, камсамольцы, савецкія работнікі, дэпутаты, вайскоўцы, разумова непаўнавартасныя, цыганы і габрэі з'яўляюцца ворагамі Рэйха. З першых дзён ліпеня пачынаецца планамернае знішчэнне гэтых груп людзей: 3 ліпеня, Ліда - 150 габрэяў; 8 ліпеня, Мінойты - 120 чалавек з псіхіятрычнай лякарні; 15 ліпеня, Ліда - 60 цыганоў; 23 ліпеня, Беліца - 47 габрэяў; 23 ліпеня, Сялец - 50 габрэяў і 13 камсамольцаў ды савецкіх работнікаў...

Мясцовыя жыхары, якія праявілі сябе ў 1939-41 гг. прыхільнікамі савецкага ладу, пачынаюць хавацца, чырвонаармейцы і афіцэры-акружэнцы, страціўшы надзею перайсці лінію фронту, уладкоўваюцца ў сялянскія сем'і або капаюць зямлянкі ў лясных масівах.

**Міхаіл Раманавіч Радзецкі** з Пудзіна - дэпутат Народнага сходу Заходняй Беларусі і член камісіі па выпрацоўцы дэкларацыі ў 1939 г., старшыня Дакудаўскага сельсавета ў 1940 г., начальнік аддзела сацзабеспячэння Лідскага гарвыканкаму ў 1941г. - пачаў хавацца з ліпеня. *"Брат яго Раман працаваў следчым у міліцыі. З ім у міліцыі працаваў Суліма. Гэты Суліма, прыехаў з немцамі па Радзецкага. Радзецкі ўцёк праз акно ў каноплі". (Багмут К.І.)*

У дакументах 1940 - першай паловы 1941 гг. Рыгор Назаравіч Суліма згадваецца як начальнік Лідскага гараддзела НКДБ, а ў другой палове 1941 г. як здраднік і нямецкі паслугач "Суліма".

Жонка брата Міхаіла Радзецкага, Рамана - **Радзецкая В.А.** успамінае пра іншага чалавека, пра некага немца з райвыканкаму: *"Гэта было на другі дзень, як немцы ўвайшлі ў Ліду. У райвыканкаме працаваў таксама, не памятаю кім і прозвішча, немец па нацыянальнасці. Як толькі немцы прыйшлі, ён на другі дзень з аркушам у руках, г.зн. са спісам ездзіў па хатах і выдаваў работнікаў. Прыехалі і да Радзецкіх, але акрамя бацькі дома ўжо нікога не было. Хацелі расстраляць бацьку, але заступіліся жыхары в. Пудзіна."*

Чырвонаармеец 213-га стралковага палка **Васіль Фёдаравіч Ялпашаў**, 1921 г.н., для якога самыя цяжкія і горкія ўспаміны звязаны з першымі днямі баёў на мяжы пад Сапоцкінам, пра наступныя дні згадвае няшмат: *"Адступалі спачатку арганізавана, а пасля сказалі - прабірайцеся, хто як можа. Я прыйшоў у Ліду і двое сутак сядзеў у хляве ў жыхароў на вул. Калініна. Потым пайшоў у в. Анацкі і Чароўкі і жыў там у сялян."*

**Рэпнікаў Апанас Міхайлавіч**, 1922 г.н. да вайны настаўнік пачатковых класаў, які толькі што прыбыў у частку пры Лідскім аэрадроме, больш шматслоўны: *"22 чэрвеня ў нядзелю мяне заспела пры Лідскім аэрадроме раптоўная вайна. З раніцы і да позняга вечара я знаходзіўся ў прыродных схованках ад частых прыземных налётаў фашысцкіх самалётаў. Ліда пылала пажарышчамі і выбухамі парахавых складоў. Позна ўвечар з пазасталай групай таварышаў вышлі на ўскраіну горада і ўздоўж чыгуначнага палатна накіраваліся да горада Маладзечна. І так дзень за днём працягвалі адыходзіць далей на Ўсход у групе чатырох асоб: Георг, Хведар, Міхась і я. Дзён праз пяць ад нас адстаў Міхась, па хваробе ўладкаваўшыся ў маленькай вёсачцы ў селяніна.*

*У групе трох таварышаў мы рухаліся ў кірунку гор. Баранавічы. У сярэдзіне ліпеня мы падышлі да сяла, каб падмацавацца і забяспечыцца прадуктамі. Сустрэўшыся з мясцовым селянінам па імені Георг на ўскраіне вёскі Дакудава, азнаёміўшыся падрабязна з становішчам, зайшлі да яго ў хату. Георг прапанаваў нам прытулак у мясцовых сялян, на што мы ахвотна*

*пагадзіліся. Мяне вызначылі на хутар Порaслі да сялянкі Даўлюд Алены Георгіеўны і яе брата Івана Георгіевіча. Мае таварышы таксама ўладкаваліся: Хведар Камышоў - на хутар Порaслі да селяніна Махнача Ўладзіміра Антонавіча, а Георг Герасімаў - у Дакудаве."*

Уважлівы чытач адразу адзначыць недарэчнасці ў гэтым аповядзе - як можна з Ліды спачатку пайсці на Маладзечна, а потым на Баранавічы, і дзе можна так заблудзіцца, каб тры тыдні ісці з Ліды ў Дакудава. Многія аповяды аб першых днях вайны маюць шмат такіх неадпаведнасцяў. Не варта дзівіцца, паніка была ўсеагульная, ды і праўда часам была небяспечнай.

А вось гісторыя пра першыя дні вайны, якую напісала **Клімeнтына Мартынаўна Жук**, у дзявоцтве Пілевіч. Гэтая, у той час маладая жанчына, 1916 г.н., з небагатай сялянскай сям'і, каталічка (спявала ў касцельным хоры), закончыла польскую школу, была выдадзена бацькамі ў 1937 г. замуж за пераспелага, 1893 г.н., але багатага па тагачасных паняццях мужчыну, які валодаў 30 гектарамі зямлі. У 1940 г. яго арыштавалі за захоўванне абрэза і саслалі ў пензенскія лагеры. Клімeнтына засталася з маленькай дачкой на велізарнай гаспадарцы: *"Я жыла на хутары ў лёску за 200 м ад шашэйнай дарогі. Вельмі шмат ішло зняволеных, яны заходзілі ў нашы хаты для патрэбнасці ежы. І вось 30 чэрвеня 1941 г. зайшоў да мяне малады чалавек у саматканай кашулі і шэрых штанах, у кірзавых ботах, з белай павязкай на левым воку, рана яшчэ не зажыла. Ён застаўся ў мяне жыць пад маркай зняволенага. Тыдні два ён хварэў галавою. Сам ён у сапраўднасці быў старэйшы лейтэнант Аляксандр Грыгор'еў 1916 г.н. з Томска, вул. Чыгуначная, дом 34. Я запомніла яго адрас. Бацька яго загінуў пад цягніком, калі ён яшчэ вучыўся. Засталася маці, тры сястры Люба, Ксеня і Каця і брат Ілля. Быў ён росту высокага, да 180 см. Твар не вельмі круглы, трохі шэры, бледны, вока правае сіняе, нос прамы, валасы цёмна-русыя, не высокі, сярэдні.*

*Грыгор'еў адступаў ад Гародні на Менск. Быў паранены за 2 км ад Ліпнішак недалёка ад в. Суігане. Немцы знайшлі яго ў жыце скрываўленага з выбітым левым вокам. Спыталі: "Ты куды?". Ён сказаў: "Да сваіх". "Але фронт жа ўжо 200 км наперадзе, як жа ты дабярэшся?" Ён гаворыць: "Паўзком дапаўзу". Кінулі яго ў адрыну паміж забітымі і паранeнымі, праляжаў там ноч. Пасля яго адвезлі ў Ліду ў цывільную лякарню. Лекар-хірург паляк Сянкевіч зрабіў яму аперацыю. На другі ж дзень пасля аперацыі лекар яму паведаміў, што па яго хутка прыедуць немцы і гаворыць: "Ратуйцеся". Даў яму саматканую кашулю, штаны і боты і вывеў чорным ходам на вуліцу.*

*Так Грыгор'еў патрапіў да мяне. Хутка пазналі нямецкія паліцаі з Тракеляў, такія як Пятрусевіч, Вялічка, Фядаля, Наркун і Браніцкі, а камендантам быў Грайдэк - паляк з Вільні. Быў вельмі добры чалавек, неяк па-сяброўску ставіўся да Сашы.. Сашу прыходзілася хадзіць у Жырмуны кожны тыдзень адзначацца, далі белы, нібы які пашпарт часовы. Ён запісаў сябе Ўласенка, а яго занеслі, як яны звалі, учорную кнігу."*

Трымаць у сябе ў доме чырвонаармейцаў было крайне небяспечна. У тых жа Юравічах зімой 1943 г. немцы расстралялі Сям'ю Жукоў - Паўліну, Станіслава (21 год), Марыю (19 год) і Ядвігу (17 год) толькі затое, што ў іх жылі і працавалі два рускія хлопцы - Мікалай і Валодзя. Нехта іх выдаў. Каб не мучылі, адна з сясцёр кінулася на немцаў з нажом.

На тэрыторыі Лідскага раёна адсутнічаюць шырокія лясныя масівы. Найболей значныя -Бердаўскі, Фалькаўскі - не перавышаюць 20 кв км, і досыць батальёна салдат, каб на працягу дня дбайна прачасаць густым ланцугом любы з іх. Толькі за Нёманам у лясных масівах Навагрудскага і Дзятлаўскага раёнаў можна было прытуліцца. Але нават там першыя групы чырвонаармейцаў-акружэнцаў у першыя месяцы вайны не маглі лічыць сябе ў бяспецы. У ліпені 1941 г. у ляску, поблізу в. Храпенева Навагрудскага раёна, зрабілі сабе сховішча 11 чырвонаармейцаў. Там іх выявіў ляснік Пяткевіч з Збойска. Ляснік распавёў аб сваім адкрыцці жонцы, тая - суседцы... Неўзабаве з Іўеўскай камендатуры прыехалі ў Збойск гестапаўцы, яны прымусілі Пяткевіча правесці да сховішча акружэнцаў. Усе чырвонаармейцы былі схопленыя і замкнёныя ў гумне лесніка. Аднаму з іх, Антонаву, удалося ўцячы, астатніх немцы расстралялі.

## 2. З'яўленне групы Радецкага

Чырвонаармейцы-акружэнцы, савецкія работнікі, камуністы і камсамольцы, уцекачы з лагера ваеннапалонных у Паўднёвым гарадку, а там было каля 3 тысяч чалавек, увосень 1941 - увесну 1942 года аб'ядноўваюцца ў невялікія ўзброеныя групы колькасцю па 5-15 чалавек, яны, першым чынам, жадаюць выжыць, а калі не лёс, дык хоць пагуляць напрыканцы. З'яўляюцца і групы, якія ставяць больш сур'ёзныя задачы. Адной з такіх была група Міхаіла Раманавіча Радецкага.



***М.Р. Радзецкі***

Міхаіл Радецкі *"пачаў арганізоўваць партызанскую групу. Збіраў усіх патрыётаў, здабывалі зброю. Дапамагалі яму Аляксандр Ігнацьевіч Кіеня "Санька", Мікалай Юстынавіч Кохан, якія жылі ўтой час на Пудзінскіх хутарах, Сяргей Шут, які жыў на хутары Банева, Зміцер Жынко з Атмінава, Саша Дзяшук з Дзятомлі"* ***(Туруткіна -Радзецкая Н.Р.).***

*"Першымі чальцамі яго групы былі: Кіеня Георг Рыгоравіч, Кіеня Аляксандр Андрэевіч, Чылек Павел Якаўлевіч і Чылек Ніна. Я была звязаная з гэтым атрадам з самых першых дзён. Насіла бялізну, ежу, паведамляла, дзе і калі з'яўляліся немцы."* ***(Багмут К.І.)***

Выйшлі на сувязь з Радзецкім у 1941 г. камсамольцы з Дроздава Генадзь Шут, Хведар Курылаў, Іван і Ўладзімір Кудла, Леанід Данейка, Віктар Кумпяк, Ваулаў і Ненартовіч. *"Калі прыйшлі немцы, мы пачалі хавацца. У нас у кожнага быўпісталет і нават адзін станковы кулямёт. Дасталі радыёпрымач. Радыёпрымач паставілі ў Сяргея Іосіфавіча Шута на хутары поруч з в. Агароднікі. Удзельнікі групы пісалі і распаўсюджвалі ўлёткі, псавалі тэлеграфную і тэлефонную сувязь, збіралі зброю"* ***(Курылаў Ф.).***

Такая ж моладзевая група з'явілася ў в. Крывічы: *"Мы збіралі зброю, праводзілі працу супраць здачы хлеба немцам. Гэтая арганізацыя дзейнічала да вясны 1942 г"* ***(СтадольнікЯ.)***.

Дапамагалі Радзецкаму **Кастусь Палікарпавіч Пенда** і яго жонка: *"Празягоя зблізіўся з партызанамі, дапамагаў ім як мог, перадаваў знойдзеную зброю, харч, жонка мыла ім бялізну."*

## 3. Пачатак супраціву

Першая вядомая трагічная спроба супраціву нямецкай уладзе мела месца ў Пудзіна. *"Кіеня Мікалай Аляксандравіч і Радзецкі Іван Купрыянавіч напісалі ад рукі ўлёткі, у якіх паведамлялі, што Чырвоная Армія вяртаецца і ўжо знаходзіцца ў Стоўбцах. 5 жніўня 1941 г. іх схапілі, вывелі ў канец вёскі і расстралялі. Мікалай Кіеня выгукнуў: "Жыве Сталін!" і "Жыве Савецкая ўлада!". Аб улётках немцам паведаміла Кіеня Любоў Андрэеўна, пазней была расстраляная партызанамі"* ***(Багмут К.І.).***



*І.К. Радзецкі*

**Ніна Сцяпанаўна Бяйзарава** (1915-1992) да вайны дырэктар Бярозаўскай школы, у 1941-42 гг. настаўніца Пудзінскай школы, распавяла гэтую гісторыю інакш: *"У Пудзіна сагналі ў адно месца ўсіх сялян і прапанавалі выдаць партызанскіх сувязных, пагражаючы спаліць усю вёску і знішчыць усіх людзей. Бачачы, што азвярэлыя бандыты збіраюцца ажыццявіць пагрозу, партызанскія сувязныя, чальцы падпольнай групы гэтай вёскі тав. Кіеня і Часноўскі вырашылі коштам свайго жыцця выратаваць насельніцтва і вёску. Патрыёты на вачах у ўсіх сялян былі расстраляныя" ("Уперад" № 22 (1896) ад 20.02.1957).*

Расстралялі людзей, мабыць, за перавоз праз Нёман адыходзячых на Ўсход чырвонаармейцаў, летам 1941 г. не было яшчэ ні партызан, ні партызанскіх сувязных, але Бейзарава бліжэй да праўды ў адносінах да прозвішчаў расстраляных. У кнізе "Памяць. Навагрудскі раён" на стар. 364 са спісу загінулых жыхароў Пудзіна відаць, што Кіеня Мікалай Аляксандравіч, Часноўскі Іосіф Міхайлавіч, 1915 г.н. і Кіеня Вера Радзівонаўна, 1920 г.н. расстраляныя 22 ліпеня 1941 г., а Іван Купрыянавіч Радзецкі, 1917 г.н. расстраляны 14 траўня 1943 г. Людская памяць выбарчая, з гэтым даводзіцца мірыцца. Багмут К.І. правільна назвала прозвішча аднаго з загінулых, і памылілася ў даце. Бяйзарава Н.С. успомніла прозвішчы дваіх; пры тым абедзве забыліся пра расстраляную маладую жанчыну і па-рознаму выказалі прычыны расстрэлу.

## 4. Разгон камсамольцамі Дакудаўскага паліцэйскага ўчастка

У вялікіх вёсках немцы стварылі гміны і паліцэйскія ўчасткі (пастарункі). Такія пастарункі былі ў Беліцы, Дакудаве, Жырмунах, Тарнове. Хавацца ў вёсках і на хутарах стала небяспечна, і камсамольцы Хведар Курылаў, Генадзь Шут, Іван і Ўладзімір Кудлы пайшлі ў лес да Радзецкага.

Начальнікам Дакудаўскага пастарунка прызначылі былога польскага афіцэра. "Пан капітан" заўзята служыў сваім гаспадарам. З насельніцтвам абыходзіўся жорстка. У лютым 1942 г. група камсамольцаў здзейсніла напад на Дакудаўскі паліцэйскі ўчастак.

Кацярына Іосіфаўна Багмут з Пудзіна - чалец камсамольскай падпольнай арганізацыі і, відаць, удзельніца гэтага нападу захавалаў памяці падрабязнасці: *"Касяк Люба з Дакудава працавала ў гміне. Мела сувязь з нашай падпольнай камсамольскай арганізацыяй. Калі хлопцы ўзброіліся, Люба падрыхтавала гміну да разгрому: паадчыняла вокны, дзверы, паставіла друкарскую машынку на акно. Ішлі хлопцы да гміны, непадалёк ад хаты Любы на зэдлі сядзеў паліцэйскі з дзеўчынай Вандай Дамброўскай. НінаДайко падышла да паліцыянта і кінжалам зарэзала гэтага паліцыянта са словамі: "Паглядзі, як дзейнічаюць савецкія камсамольцы!. З'яўленне ў вёсцы групы ўзброеных людзей выклікала перапалох сярод паліцыянтаў. Яны паразбягаліся, не зрабіўшы ні аднаго стрэлу, "Пан капітан" патрапіў у рукі камсамольцаў і быў расстраляны"* ***(Багмут К.І.).***

Павінен прызнацца, я засумняваўся, што маладая дзяўчына кінжалам зарэзала чалавека, нават калі ён і паліцай. Мае сумненні развеяла нататка **Ф. Курылава** ("Вораг не ведаў спакою" // "Сцяг працы", № 73 ад 20.06.1964), у якой ён успамінае пра напад на паліцэйскую залогу ў Дакудаве і пацвярджае, што белакурая дзяўчына Ніна *"уласнаручна расправілася з паліцэйскім камендантам. Па званні яна была лейтэнант, скончыла вайсковую кавалерыйскую вучэльню."*

## 5. Вясновая рэгістрацыя акружэнцаў

Чырвонаармейцаў - акружэнцаў немцы да вясны 1942 года не заўважалі. Зіма 1941-42 г. была лютая, маразы за трыццаць, жыццё замерла, усе сядзелі па хатах. У снежні 1941 года стала відавочным, што бліцкрыг не атрымаўся, і маецца быць шматгадовая вайна да поўнай знямогі. Гітлер загадаў прыцягнуць на працы ў Нямеччыну моладзь з акупаваных усходніх краін. Усе, хто з'явіўся ў Заходняй Беларусі пасля 22 чэрвеня 1941 г., павінны былі стаць на ўлік. Нямецкая адміністрацыя ў акружэнцах адчула рэальную небяспеку, і ў красавіку было прынята рашэнне вывезці іх у Нямеччыну. Гэтым немцы падштурхнулі акружэнцаў да супраціву.

*"Жылі спакойна да сакавіка 1942 года. Сакавік 1942 года стаў націскам на ўсходніх людзей з боку немцаў і мясцовай паліцыі. Усходніх людзей, якія пражывалі ў сялян, пачалі збіраць у паліцэйскі ўчастак у Дакудаве. Многія патрапілі ў гэты пераплёт і былі адпраўлены на захад. З Дакудаўскага паліцэйскага ўчастка збег да мяне на хутар Порараслі ўвесь збіты Георг. У мяне на хутары з'явілася некалькіх новых таварышаў: ленінградзец Рыгор Бабкоў і Андрэй (Сяргееў). Днямі мы хаваліся ў балоце, прылеглым да хутароў Порараслі, а ў ноч выходзілі па прадукты, спачатку да знаёмых, а з набліжэннем цёплых дзён вясны 1942 г. бадзяліся паўсюль, збіраючы зброю ў мясцовага насельніцтва і бадзяўшыхся ў адзіночку паліцыянтаў. Спачатку мы не мелі старшага, а з агульнай рады дзейнічалі разам"* ***(Рэпнікаў А.).***

Аляксандра Грыгор'ева і Кліментыну Жук 24 сакавіка 1942 г. даставілі ў Лідскую камендатуру. *"На другім паверсе 7 чалавек немцаў і паляк рэферэнт-перакладчык Палтаўскі. Нас дапытвалі асобна, перш мяне. Які быў Саша, калі прыйшоў да нас, у якой форме і кім ён быў, я ім адно: Саша быў зняволены, працаваў на аэрадроме, калі немцы пачалі бамбаваць, яны паразбягаліся, а Саша паранены сваімі ахоўнікамі, якія сачылі за імі. І паўтарала ім адно і тое ж. Бурмістр горада, які чуў мае паказанні, сустрэў Сашу і сціслa яму сказаў, каб у нас было адно. Пасля допытаў мяне пасадзілі ў арыштанцкае памяшканне, а яго ў іншы пакой і трымалі два дні на допытах, хвошчучы нас бізунамі. Паказанні нашы былі аднолькавымі. На трэці дзень нас выпусцілі. А заявіў на нас Аляксандровіч Валодзя, які жыў тады ў Бердаўцы.*

*20 красавіка 1942 г. мы даставалі з Сашам бульбачку з капца, я несла кошык да хаты, з кустоў выйшлі трое паліцаяў. Адразу да мяне: "Дзе Ўласенка? Мы прыйшлі па яго". Я ім гавару, што панёс у Дуброўку рамантаваць боты да Грабліса. Двое пайшлі ў Дуброўку, а двое засталіся вартаваць на месцы (яшчэ адзін паліцыянт падышоў). У той дзень адвозілі ўсіх савецкіх хлопцаў, якія жылі па хатах, у Нямеччыну. Увечар мы ўсустрэліся з Сашам, і я яму сказала, каб ён не начаваў дома і пра тое, што ў мяне схаваныя ў адрыне ў яме два пісталеты і сем гранат.*

*Усю ноч я была ўсяляк зтузана тракельскімі паліцаямі - яны мяне білі, ставілі да сценкі як быццам страляць, усяляк палохалі, запальвалі салому на гарышчы, каб я выдала дзе ён, дазналіся, што ён у Дуброўцы не быў і схаваўся, каб не ехаць у Нямеччыну. Гэта мяне моцна разззлавала, і раніцай, калі яны пайшлі, я дастала пісталеты і гранаты, і аддала Сашу.*

*Былі яшчэ марозікі, на дварэ начаваць было холадна. Саша выкапаў дзве падземныя схованi, адну ў доме, а другую ў адрыне, і часцяком начаваў у дажджлівыя зімныя ночы. Калі прыходзілі паліцаі, я адцягвала куфар, і Саша хутка ўваходзіў у схован і на двор у кусты, а я зачыняла, добра замаскаваўшы. Пазней з Салаўёвым Аляксандрам яны выкапалі яшчэ адну схованъ у ляску метраў за 100 ад хаты. Яны там жылі, а я насіла ім есці. Адзін пісталет ён даў Салаўёву. Клікаў ён Салаўёва, пойдзем, маўляў, адшукаем нашых і пачнём дзейнічаць, а той наадрэз адмаўляўся і сыйшоў ад яго"* ***(Жук К.М.).***

## 6. З'яўленне першага партызанскага атрада

Меркаванні пра час узнікнення атрада Радзецкага расходзяцца. **Курылаў Ф.** пісаў, што *"партызанскі атрад Міхаіл Радзецкі пачаў фармаваць у сакавіку 1942 г. Дапамагаў яму Шут Сцяпан Сямёнавіч з Дроздава"*. **Жураўская Г.** з Крывічоў час з'яўлення атрада Радецкага адносіць на 1 траўня 1942 г. У гэты дзень *"за в. Крывічы ў лазняку сабраліся 9 чалавек: Гарэлік Канстанцін Сцяпанавіч, Бародка Міхась Купрыянавіч, Кушаль Аляксей (Аляксандр) Мікалаевіч, Стадольнік Якаў, Жураўскі Кастусь Міхайлавіч, Дзяшук, Дойка і Радзецкі. Першыя пяцёра з Крывічаў. Сыны беднякоў, самі беднякі, савецкія актывісты. Пачынальнікам усяго быў Гарэлік К.С., былы старшыня сельсавета. Ён усталяваў кантакт з Радзецкім з Дакудава, які быў звязаны з партызанскай групай Антонава і з атрадам Міхаіла Громава. Стаянка іх знаходзілася недзе паміж в. Пудзіна і Дакудава. На першых парах ім было даручана здабываць зброю, боепрыпасы, харч, назіраць за дзеяннямі немцаў і паліцаяў, ажыццяўляць сувязь паміж партызанамі. Тады былі выкапаныя з зямлі вінтоўкі, гранаты, патроны, усё тое, што патрыёты падабралі і схавалі да пары, да часу"*. Сам **К.С. Гарэлік** дату не пазначыў: *"У 1942 г пачалі стварацца партызанскія групы. Была створаная наша мясцовая група, камандзірам якой быў Антонаў, а камісарам Радзецкі"*. **Лучко Ўладзімір Сідаравіч** гэты момант таксама абыйшоў: *"У 1942 г, як толькі арганізаваўся партызанскі атрад, я здаў зброю, якая была закапана ў зямлі - 13 рускіх вінтовак, 2 кулямёты Дзегцярова, 2 скрыні баявых гранат. Зброю прынялі Бурнос Уладзімір з в. Мелегава і Міхась Радзецкі з Пудзіна"*. **Аляксандр Дзяшук** катэгарычны: *"Партызанка пачалася з 5 траўня 1942 г. Я прыйшоў з 5 чалавекамі адразу, і па нашай сувязі на працягу тыдня сабралася каля 40 чалавек, 30 чалавек я ўзброіў, падчас адступлення я збіраў зброю, і мы ўжо пачалі дзейнічаць"*.



***У. Бурнос***

**Рэпнікаў А.** успамінаў, што яго група (Камышоў, Герасімаў і інш.) перайшла на левы бераг Нёмана ў красавіку, дзе сустрэлася з групай у 12-15 чалавек, у якой былі мясцовыя жыхары: *"Размяшчалася група за 10-15 км ад шклозавода, а таксама ад Нёмана. На чале групы быў кадравы лейтэнант, беларус, ва узросце 28-30 гадоў па імені Ўладзімір. Група была не вельмі спаяная, адсутнічала дысцыпліна, адлучаліся без дазволу невядома куды, былі сваркі, папрокі, і, з'яўлялася як бы барацьба за права камандаваць. У выніку ўначы Ўладзімір быў забіты ў пасцелі. З гэтай групы памятаю аднаго мясцовага па імені Саша з вёскі Трасцянка - пляменнік Даўлюда І.Г. з Дакудава".*

Саша з Трасцянкі - гэта Аляксандр Дзяшук, у 1944 г. намеснік камандзіра атрада "Арол" па выведцы. Лейтэнант Уладзімір - гэта Ўладзімір Дайко (Дойка) - кадравы афіцэр Чырвонай Арміі, акружэнец, застаўся ў Пудзіна і разам з Радзецкім фармаваў баявую групу ўвосень 1941 г. Як сцвярджала А.А. Багмут, Радзецкі яго і забіў.

*"Пазней групай пачаў камандаваць кадравы лейтэнант, украінец. Групамі па 3-4 чалавекі хадзілі на розныя заданні: па здабычы прадуктаў, на сувязь з мясцовымі актывістамі. У пачатку траўня гэтай групай была разбіта Бярозаўская залога, якая складалася з паліцыянтаў, была здабыта зброя, некалькі вінтовак і друкарская машынка, якая аказалася няспраўнай. Было здзейснена некалькі засад на нямецкія аўтамашыны, якія едуць у Гуту (Бярозаўку), былі ахвяры з бокунемцаў"* ***(Рэпнікаў А.).***

Магчыма, камандзірам гэтай групы быў Антон Траця коў (Антонаў), лейтэнант, уцякач з палону, Радзецкі быў камісарам. Атрад быў вельмі разнашорстым.

Пасведчанні **Кацярыны Іосіфаўны Багмут** з атрадам Радзецкага былі звязаныя: Бондар Сяргей Антонавіч з в. Агароднікі, чалец КПЗБ, сядзеў у Картуз-Бярозе з Радзецкім, быў у гадах, але працаваў добра - купляў у немцаў за гарэлку патроны і перадаваў у атрад; Курыла Фёдар з Дроздава - самы першы арганізаваў камсамольскую групу; Кіеня Яўген Арцёмавіч з Пудзіна, камсамолец, да вайны працаваў у РайАНА; Кіеня Міхась Ігнацьевіч - загінуў увосень 1942 г. у Пудзіна; Кіеня (пасля Чылек) Ганна Аляксандраўна; Заека Міхась і Заека Сымон з в. Бенявічы; Кушаль Кастусь з Дакудава, Дзяжук (Дзяшук) Саша - з в. Трасцянкі Уселюбскага с/с. Бялундзі Віктар Аляксандравіч, 1922 г.н., з Дакудава, Хітрун Лёня, Кумпяк Зінаіда з Ганчароў, была ў падпольнай камсамольскай арганізацыі; Вера "Чарцяня".

**Іван Дзмітрыевіч Крыпец** дапаўняе гэты спіс: *"Сувязь з партызанамі была ўсталявана ў красавіку 1942 г. У нашу групу ўваходзілі я, Кудзі Леанід, Кудзі Аляксандр, Бондар Уладзімір, Кушаль Канстанцін Васільевіч."*

## 7. Атрад Громава

У красавіку 1942 г. у Навагрудскім і Карэліцкім раёнах з былых вайскоўцаў быў арганізаваны асобны партызанскі атрад Громава. У фармаванні атрада актыўны ўдзел прынялі жыхары в. Пудзіна, Літароўшчына, Бабанёўка і Падгайная. Атрад дзейнічаў у Навагрудскім, Карэліцкім і Лідскім раёнах. Камандзірам атрада быў Уладзімір Угрумаў "Громаў". *(ПФБу гады ВАВ, 1983, с. 94).*

Па ўспамінах **Гарэліка К.С., Дзяшука А.І. і Рэпнікава А.М.** буйны, добра ўзброены атрад Громава прыйшоў з захаду. *"У чэрвені 1942 г да нас прыбыў атрад Громава Ў, у колькасці 60 чал."* ***(Гарэлік К.С.).*** *"У чэрвені 1942 г. на Лідчыну прыйшоў добра ўзброены атрад лейтэнанта Громава. Атрад налічаў да 60 конных і рухаўся на ўсход. З дапамогай атрада Громава была поўнасцю разгромлена Дакудаўская паліцэйская залога, якая налічвала да 15-20 добра ўзброеных паліцыянтаў."* ***(Рэпнікаў А.).*** *"Громаў да нас з'явіўся з 60 чалавекамі ў чэрвені, і нас было 58 чалавек. Тыдні два ён прабыў тут, некалькі баёў правялі сумесна, потым ён пайшоў да фронту, некаторыя ад нас пайшлі да яго, а ад яго да нас."* ***(Дзяшук А.І.).***

## 8. Разгром Дакудаўскага пастарунка

26 чэрвеня разбіты паліцэйскі ўчастак і масла-завод у Дакудаве. Узята ў палон 7 паліцаяў, 9 вінтовак, 500 патронаў, 16 ровараў прыведзеныя ў непрыдатнасць, узята 2 скрыні алею, бітон смятаны, 10 пачкаў папярос. Знішчаныя ўсе дакументы паліцэйскага ўчастка, 5 паліцыянтаў расстраляныя, 2 адпушчаныя. У вёсцы праведзены мітынг".

**Ванда Пермякова**, дзяўчынка 14 гадоў на ўсё жыццё запомніла гэты напад і гэты расстрэл: *"У хаце, дзе мы жылі ў в. Дакудава, жыло некалькі паліцыянтаў. Аднойчы ўлетку прыехалі немцы на 6 машынах. Стараста сабраў ім яйкаў, вясковай каўбасы. Гэтыя прадукты прынеслі ў нашу хату, каб мама прыгатавала абед. Паабедаўшы, немцы з'ехалі, а паліцыянты праводзілі іх да канца вёскі і засталіся ля парома страляць рыбу. Калі паліцыянты стралялі рыбу, на другім баку Нёмана з'явіліся вершнікі і ўплаў пачалі дабірацца да паліцыянтаў. Перастрэлка была кароткай. Паліцыянты кінуліся ў жыта. Жыта было ўжо вялікае. Вершнікі іх пералавілі, распранулі да споднай бялізны і пагналі перад сабой праз усю вёску да хаты гміны. Ля гміны паставілі іх на цэментавыя прыступкі ганка і прачыталі загад, у якім гаварылася, што яны падлягаюць расстрэлу як здраднікі Радзімы. Паліцыянтаў у бялізне было 5-7 чалавек. Жыхары вёскі пачалі прасіць, каб адпусцілі Пятра Бажко родам з-пад Навагрудка, бо ён быў вельмі спакойны і добры чалавек. Партызаны адвялі яго ў бок і адпусцілі. Астатніх расстралялі на гэтых прыступках залпам. Мы, не чакаючы стрэлаў, вельмі папалохаліся. Пасля растрэлу партызаны правялі мітынг, на якім было вельмі шмат народу. Пасля мітынгу партызаны заспявалі песні і з'ехалі."*

Удзельнік аперацыі **Апанас Рэпнікаў** у падрабязнасці не ўдаецца: *"З атрадам Громава мне прыйшлося граміць Дакудаўскую залогу, выконваць абавязкі выведніка - хадзіць па вуліцы з мясцовай моладдзю, якая мяне ведала, вызначаць рух узброеных паліцыянтаў, а да раніцы досвіткам з падыходам атрада да Нёмана дакласці атраду коннікаў пра станові-*

*шча. Абыйшлося шчасна, заданне выканана, залога пабіта, злоўленыя паліцаі да 9 чалавек былі расстраляныя."*

## 9. Знішчэнне паліцыянтаў у в. Крывічы

Цераз тры дні 29 чэрвеня 1942 г. атрад Громава правёў удачную аперацыю ў в. Крывічы.

*"У канцы чэрвеня 1942 года Антонаў (Трацякоў) здзейсніў правасуддзе над ляснiком Пяткевічам (які ў ліпені 1941 г. выдаў немцам 10 чырвонаармейцаў). На наступны дзень у Крывічы наехалі немцы і паліцаі. Бародка М. К. тут жа паведаміў пра ўсё ў атрад Громава, які знаходзіўся ў той час у "Сокала" за ракой. Антонаўцы тады размяшчаліся на хутары Хітро. Каля паўдня раздаліся першыя стрэлы, 9 паліцаяў больш не ўсталі".* ***(Жураўская Г.)***

*"Мясцовая паліцыя задумала напасці на в. Крывічы і арыштаваць савецкіх службоўцаў, пра што мне стала вядома. У гэты час я ведаў, дзе знаходзіўся атрад тав. Громава, і я пра гэта паведаміў яму. Тав. Громаў вылучыў два звязы партызан сумесна са мной. Мы акружылі в. Крывічы, дзе знішчылі пяць паліцаяў, а перакладчыка і шафёра ўзялі ў палон"* ***(Гарэлік К.С.)***.

Паўспамінах **Фёдара Курылава** аб'яднаны атрад Громава і Антонава-Радзецкага правёў яшчэ некалькі аперацый: *"Бердаўку Навагрaдскага раёна разбівалі пры ўдзеле Громава, разбівалі Збойск Іўеўскага р-на. Ля в. Збойск стаяла нямецкая залога ў 270 чалавек. Пераправа яе праз Нёман абышлася б нам вельмі дорага. Вырашана было ўзарваць мост. Вельмі рызыкоўная баявая аперацыя. Але аказалася надзвычай удалай. Залога была цалкам разгромлена, мост спалены. Нам дасталіся добрыя трафеі. Забілі ў 1942 г. лідскага гэбітскамісара або яго намесніка. Яны ехалі на трох машынах. Мы зрабілі засаду. Было чалавек 30 немцаў. Перабілі ўсіх немцаў і спалілі машыны. Мост на Дзітве за Мінойтамі палілі двойчы."*

## 10. Распад атрада Громава-Радзецкага

У кнізе "Партизанские формирования Белоруссии в годы ВОВ", 1983, на стар 94 паведамлялася, што ў ліпені 1942 г. у баі ля в. Пудзіна Лідскага раёна атрад Громава панёс вялікія страты і быў рассеяны. Частка яго партызан улілася ў атрад "Золатава", астатнія да снежня дзейнічалі самастойнай групай, якая затым улілася ў партызанскі атрад "Іскра".

Паводле ўспамінаў **Канстанціна Сцяпанавіча Гарэліка** сітуацыя выглядала некалькі інакш. *"Пасля бою (пад Крывічамі) было вырашана правесці агульны збор для аб'яднання атрадаў* (Громава і Радзецкага) *і такі збор адбыўся на хутары Асінава каля Бярозаўкі. Аб'яднанне атрадаў не адбылося. Тады атрымаўся поўны раскол, і людзі разышліся хто-куды. З Громавым засталося 7 чалавек, з якімі ён сыйшоў. Наш атрад пад кіраўніцтвам Радзецкага застаўся на месцы, і людзі таксама разышліся. Былы камандзір нашага атрада Антонаў сыйшоў з атрада і бадзяўся, адзін, за што яго расстралялі партызаны з атрада, які знаходзіўся ў пушчы ў раёне в. Зяневічы."*

Ясна, што першапачаткова атрад У. Громава быў нацэлены на пераход лініі фронту, аднак адступленне Чырвонай Арміі ўлетку 1942 г., страта Украіны прывялі да расколу ў атрадзе. Большасць вырашыла застацца на месцы і нікому не падпарадкоўвацца. Сярод партызан запанавала анархія. Мясцовыя камуністы і актывісты таксама прыстасаваліся дажыцця ва ўмовах акупацыі і страцілі цікавасць да супрацыву: *"Бізуном абуха не пераб'еш"*

## 11. Пошукі камандзіра

Былыя вайскоўцы, звыклыя да вайсковай дысцыпліны і адзінаначалля, спрабуюць знайсці афіцэра з высокім вайсковым званнем. Нейкім чынам становіцца вядома, што на хутары ля в. Юравічы жыве капітан Чырвонай Арміі. Відаць падразу пасля адходу атрада Громава да яго звярнуліся пазасталыя акружэнцы. Пра гэтую сустрэчу маюцца ўспаміны Апанаса Рэпнікава і Кліментыны Жук. Яны ніколі больш не сустракаліся і ўспомнілі пра гэтую гісторыю праз тры дзесяцігоддзі, але абое памяталі найдрабнейшыя дэталі.

**Рэпнікаў А.М.**: *"Калі мы сустрэліся з малодшым лейтэнантам Андрэем (Сяргеяў) ён паведаміў, што ведае аднаго параненага капітана, які жыве на хутары. Мы ўтрох накіраваліся на спатканне да капітана. Гаспадыня хутара дала знаць капітану, што да яго прыйшлі людзі, падобныя на яго, і ён выйшаў да нас на спатканне."*

**Жук К.М.**: *"Пад канец чэрвеня, памятаю, жыта ўжо бялела, Саша ў хаце рабіў пячатку з гумы і шмат напісаў лісткоў і друкаваў, я выйшла на двор, убачыла з лясочку выходзяць трое мужчын з аўтаматамі ў нямецкай форме і ідуць да нас. Я ўбегла і закрычала: "Саша, немцы!". Ён выскачыў і пабег у кусты, а з кустоў у жыта. Яны пачалі крычаць: "Саша, свае, свае!". І тут жа да мяне: "Куды ён пабег?". Я аднеквалася, што гэта сусед, а не Саша. Яны падхапілі адзін лісток за акном, адціснуты Сашам, які я не паспела падабраць, а ўсе астатнія я кінула ў печку і прысыпала попелам. Пасля аказалася, што гэта былі першапачатковыя партызаны, якія днём замовілі солтысу выбраць 100 яйкаў на 4 гадзіны, яны прыйшлі трохі раней указанага часу. Пакліканы Саша прыйшоў дадому, пазнаёміліся яны, адзін быў, памятаю Андрэй (Сяргеяў), потым Федзя (Камышаў) і Анатоль (Апанас Рэпнікаў). Пасля кароткай гутаркі пайшлі яны за адрыну і там абгаворвалі, што рабіць."*

**Рэпнікаў А.М.**: *"Капітан паказаў нам сваю добра замаскаваную зямлянку, дзе ў яго быў усталяваны батарэйны радыёпрыймач, і яшчэ паказаў зямлянку з трупам маёра, які служыў з ім у адной часці. Труп не быў закапаны, а толькі затуляўся магутнай пасткай - вечкам. На другі дзень мы былі выяўленыя мясцовым насельніцтвам, і солтыс данёс у нямецкую залогу. Па прыбыцці карнікаў мы былі абстраляныя ў змяшаным пералеску і ўцяклі на захад у буйнейшы лес."*

**Жук К.М.**: *"Мне паведамілі, што ў вёску наехала поўна немцаў, таму, што партызаны з'явіліся.*

*Я правяла іх за шашэйную дарогу, там праз жыта і ізноў лес. Немцы пабегалі па кустах, зашлі да нас у хату і так, нікога не знайшоўшы, з'ехалі. Уначы Саша прыйшоў у шыняльку, узброены аўтаматам і 17 ужо чалавек і гаворыць: "Нам сорамна зараз, мы ніколі ад немцаў уцякаць не станем, хлопцы, бо будзе час, што і на нашай вуліцы будзе свята, не падайце духам". У нас паелі і пайшлі дзесьці пад Нёман і далей, забралі гранаты, мелі з сабой кулямёт."*

**РэпнікаўА.М.:***"З гэтага дня мы знаходзіліся разам з капітанам на працягу 1,5 месяцаў ля берагоў Нёмана поблізу ад Дакудава, дзе таксама была зроблена зямлянка па тыпу капітанскай, а выкапаная зямля скінута ў Нёман. Начавалі ў гэтай зямлянцы да 5 начэй. Пазней у капітана запалілася вока, і мы яго адправілі на яго хутар. Ён быў паранены ў пачатку вайны, патрапіў у нямецкі шпіталь, трохі паправіўся, збег з маёрам, якога пры ўцёках моцна раніла, і капітан вынес параненага ў схованку, пазней маёр памёр".*

## 12. Забойства Громава і расстрэл Міхаіла Радзецкага

Громаў з часткай атрада пайшоў на ўсход. Разам з Громавым пайшлі Вячаслаў Хітрун і Ніна Дайко. Яны загінулі на шашы Баранавічы-Наваградак. *"Там рухалася вялікая калона немцаў, і яны трымалі бой. Але сілы былі не роўныя. Загінула шмат партызан"* ***(Багмут К.І.)***. Ніну Дайко *"схапілі немцы"* ***(Курылаў Ф.)***

Міхаіл Радзецкі, Аляксандр Дзяшук, Уладзімір і Іван Кудлы, Лёнька з Бенявіч пайшлі на хутары каля в. Налібокі. **І.Д. Крыпец**, у якога на хутары жыла дваюрадная сястра, распавядае, што там ён слухаў радыё і адзначаў кастрычніцкія святы: *"Мне прапанавалі пайсці да іх у хату паслухаць Маскву. Прыймач у іх быў добры. Маскву мы паслухалі. Радзецкі прапанаваў, хто жадае з намі працаваць, мець сувязь для ўсякіх перадач, усякіх звестак. З лета 1942 да кастрычніка сувязь з атрадам у нас была слабая. Потым мы былі запрошаныя на кастрычніцкую сустрэчу. Запрошаныя былі Бондар Ул., я, Даўлюд Віктар, жыве ў Карэліі, Кацю Часнова з Пудзіна, Місь Лявон і інш. Там мы правялі гутарку аб кастрычніцкай сустрэчы. Радзецкі прачытаў даклад."*

*"У лістападзе 1942 г. другі раз з'явіўся Громаў, з ім вярнуліся толькі 5 чалавек, а потым засталося 3 чалавекі. З нас першых вельмі мала засталося ў жывых."* ***(Дзяшук А.І.)***

Неўзабаве загінуў і Громаў. *"Громава забіў Радзецкі. Радзецкі быў дружны з Лявонам Даўлюдам і яго жонкай Сузаннай, жылі яны на хутары Ясінава Навагрудскага раёна. Да іх дачкі заляцаўся Громаў і здвёў іх дачку з сабой у атрад. Сям'я настойвала, каб Радзецкі пакараў Громава."* ***(Багмут К.І.)***.

*"Па недакладных дадзеных быццам бы Радзецкі са сваёй групай расстраляў тав. Громава і яго групу, з якой удалося выратавацца аднаму радысту па імені Андрэй, і ён пра усё распавёў у атрадзе, які ў той час знаходзіўся ў Налібоцкай пушчы. Я лічу, што тав. Громаў Уладзімір, хоць ён і меў некаторыя памылкі, але ён быў патрыёт - абаронца Радзімы"* ***(Гарэлік К.С.)***.

Парэшткі старшага лейтэнанта Уладзіміра Громава ў чэрвені 1952 г. былі перазахаваны ў брацкай магіле ў Бярозаўцы на вул. Наваградскай.

Міхаіла Радзецкага расстралялі ў лістападзе 1942 г. на хутары Звяркі каля Пудзіна. Тыя, хто расстрэльваў ведалі, што Радзецкі забіў Громава. Сведка расстрэлу Фёдар Курылаў распавядае, як гэта адбылося: *"У Наваградскім р-не мы наладзілі засаду на немцаў. Але аб нашай засадзе немцам паведаміў мясцовы солтыс. Быў кірмашовы дзень. Для сваёй бяспекі немцы, вяртаючыся з Наваградка, пасадзілі на фурманкі мірных жыхароў і самі па адным размясціліся на фурманках. У гэтым выпадку адкрыць агонь было немагчыма. Мы знялі засаду. Як толькі мы знялі засаду, немцы адкрылі агонь. Было забіта два нашых партызаны. Праз некаторы час мы пайшлі шукаць солтыса. Зайшлі на хутар у адну хату. Там сядзеў адзін мужчына. Мы спыталі, дзе знаходзіцца солтыс. А гэта быў сам солтыс. Але мы ў гэты час не ведалі, што гэта ён. Бачачы, што ён хоча ад нас увільнуць, мы вырашылі яго не адпускаць. Ён павёў нас да солтыса, г.зн. у сваю хату. Зайшоўшы ў хату, ён спытаў у сваёй жонкі: "Дзе твой гаспадар?" Жонка адразу дапетрыла і сказала, што ён пайшоў на хутар. Мы разам паехалі на гэты хутар. Як толькі заехалі ў лес, ён імгненна саскоквае з фурманкі і ўцякае ў лес. Я кінуўся за ім наўздагон, пры гэтым, каб хлопцы не стралялі, крыкнуў ім, бо маглі забіць і мяне. Я пераследваў солтыса метраў 150, пакуль не забіў.*

*Вяртаючыся дадому, каля хутара Звяркі нас сустрэла група партызан з атрада Чапаева прыкладна ў колькасці 20 чал., усе ўзброеныя. Падыйшоўшы да нас, яны звярнуліся да Радзецкага, каб ён здаў сваю зброю. Радзецкі зброю здаў. Нас яны не чапалі і зброі не забіралі. Ад'ехаўшы метраў сто, яны з аўтамата (хто невядома) стрэлілі ў Радзецкага. Радзецкі паспеў толькі крыкнуць: "Паміраю за Сталіна". Спачатку ён быў пахаваны каля хутара, а затым перапахаваны."*

Перакаказаў было шмат, абмяркоўвалі ва ўсіх прынёманскіх вёсках і доўга памяталі: *"Радзецкага забілі партызаны з атрада Чапаева. Курыла стаяў разам з Радзецкім пад адным кустом. Гэта было 19 лютага 1943 г., мы слухалі даклад Щарбакова. Але Курыла здолеў уцячы ў адных шкарпэтках. А перад гэтым Радецкий адправіў усіх рускіх на ўсе 4 бакі. Яны засталіся чалавек 9 і бадзяліся сяк-так. Курыла потым прымусова і Багмут былі прызваныя ў атрад "Іскра"." (Багмут К.І.).*

*"З Радзецкім быў Жураўлёў, яму ўдалося пазбегнуць адплаты. А таксама Дзяшук Аляксандр Іванавіч, з якім мне прыйшлося размаўляць. Ён гаварыў, што Жураўлёў, калі б не ўцёк, быў бы разам з Радзецкім расстраляны. Па маім меркаванні, тут была барацьба Радзецкага за партфель " (Гарэлік К.С.).*

Расстрэл Міхаіла Радзецкага - камуніста з тутэйшых жыхароў - парадзіў сур'ёзныя сумненні ў даваенных камсамольцаў. Большасць партызан ягно атрада і камсамольцы з іншых груп разышліся па дамах. Аднаго з іх Фёдара Рыбака з Дакудава ў канцы снежня на вечарынцы ў Дворышчы застрэліў Фёдар Карыцін, партызан з атрада "Іскра".

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Анатоль Кулеш*

# ЗАПІСАНА ПАД ДЫКТОЎКУ ЛЁСУ

**(Адрыўкі з біяграфічнага нарысу “Пра час і пра сябе”)**

**КРУГЛАЯ ДАТА ВУГЛАВАТАГА ЖЫЦЦЯ**



*Анатоль Кулеш*

80 гадоў? Гэта многа ці мала?- пытанне не самае простае. З аднаго боку здаецца многа, калі паглядзець з другога - не пашкодзіла б і больш. Такое пытанне паўстае, калі ты перакрочыш гэты жыццёвы, можна сказаць: гукавы, бар’ер. Бо час пасля яго ляціць - не дагоніш. А здаецца, так шмат яшчэ не паспеў зрабіць. Іншы раз у бяссонную ноч пачынаеш успамінаць мінулае, пераварочваеш яго, бы у тым калейдаскопе. І бачыш усе свае дасягненні, хібы, памылкі вялікія і малыя. Хочаш усё вярнуць, паправіць. Ды дарма. Як пісаў Я. Колас: “О, як бы я хацеў спачатку дарогу жыцця па парадку прайсці, яшчэ раз аглянуцца, сабраць з дарог камені тыя, што губяць сілы маладыя…” “Ды назад не прыйдзе хваля тая...”

Так здарылася. што 80 гадоў таму ў позні майскі вечар, 5 траўня 1927 года пад самае свята Юр’ева дня. прыйшлося з’явіцца на свет Божы. Нарадзіўся пад сузор’ем Цяльца або Быка. Таму, магчыма, жыццё працякала па-поцемку, вобмацкам, з немалой колькасцю гузоў на галаве - па прыслоўі: ”Што дазволена Юпіцеру, тое не дазволена Быку”.

Вёска Збляны, дзе пашчасціла прыйсці на свет, раскінулася ўздоўж правага берага Нёмана ў самым цудоўным на свеце прыродным кутку. Усё тут незвычайнае і натуральнае: і лес, і поле, і неба іншае, спеў птушак не такі. І, нават, подых ветру іншы. А галоўнае - цудоўныя, самабытныя людзі. З вясёлым норавам, тонкім гумарам, з сялянскай хітрынкай і, галоўнае, у душы кожнага з іх жыве мастак: жывапісец, паэт, музыкант.



***Жыццё пражыў не пустацветам. На здымку ўнук і праўнук Анатоля Куляша.***

Тут пазнаў першыя словы, першыя літары, тут прыйшло першае каханне. Тут усё было першым. Але ў І7-гадовым узросце жыццё прымусіла пакінуць гэты багаты, цудоўны, жыватворны край. Ды назад так і не вярнуўся, калі не лічыць, кароткачасовыя “набегі” да бацькоў паласавацца сялянскімі дэлікатэсамі ды пасядзець на беразе ціхага Нёмана з вудай.

**ВОБРАЗЫ МІЛЫЯ РОДНАГА КРАЮ...**

***Вобразы мілыя роднага краю,***
***Смутак і радасць мая!***
***Што маё сэрца да вас парывае?***
***Чым так прыкованы я…?***

Самы любімы мною беларускі літаратурны твор - паэма класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа “Новая зямля”. Гэта выдатная энцыклапедыя сялянскага жыцця. У ёй, як у кроплі крыштальна чыстай вады, адлюстроўваецца лад жыцця селянінаў мінулым і, нават, у нашыя дні. Так мне здаецца мо таму, што сам я з сялянскай сям’і і пражыў у вёсцы, бадай, самыя цудоўныя дзіцячыя і юнацкія гады. Таму мне добра вядомы кожная рысачка псіхалогіі, быту і ладу жыцця

жыхара вёскі. Колькі б я ні бываў за межамі сваёй вёскі над Нёманам, маё сэрца заусёды заставалася ў ёй. Інакш і быць не магло: занадта цудоўны гэты край.

Мая родная вёска Збляны знаходзіцца ўсяго за 35 кіламетраў на поўдзень ад раённага цэнтра Ліда на вядомым гістарычным шляху. Па іму свой час рухаліся войскі французскага імператара Напалеона Банапарта, калі ён ішоў заваёўваць Расію ў 1812 годзе. У 1941 годзе ішла тут на злом сваё галавы зграя нямецка-фашысцкай навалы, падганяная шалёным яфрэйтарам. Тым жа шляхам і ўцякалі, як толькі маглі, назад. Ёсць, аднак, і іншыя, больш прыемныя старонкі ў яе біяграфі. З гэтым шляхам былі знаёмыя знакамітыя ў Беларусі і Расіі дзяржаўныя і палітычныя дзеячы, вайскоўцы: дзекабрысты Я. Абаленскі, М. Мураўёў, герой Айчыннай вайны 1812 года Дз. Давыдаў і легендарная Н. Дурава, казацкі атаман Платаў, царскі генерал Дохтураў ды шэраг іншых. Як піша вядомы маскоўскі пушкініст Раманюк, некаторы час у вёсцы Беліца на гэтым шляху знаходзіўся бацька геніяльнага рускага паэта Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна - Сяргей Львовіч Пушкін. Ён меў званне маёра і служыў у царскай арміі Аляксандра I інтэндантам. Не выключаю, што будучы чалавекам дапытлівым, мог наведваць вёску Збляны.

Збляны - тыповае беларускае сялянскае паселішча. Дарога да яго ўедца праз палі па ўскрайку леса ўздоўж правага берага сівога бацькі-Нёмана. Ужо за некалькі кіламетраў з невялікага ўзвышша бачна ў далечыні, як вырысоўваюцца на тле блакітнага небасхілу велічныя купалы Пакроўскай царквы. А навокал яе, бы тыя авечкі ў летні жар цесна збіліся прыземістыя сялянскія хаты, хаваючыся ў засені густых зялёных дрэў. Як і іншыя шматлікія вёскі Беларусі Збляны працягнуліся ўздоўж тракта і маюць звычайную "беларускую сялянскую архітэктуру": *"хлеўчык, пограб і гуменца пад адзін зліліся плех"*.

Вёска мае сваю адметную гісторыю. Адну і тую ж назву носяць тут два паселішчы - вёска Збляны і хутар Збляны. Абодва яны маюць адзіны гістарычны корань. Нажаль, у назве "хутар" страчваецца гістарычная сутнасць паселішча. У строга распрацаванай і дзейнай класіфікацыі населенных пунктаў хутар мае больш нізкі статус, чым вёска. А гэта не адпавядае рэчаіснасці. На самай справе "хутар Збляны" ўзнік раней, чым сённяшняя вёска. Да таго ж, гэтае паселішча зараз далёка ўжо не хутар, а сапраўдная вёска, якая складаецца з некалькіх дзесяткаў двароў.

Хутар Збляны ўзнік яшчэ ў сярэднявеччы як панскі маёнтак. Ім у розныя часы валодалі вядомыя ў Беларусі феадалы: Радзівілы, Вітгенштэйны, Ільінічы, Трубяцкія. Называўся ён тады Зблянскі Двор. Назва гэта захоўвалася доўга: да другой паловы 50-х гадоў мінулага стагоддзя. Затым, ва ўгоду савецкім ідэалагічным канонам перайменавалі ў "хутар".






*Збляны*

У XV-XVI стагоддзі сучасную вёску Збляны называлі "Загараднікі зблянскія". Ужо гэтая назва раскрывае яе гістарычнае паходжанне. Тэрмін "загроднік" у польскай мове азначае "беззямельны селянін". Па значэнні ён аналагічны беларускаму "агароднік, селянін у ВКЛ, якіх пасялялі на невялікіх надзелах зямлі і абавязвалі выконваць працоўную павіннасць на карысць гаспадароў маёнтка. Згодна са "Уставам на валокі 1557 года агароднікам /загараднікам - *А.К.*/ давалі па 3 моргі - 1 морг = 0,71 га - зямлі і пасялялі па 10-20 двароў паблізу маёнткаў. За гэтыя надзелы агароднікі /загараднікі/ павінны былі адрабляць землеўладальнікам 1 (адзін) дзень без каня ў тыдзень, а іх жанкі - 6 дзён за лета". Гэта дазваляе пабудаваць лагічны ланцужок у гісторыі ўзнікнення адных і другіх Зблянаў. І куды больш маецца падстаў, каб сённяшні "хутар Збляны" называць ягоным гістарычным назовам - "Зблянскі Двор", як гэта было на працягу стагоддзяў.

Аб паходжанні назвы вёскі існуе некалькі розных версій. Але наўрад ці якая-небудзь з іх адпавядае сапраўднасці.

Вёска расла і пашыралася. Паводле перапісу насельніцтва Расійскай Імперыі 1886 года ў ёй было 28 двароў і 235 жыхароў. У пачатку XX стагоддзя - 363 душы.

Паступова грамадскае жыццё зблянцаў пачало перамяшчацца з маёнтка ў вёску. Гэтаму ў значнай ступені паспрыяла пабудова ў вёсцы на ахвяраванні Людвікі Караліны Радзівіл уніяцкай царквы, якая з 1835 года стала праваслаўнай. Грамадская і культурная роль "Загараднікаў зблянскіх" яшчэ больш узмацнілася пасля адмены прыгоннага права, калі сяляне атрымалі волю, а феадалы страцілі права на прыгнёт з'ехалі. У 1894 годзе пры Зблянскай праваслаўнай царкве была адкрыта прыходская школа. З'явіліся крама, карчма. Увогуле, жыццё пачало няспынна змяняцца на карысць вяскоўцаў - "загараднікаў зблянскіх".



***Родная хата***

На працягу амаль 20-ці гадоў XX стагоддзя ў адпаведнасці з Рыжскай дамовай тут панавалі палякі. Вёска ўваходзіла ў склад Беліцкай гміны Лідскага павету Навагрудскага ваяводства. У той час у вясковай школе ўсе прадметы, нават праваслаўная рэлігія для вучняў-беларусаў, выкладаліся выключна на польскай мове. І нягледзячы на нацыянальны ўціск жыццё ў вёсцы кіпела ў этнічным рэчышчы. Гэта не змусіла вяскоўцаў зневажаць сваю мову, сваю этнічную культуру, звычаі, абрады. Усюды гучала беларускае роднае слова, звінелі над Нёманам народныя песні, у нацыянальным стылі адбываліся святы, вяселлі і г.д.

Карэнныя змены адбыліся ў другой палове XX стагоддзя, калі быў створаны калгас. Пік росквіту прыйшоўся на канец 60-х - пачатак 70-х гадоў. У вёсцы працавала базавая васьмігадовая школа, сельскі клуб і бібліятэка, ФАП. У вёску правялі электрычнасць, і ў хатах замік газавых лямпаў, што свяцілі, бы тое воўчае вока, заззялі электрычныя лямпачкі. Загаварыла радыё, а над дахамі некаторых хат узнесліся высока ў неба тэлевізійныя антэны. Калі да гэтага часу ў вёсцы было толькі 6 хатаў, у тым ліку памяшканні святароў і школы, з драўлянымі падлогамі, а ў астатніх - каля сотні - падлогі былі глінабітныя, то зараз падобныя можна палічыць на пальцах. А мо і тых ужо не стала. Вясковы хор на рэспубліканскім аглядзе народнай самадзейнасці атрымаў званне народнага.

Вёска была да берагоў, як той вулей, запоўнена людзьмі. Яшчэ на значнай адлегласці ад пачатку вуліцы сустракала прыезджага чарада дзетак. Зараз сустракае толькі насцярожаная цішыня. На памяць прыходзяць радкі верша Якуба Коласа, напісаныя ім сто гадоў таму:

*Крыж збуцвелы пры дарозе,*
*Кучка топаляў сухіх.*
*Сцішна, нудна, бы ў астрозе,*
*Ці на могілках якіх...*

Карціна жывая. Быццам паэт толькі-толькі што пабываў тут. Крыж стаіць праваслаўны ля ўезду ў вёс.ку, бо ўсе яе жыхары праваслаўныя. Жыве тут толькі адна сям'я католікаў. І тая прышлая. Што здарылася? Чаму так раптам усё змянілася? Куды падзеліся людзі, якіх спрадвеку было тут так багата? Раслі, выраслі, жаніліся, нараджалі, расцілі дзяцей, выхоўвалі, перадаючы ў спадчыну набытае вякамі. А аддаць і перадаць было што. Сёння ў вёсцы няма ніводнай маладой сям'і. Таму і не чутно дзіцячага гоману, як было некалі. У палове хат ніхто не жыве. Падворкі зарастаюць хмызняком ды пустазеллем, пазасыхалі студні. Кажуць, улада збіраецца гэтыя хаты разбурыць і знесці. Дык што ж тады застанецца ад некалі. квітнеючай галасістай вёскі? Могілкі?

Знікла школа - няма каго вучыць, няма ФАПА, а лячыць - хоць адбаўляй. Рэдкі госць заходзіць у бібліятэку. Заціх у клубе гармонік... Пытанні, пытанні, пытанні... А дзе адказ? А мо гэта і ёсць сапраўднасць вясковага жыцця? Ягонае развіццё ідзе па крывой сінусоідзе: то ўзлёт, то падзенне, то ўзлёт то падзенне...

Але на мой асабісты погляд, галоўная прычына тут вельмі псіхалагічная. Працу земляроба нельга прыраўноўваць і цалкам пераўтвараць у чыста індустрыяльны працэс. Зямля, як жывая істота, любіць увагу і ласку, любоў да сябе. Тады і яна па-свойму аддзякуе і ўжо ніколі не адпусціць і не пакіне. Як пісаў паэт:

*Зямля не зменіць і не здрадзіць,*
*Зямля паможа і парадзіць,*
*Зямля дасць волі, дасць і сілы,*
*Зямля паслужыць да магілы,*
*Зямля дзяцей тваіх не кіне,*
*Зямля - аснова ўсёй айчыне.*

Памятаю, як некалі бацька пяшчотна адносіўся да зямлі і нас гэтаму ж вучыў. Таму, калі на выпускных дзяржаўных экзаменах трэба было пісаць сачыненне, і была прапанавана тэма пра становішча сялянства ў дарэвалюцыйнай Расіі ў творах беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, я не раздумваючы доўга, узяў менавіта яе. І... прайграў - не ўлічыў фактар часу. У аснову паклаў твор Я. Коласа "Новая зямля" і вершы дарэвалюцыйнага перыяду. Атрымаў "пасрэдна", бо "ўславіў прыватную гаспадарку".

Гараць сёння ў вясковых хатах электрычныя

лямпачкі, уздоўж вуліцы павечарах ліхтары, свецяцца экраны тэлевізараў, на падворку стаяць лімузіны - гэта прыехалі на выхадныя дні з горада дзеці да састарэлых бацькоў паласавацца сялянскімі далікатэсамі. Але няма ў хатах сённяшняга вяскоўца той цеплыні пачуццяў, утульнасці, якія былі раней. Памерла душа вёскі.

Не чуваць больш рыкання кароўкі і рохкання парасяці на падворку. Не кудахтаюць куры, не спаборнічаюць паміж сабою пеўні. Не чуваць нават мяўкання катоў, брэху сабакі. Змоўклі гукі чароўных песняў, не раздавацца ім ізноў.

Дык ці наступіць калі-небудзь часіна адраджэння беларускай вёскі ў глыбінцы? Наша ж Бацькаўшчына вякамі жыла і ганарылася яе непаўторнай прыгажосцю і рамантыкай.

Ды толькі наўрад ці калі-юльвечы гэта можа ўжо здарыцца. Сённяшняя "урбанізацыя" беларускай вёскі ў выглядзе пабудовы на прымітыўных, непрадуманых, без уліку нацыянальных асаблізасцяў падставах аграгарадкоў вынішчыць ушчэнт сялянскі дух з паселішчаў, як нацыянальную гістарычна-этнічную з'яву. Гэтыя "аграгарадкі" высмакчуць з вёскі ўсе жывыя здаровыя сокі, што яшчэ ў ёй захаваліся да сённяшняга часу і пераўтвораць яе ў змрочны нежывы цень мінуўшчыны...

**ЦУДОЎНЫЯ ШКОЛЬНЫЯ ГОДЫ**

Ішоў 1934 год. Мне ўжо споўнілася сем гадоў. Набліжаўся першы ў жыцці старт - ісці ў школу. Што робіцца у школе, у мяне нейкае ўяўленне ўжо было. Да мяне там вучыліся мае старэйшыя браты Валодзя, Косця і сястра Надзя. А разам з імі "вучыўся" і я. Калі яны вучылі ўрокі, я ўважліва слухаў і запамінаў усё напамяць. Тым не менш, школа хавала ад мяне нешта загадкавае і невядомае. Само слова "школа" вымаўлялася па-асобаму, са значэннем.

Асаблівай падрыхтоўкі не бышо, калі нелічыць, што маці пашыла з даматканага палатна штонікі і кашульку, памыла ды пастрыгла.

Бывай, Нёман! На яго берагах мы праводзілі ўсе летнія дні напралёт: купаліся, загаралі, рыбачылі, забываючыся іншы раз збегаць паесці. На жаль, купанне часам заканчвалася трагедыяй. На маіх вачах ледзь не ўтапіўся мой стрыечны брат Алёша, мой равеснік. Яго, на шчасце, выратаваў паромшчык, вылавіўшы ўжо досыць далёка ад тога месца, дзе ён, не ўмеючы плаваць, трапіў на вялікую глыбіню.

У школу, насустрач сваёй будучыні, пайшоў з маці. Так ішла большая частка з нас. Як заўсёды, усе босымі, толькі мацяркі вымылі добра ногі.

Школа знаходзілася у другім канцы вёскі, насупраць Пакроўскай праваслаўнай царквы. Гэта быў адзіны цагляны будынак у вёсцы, пабудаваны яшчэ ў 1864 годзе. Быў некалі яшчэ адзін -у майго дзеда Куляша Антона. Але пасля яго смерці нашчадкі не змаглі падзяліць спадчыну, і дом разабралі. Застаўся адзін пограб, які выкарыстоўвалі як лядоўню. Не ведаю, ці захаваўся ён сёння. Бадай так. Бо збудаванне было грунтоўнае.

Настаўнік, паляк з паходжання, Невядомскі Часлаў Казіміравіч быу чалавекам інтэлігентным, шмат чым захапляўся. Асабліва паляваннем, ловам рыбы і агародніцтвам. Меў адзін фізічны недахоп - крыху кульгаў на адну нагу. На двары школы сабраўся цэлы натоўп вяскоўцаў. Акрамя вучняў і іх бацькоў, прыйшлі і іншыя, каб палюбавацца гэтай урачыстасцю.

З прыходам гэтага настаўніка, школа памяняла сваё аблічча. На колішнім пустыры былі разбіты клумбы з морам кветак, якія ў летне-восеньскія месяцы пераліваліся ўсімі колерамі, вядомымі прыродзе. Даглядалі кветкі разам з настаўнікам і вучні. Можна было залюбавацца.як звыклыя з дзяцінства да працы на зямлі сялянскія хлопчыкі і дзяўчынкі, з захапленнем і радасцю працавалі, забываючыся іншы раз нават выцерці рукавом нос ці твар ад поту.

Нягледзячы на знешні спакой, чаканне першага школьнага дня было крыху трывожным: павінна была быць сустрэча з вока на вока з настаўнікам, мабыць самым паважаным чалівекам у вёсцы і ў наваколлі. Нават дарослыя ставіліся да яго з вялікай пашанай. Акрамя таго, у сваім асяроддзі ў звычайных абставінах мы карысталіся беларускай мовай, якую чамусьці называлі "простая". А тут трэба было асвойваць чужую - польскую. Як аказалася.для некаторых гэта было справай з нялёгкіх.

Атрымаўшы "інструкцыі" ад старэйшых братоў і сястры, хоць і з вялікім хваляваннем, я ўпэўнена пайшоў *у* сваю будучыню, моцна трымаючыся за матчыну руку.

Бацька,адпраўляючы "ў навуку" даў наказ: "Вучыся, сынок, веды за плячыма не носяць, а ў жыцці ў будучыні спатрэбяцца". Наказ бацькі ўсімі сіламі стараўся выканаць.

Увогуле, "будучыня" да мяне была нават вельмі прыхільнай Вучоба давалася лёгка. Без асаблівых намаганняў асвойваў польскую мову, прадметы матэматычнага цыклу,.меў нядрэнныя схільнасці да рысавання.

Такіх, як я, у школе было нямала чалавек каля 20-ці. А калі дадаць да нас яшчэ тры класы, то ўсіх было каля ста чалавек. А гэта для вёскі па сённяшніх мерках непамерна шмат.

Школа нагадвала сабой пчаліны вулей. Аднак вучні паводзілі сябе куды спакойней, чым гэта можна назіраць зараз. Гэта было вынікам уплыву настаўніка. Настаўнік сельскай школы ў той час быў бясспрэчным аўтарытэтам.

Будынак школы для нас здаваўся вельмі вялікім. Паўднёвую палову яго займаў вучэбны клас, другую, паўночную - настаўнік (ён жа загадчык школы) з сям'ёй. Сям'я яго па мерках таго часу была нешматлікай: сам настаўнік, ягоная жонка - Марыся, двое дзетак дашкалят - дачка Галінка і сын Юрак. Не ведаю чаму, настаўнік сына свайго называў не па імені - Юрак, а "Дзёбак". Усе размаўлялі толькі па-польску. Асабліва жонка. Пражыўшы шмат гадоў сярод беларусаў, мове іх так і не навучылася. Тым часам, палякаў у вёсцы не было ўвогуле. Быў толькі адзін прышлы каталік - Прэсаль Браніслаў, паромшчык. Але ён, які ўсе мы, карыстаўся

беларускай мовай.

Я не перастану паўтараць, што наш настаўнік быў настаўнікам ад Бога. На ўроках ён захапляў сваіх вучняў і вёў за сабой, заварожваў. Што праўда, быў у яго адзін недахоп. Ён мог вельмі хутка "ўзарвацца" і нават балюча пакараць. У той час фізічныя пакаранні, увогуле, былі забаронены, але настаўнікі часцяком імі ўсё такі карысталіся. Ставілі ў вугал на калені ці білі лінейкай па далоні. Аднойчы ні за што, ні пра што дасталося і мне.

Заняткі пачыналіся і заканчваліся малітвамі. Малітвы ўжо не памятаю, а змест іх быў такі. Зранку, перад пачаткам, мы прасілі Матку Боску (малітвы таксама былі на польскай мове), каб яна дапамагла нам у вучобе, лепш засвойваць новыя веды, быць уважлівымі і шчырымі. Пасля заканчэння ўрокаў дзякавалі Бога за тое, што мы атрымалі новыя веды і прасілі яго, каб яны сталі карыснымі нам у жыцці.

Пасля шумна і моцна ляпалі вечкамі партаў і з шумам выляталі на вуліцу, разбягаючыся кожны ў свой бок.

Але не заўсёды. Быў у нас невядома адкуль прыйшоўшы звычай біцца з "дварчанамі". Гэта значыць, са сваімі калегамі па школе са Зблянскага Двара. У той час, так звалі сённяшні хутар Збляны. Іншы раз добрых гузоў набівалі адны адным.

Што за традыцыя, адкуль яна прыйшла, і хто яе ўвёў? Невядома. Але трывала яна даволі доўга. У справу умешваліся бацькі, настаўнік. І некаторы час усё заціхала. Пасля пачыналася спачатку.

Калі я прыйшоў у школу, у ёй праводзілася рэформа. У 1932-33 вучэбным годзе Сейм Рэчы Паспалітай прыняў закон аб школе. Паводле яго навучанне станавілася абавязковым, але толькі ў межах пачатковай школы. Усе навучальні былі падзлены на тры ступені. Першая ступень - чатырохкласная з адным або двума настаўнікаі. Тэрмін навучання працягваўся 7 гадоў; 1-2 класы - па аднаму году, у 3 класе - 2 гады, а ў 4-м - аж 3. Вучэбная праграма ў 3 і 4 класах была складзена так, што кожны год вучыліся па розных надручніках. Падручнікі маламаёмасным вучням выдаваліся бясплатна. Толькі пасля навучальнага года іх трэба было вярнуць у школьную бібліятэку.

У школах іншых ступеняў тэрмін навучання складаў таксама 7 гадоў, толькі кожны год у наступным класе. У залежнасці ад ступені школы і колькасці класаў у ёй змяняўся і колькасны склад настаўнікаў - ад аднаго да 7 і больш. Мне прыйшлося вучыцца ў школе першай ступені з адным настаўнікам. Выкладанне прадметаў вялося толькі на польскай мове. Спачатку (да 1937 года) на беларуска-славянска-рускай мове выкладалася рэлігія для вучняў з праваслаўных сямей. Кожную суботу па адной гадзіне ў класе праводзіў урокі рэлігіі святар Зблянскай прыходскай Пакроўскай царквы айцец Аляксандр Апанасевіч. Гэты "айцец" запомніўся мне на ўсё астатняе жыццё. Мне ўжо восемдзесят, а я ўсё яшчэ яго памятаю. На жаль, успаміны для яго не пахвальныя. Не выключаю, што менавіта яго адносіны да мяне зрабілі з мяне "ўстойлівага атэіста". Кожны раз, калі прыходзіў у школу, перш-наперш пытаўся, хто не быў у нядзелю ў царкве. У гэты лік, як заўсёды, трапляў я. Зімой у царкве была халадэча, а я не меў належнай вопраткі і абутку, усё з пляча старэйшых братоў. За гэта ён пакідаў мяне без "абеда", ці як дражнілі - "у казе". Меў я тады ўсяго 8-10 гадоў. Жыццё і так не было сытым. А тут яшчэ цэлы дзень трэба прасядзець галодным. Не пускаў дахаты, пакуль не прыходзіла маці і не забірала мяне ўсяго ў слязах з гэтай "рэлігійнай вязніцы". Ужо ў гэтыя дзіцячыя гады я пазнаў, што толькі матэрыяльна забяспечаны чалавек можа быць свабодным, паважаным, мець права на годнасць. А калі ты бедны, ты і не чалавек. І нічога з таго часу не змянілася да сёння.

Пераход выкладання рэлігіі для праваслаўных дзяцей з роднай мовы на польскую выклікаў у вясковай грамадскасці гэткае "падпольнае абурэнне". Усе наракалі, але сказаць сваё гучнае слова "не" усе баяліся. Бо вельмі лёгка за гэта можна было трапіць, калі не ў Картуз-Бярозу, то ў лідскую Каменку ці віленскія Лукішкі - без праблем.

Далей за размовы на вячэрніх пасядзелках у "шэрую гадзіну" справа не рухалася. Затое мы, падлеткі, успрынялі гэта, як кіраўніцтва да дзеяння. У адзін суботні дзень, калі звычайна ў нас былі ўрокі рэлігіі, мы дамовіліся двума класамі "прадэманстраваць" свой "пратэст" і ўцячы з урокаў. І не як-небудзь, а менавіта ў той момант, калі ў клас увойдзе бацюшка.

І гэты крытычны момант настаў. У клас увайшоў айцец Аляксандр. Усе мы пачалі зыркаць вачыма адзін на другога. Ніхто не рухаецца з места.

Тады я і мой сусед, сын солтыса, Сцёпа Насалевіч, адным годам малодшы ад мяне, схапіліся з месца і, як кажуць, лахі пад пахі, панесліся прэч з класа. Куды? Бясспрэчна, дамоў.

Якая "педагагічная паэма" пачалася пасля гэтага дома, памятаю па сённяшні дзень - вось ужо 70 гадоў!

Калі бацька даведаўся пра мой "патрыятычна-геаічны" учынак, як расперазаў папругу (дзягу) і як упісаў мне па тым месцы, адкуль ногі растуць. Вось якую ўзнагароду атрымаў я за сваё ганаровае геаічнае бунтарства.

Гэта было даўно, але пачуццё годнасці нацыянальнай у душах людзей прысутнічала, і зусім іншае зараз. Сёння мы сваю матчыну мову дабраахвотна пахавалі і працягваем гэта рабіць ва ўгоду "вялікаму і магутнаму" сваімі да яе адносінамі, губляючы этнічную прыналежнасць, нацыянальны гонар і годнасць. І не ведаем за што, за якія грахі і навошта? Няўжо з-за свае інтэлектуальнай абмежаванасці і непаўнавартаснасці?

Толькі што пачуў па беларускім тэлебачанні, што ў Баранавічах пачалі вучыць замежнікаў рускай мове! Падкрэсліваю: не беларускай, як гэта павінна быць у сувярэннай дзяржаве, а чужой - рускай.

Прынятыя Сеймам законы аб школе пераследавалі галоўную мэту - абмежаваць, калі не пазбавіць цалкам, доступ да вышэйшай адукацыі дзяцей з бедных пластоў насельніцтва - рабочых, сялян.

Класны пакой быў застаўлена двума радамі двухмесных партаў. У партаў былі адкідныя векі, што

выклікала шмат шуму, калі вучні садзіліся ці ўставалі. У адмысловых адтулінах на іх былі ўстаўлены чарнільніцы з абавязкова чорным чарнілам.

На сцяне спераду вісеў абраз з выявай Езуса, які з часам замянілі на каталіцкі крыж з чорнага маронага дубу. Абапал віселі партрэты прэзідэнта Ігнацы Масціцкага - злева і Юзафа Пілсудскага - справа. Прэзідэнт быў намаляваны ў чорным фраку, белай сарочцы з “бабачкай”, і шырокая блакітная муаравая стужка цераз правае плячо - знак высокай дзяржаўнай улады. Быў нейкі ордэн, але не памятаю які.

Юзаф Пілсудскі быў у вайсковай форме маршалка з двума ордэнамі на грудзях - ордэн Віртуці Мілітары і Крыжа Валечных. Нягледзячы на тое, што па канстытуцыі кіраўніком дзяржавы лічыўся прэзідэнт. кіруючую ролю іграў Пілсудскі, як “начальнік дзяржавы”. Усе выхаваўчыя мерапрыемствы тым ці іншым чынам вярцеліся вакол ягонай асобы. Нам шмат расказвалі аб яго геразіме як палкаводца,аб герaічных ўчынках на вайне, пра яго сям’ю - жонку Аляксандру і дзвюх дачок - Ванду і Ядвігу. Не забываліся расказаць пра яго любіміцу-кабылу “Каштанку”, з якой маршалак прайшоў увесь свой баявы шлях.

Пілсудскі ў даваеннай Польшчы паважаўся як нацыянальны герой. Любое сказанае непаважнае слова ў яго адрас каралася нават зняволеннем.

Ішоў травень 1935 года, набліжаліся канікулы, самая доўгачаканая пара школьнікаў. Для нас, бадай, больш за ўсіх: зноў Нёман, зноў рыбалка, купанне і г.д. Нашы заняткі ў школе праводзіліся ў другую змену, гэта значыць, пасля абеду. Нечакана ў школу прынеслі вестку: памёр “дзядзэк” - Ю. Пілсудскі. Разгубленасць нашага настаўніка перадалася і нам, вучням. І толькі адна дзяўчынка сказала, што яна яго нічуць не шкадуе, хутчэй наадварот. Не ведаю, чым магло абярнуцца такое дзіцячае выказванне школьніцы для яе бацькоў, калі б яно дайшло да ўлады. На шчасце, відаць, настаўнік пра гэта нікому не сказаў.

Да 1939-40 навучальнага года я паспеў скончыць 3 класы і перайсці ў 4-ты. Каб закончыць яго, трэба было правучыцца яшчэ адзін год. На гэтым мае “універсітэты” былі б закончаны назаўсёды. Але пачалася нямецка-польская вайна,а ўжо у палове верасня 1939 года прыйшла савецкая ўлада. Усіх нас без выключэння пакінулі яшчэ на адзін год. Прычынай таму, як нам растлумачылі, было “няведанне рускай мовы”! Таму закончыць чатыры класы прыйшлося ва ўзросце старэйшым за 14 гадоў, страціўшы ў параўнанні з савецкімі равеснікамі 3 гады. Адставанне прадоўжылася ў гады вайны, у 1941-1944 гадах. У шосты клас прыйшлося ісці ва ўзросце 17 гадоў!

Але вернемся да афармлення класа ў цершыя гады вучобы. На сцяне справа вісела вялікіх памераў геаграфічная карта Еўропы. У час перапынкаў некаторыя вучні, у тым ліку і я, стаялі каля яе, учытваліся ў яе і ў думках падарожнічалі па марах і кантыненце. На супрацьлеглай сцяне быў размешчаны вялікі плакат з партрэтамі польскіх князёў і каралёў, пачынаючы з Мешка І і канчаючы Станіславам Аўгустам Панятоўскім, апошнім каралём Рэчы Паспалітай. Партрэты на ім былі выкананы вядомым польскім мастаком Янам Матэйкам. Пад гэтым плакатам быў размешчаны каляндар назірання за надвор’ем, на якім спраўна - дзень у дзень заносіліся дадзеныя аб надвор’і: тэмпература, ападкі, стан неба. Запаўненне каляндара вялі вучні старэйшых класаў.

Нарэшце, на тыльнай сцяне, злева ад уваходу, вісеў партрэт былога міністра ўнутранных спраў Польшчы Браніслава Перацкага, які загінуў у сутыкненні з украінскімі падпольшчыкамі на Валыні. Дарэчы, гэтае забойства падштурхнула польскія ўлады да стварэння ў Картуз-Бярозе канцэнтрацыйнага лагера для палітзняволеных (1934 г.).

Вісеў у куце ля акна яшчэ адзін плакат-дыяграма. На ім былі вызначаны месцы краін свету па магутнасці марскога флоту. Калі настаўнік прымацоўваў яго да сцяны, усе мы чарадой стаялі побач із вялікай цікавасцю разглядалі, што там намалявана. Але хутка цікавасць знікла, і большасць перастала яго нават заўважаць. Мяне ён чамусьці вабіў да сябе. Мяркую, што сваімі малюнкамі. Хто з нас у дзяцінстве не марыў здзейсніць падарожжа на караблі па марах ды акіянах! Мала такіх знойдзеш. Усе мы ў гэтыя гады рамантыкі.

А тут на першым месцы плаката выява вялізнага і прыгожага англійскага марскога лайнера. А на яго тле такі ж прыгожы “джэнтльмен-марак”. У той час сапраўды Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі было самай магутнай марской дзяржавай свету.

На якім месцы знаходзіўся ў той час СССР у гэтым сэнсе, не памятаю.

Помню толькі малюнак-візітоўку на плакаце. На фоне карабля быў намаляваны чырвонаармеец у чырвонай кашулі, падпяразаны папругай, сінія штаны-галіфэ. Абуты ў боты-усюдыходы,а на галаве - будзёнаўка з вялікай чырвонай зоркай наперадзе. У руцэ - доўгая вінтоўка Мосіна са штыком. Малюнак вельмі нагадваў тыя, што маляваў некалі Маякоўскі ў сваіх “Вокнах РОСТа”.

Як бачым, вучэбны клас быў ператвораны ў “кабінет палітычнай асветы”.

У школе меўся “склепік” (крамка), дзе можна было набыць патрэбныя вучэбныя прылады; сшыткі, алоўкі, пёры, гумкі, лінейкі. Вёў “гандаяь”, як правіла, вучань чацвёртага класа ў апошні год навучання. Пры мне ім быў Лянцэвіч Сцёпа. “Тавар” яму дастаўляў настаўнік. Сцёпа прымаў, прадаваў і здаваў настаўніку пісьмовую справаздачу. Акуратна афармленыя дакументы захоўваліся ў настаўніка. Усе прыналежнасці прадаваліся з невялікай нацэнкай.

Мяне настаўнік “нагрузіў”, як кажуць, “грамадскай работай”. Я пачаў дапамагаць яму ў падрыхтоўцы наглядных дапаможнікаў. Сам ён на вялікіх аркушах паперы рабіў эскізы, а я па метаду “размалюй сам” акварэльнымі фарбамі іх размалёўваў. Пасля дапрацоўкі настаўніка, дапаможнікі нельга было адрозніць ад сапраўднай карціны. Рабіць гэта ён умеў дасканала.

Школьны будынак, пабудаваны яшчэ ў другой палове XIX стагоддзя, праіснаваў да лета 1942 года. Па распараджэнні БШПР (Беларускага Штаба Партызанскага Руху) у ліпені-жніўні таго ж года.школа была спалена

савецкімі партызанамі. На пытанне сяльчан: "Нашто?" - адказаяі: - "У будынку акупанты могуць размясціць свой апорны пункт". Так і прастаялі абгарэлыя сцены ўсю вайну і першыя пасляваенныя гады. Пры аднаўленні будынка былі ўнесены шматлікія змяненні, і ён згубіў свой першапачатковы выгляд. Увогуле, змянілася шматшто: зніклі клумбы з кветкамі, няма той чысціні і парадку. Не знайшлося годнага Чаславу Казіміравічу пераемніка.

У шосты клас я пайшоў пасля вайны - 1 кастрычніка 1944 года - у "пераломным узросце". Гэта наклала свой адбітак. Нажаль, адмоўны: знікла былая прылежнасць,а з ёй засваенне праграмнага матэрыялу, паспяховасць і якасць ведаў. Што праўда,было тут нямала і іншых аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын. Веды браў за кошт здольнасцяў і добрай памяці.

Так пачалася мая новая адукацыя, якая доўжылася многія гады і закончылася ў Беларускім Дзяржаўным Універсітэце на факультэце геаграфіі. Да гэтага два гады правучыўся на фізіка-матэматычным факультэце Гарадзенскага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы.

"Школьны годы чудесные, как они быстро летят! Их не воротишь назад". Ад іх засталіся толькі прыемныя ўспаміны.

Ідучы ў першы клас сельскай школы, мне і ў сне не магло прысніцца, што калі-небудзь змагу атрымаць вышэйшую адукацыю і стану, увогуле, паважаным чалавекам: дасведчаным спецыялістам, "Выдатнікам народнай асветы", дыпламантам міжнароднага конкурса амбасады Польшчы на тэму "Польшча - прыязная суседка Беларусі" (2004), адзначаным дзяржаўнымі ўзнагародамі і замежнымі знакамі адзнакі - "Ганаровы Залаты Знак Польска-Савецкай Дружбы".

Трэба прызнаць, што гэта стала магчымым ва ўмовах савецкай улады. Вырашальную ролю адыграла канстуцыйнае права грамадзян СССР на "бясплатную сярэднюю і вышэйшую адукацыю". Слова "бясплатная" адукацыя ўзята ў двукоссе таму, што такой яе не было. Бясплатнай яна было толькі для тых, хто вучыўся. На самай справе яе аплаціла ўсё грамадства краіны ў выглядзе рознага роду падаткаў з рабочых, сялян, службоўцаў.

Бясплатная адукацыя сваіх грамадзян прынесла агромністую карысць самой дзяржаве; яна дапамагла шырэй выкарыстаць інтэлектуальны рэсурс, які да гэтага не быў раскрыты да канца. І гэта не замарудзіла адбіцца на агульным узроўні адукацыі і гаспадарчага развіцця краіны. Сёння цяжка палічыць, колькі выпускнікоў той жа школы ў Зблянах, маіх аднасяльчан, атрымала вышэйшую адукацыю і сталі дыпламаванымі спецыялістамі розных галін вытворчаоці. А адзін з іх, сын беднага селяніна, Бурдун Аляксей Аляксандравіч, абараніў вучоную ступень кандыдата фізіка-матэматычных навук і стаў выкладчыкам галоўнай рэспубліканскай школы - Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта.

Са смуткам прыходзіцца глядзець на гэты школьны будынак сёння, на яго амярцвелыя цагляныя сцены.на апусцелыя класныя пакоі, двор. Не чутно тут больш дзіцячых галасоў, так ажыўляўшых некалі ўсю прастору навокал. Ужо прайшло больш за 10 гадоў, як школу зачынілі з-за "адсутнасці кантынгенту".

**ТАК, БАДАЙ, ЛЁСУ МАЙМУ ТРЭБА БЫЛО**

Хмурны лістападаўскі дзень 1940 года. Я, трынаццацігадовы хлопчык з вёскі ў марынарцы з пляча старэйшага брата - госць горада Ліды. У Лідзе, і ўвогуле ў горадзе быў упершыню. На ўсё навакольнае глядзеў шырока адкрытымі вачыма з вялікай цікавасцю і адначасова з нейкай баязлівасцю. Усё тут было незвычайнае: шырокія з тратуарамі вуліцы, высокія ў дватры паверхі дамы, якія не ідуць ні ў якае параўнанне з прыземістымі, пакрытымі саломай стрэхамі. Пераважная большасць з іх пабудавана з чырвонай цэглы. Помніцца, у нашай вёсцы быў толькі адзін, акрамя школы, такі дом у майго дзеда Антона, і той не захаваўся. Нашчадкі не маглі падзяліць спадчыну пасля яго смерці і вырашылі дом разабраць.

Здзіўляла вялікая колькасць спацыруючых людзей. Асабліва пад вечар і вечарам. Кожны з іх пасвяточнаму апрануты. Усё было вялікае, усё было новае, невядомае і хавала нейкую таямніцу ад мяне.

Гэтае падарожжа было для мяне не толькі першым, але "дарага" мне каштавала. Калі пытанне маёй паездкі ў горад было вырашана, я некалькі начэй не спаў - чакаў таго шчаслівага дня. Цяга да падарожжаў пасялілася ўва мне, бадай, з прыходам на свет і захавалася да сёння.

А пачыналася ўсё вельмі празаічна. Восень. Лістапад. Восенскія канікулы ў школе. Мой настаўнік рускай мовы, лідзянін, Віктар Пятровіч Бялашэўскі, вырашыў паказаць мне "свет". Адпраўляючыся на пабыўку да сваіх бацькоў у Ліду, папрасіў майго бацьку, каб ён дазволіў яму ўзяць і мяне з сабой. Рашыць гэту задачу было не зусім проста: у бацькоў маіх, як заўсёды, не было грошай. Гэтая з'ява ў сялянскіх сем'ях у той час была шырока распаўсюджанай. Не было належнай вопраткі і абутку. Але ўсё неяк вырашылася. Бацька пазычыў грошай, а вопратку і абутак даў старэйшы брат Косця.

У панядзелак ранкам 4-га лістапада мы ўдваіх з настаўнікам адправіліся ў дальнюю дарогу. Спачатку мелі намер ехаць аўтобусам, а да аўтобуснага прыпынку трэба было прайсці шэсць-сем кіламетраў. Такая адлегласць вясковых хлапчуку не палохае. Яны за дзень, бывала, ходзячы за статкам, здольны прайсці дзесяткі кіламетраў без адпачынку. Але, на той грэх,аўтобус у гэты дзень не прыйшоў. Нашы чаканні аказаліся дарэмнымі. Паездка ледзь-ледзь не закончылася "правалам". Заставалася адно з двух - вяртацца дадому ці ісці на чыгуначную станцыю Нёман за 10 кіламетраў, а там да Ліды ехаць цягнікам. Вяртанне дамоў было б для мяне роўназначна трагедыі. Гэтыя хвіліны, калі прымалася рашэнне былі самымі трывожнымі: а што.калі настаўнік пабаіцца, што я не змагу пешшу пераадалець такую адлегласць. На яго пытанне ці. змагу я прайсці, я без вагання адказаў станоўча. Рашэнне было прынята, і мы рушылі: я падскокамі побач з настаўнікам і яшчэ адным аднасяльчанінам. Цягнік Наваельня-Ліда чакалі нядоўга. Хутка ён паказаўся на мосце праз раку Нёман і пыхкаючы парай спыніўся каля перона станцыі. Цягнікі я бачыў раней. У вёсцы Сялец побач са стан-

цыяй, жыламая цёця, сястра маёй маці, я некалькі разоў быў там і кожны раз бегаў з іншымі хлопцамі на станцыю праводзіць пасажырскія і таварныя паязды.

Цягнікі тады ў параўнанні з сённяшнімі былі маленькімі, бы тая забаўка. Верагодна, разы ў два меншыя і па габарытах, і па даўжыні саставаў. У чыгункі каляіна таксама была на шмат вузейшая.

Ў вагоне мой настаўнік сеў у купэ, а я прымастаколіўся каля акна ў калідоры і назіраў, што адбываецца па-за цягнікам. Гэта ж была мая першая паездка ў цягніку. Усё было незвычайна і незразумела: далёкі лес, дрэвы, што стаялі асабняком, забудовы, статкі жывёлы на лугах - усё чамусьці, зрабіўшы нейкі круг, бегла насустрач цягніку. Пасажыры тым часам, седзячы ў купэ ціха гутарылі, хто-кольвечы драмаў або чытаў газету. А за акном вагона праносіліся клубы дыму і пары ад паравоза, стукалі колы.

Падарожжа працягвалася каля гадзіны. Блізка пад вечар мы аказаліся на станцыі Ліда. Лідскі вакзал сустрэў нас сваім яркім вонкавым выглядам: усюды чырвоныя сцягі, лозунгі, плакаты і, галоўнае, - вялізныя партрэты правадыроў - Леніна, Сталіна, Молатава, Варашылава, Калініна. Горад рыхтаваўся сустрэць 23-ю гадавіну Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. І як толькі цягнік спыніўся.з яго на перон высыпалі пасажыры - з авоськамі, валізкамі, вузламі, мяшкамі, кошыкамі і кошычкамі. Некаторыя, а такіх было таксама нямала, - без нічога, як мы.

Бацькі майго настаўніка жылі па вуліцы Райскай (сёння -Горкага), на Слабадзе. Тая назва, па-мойму, была больш рамантычнай, больш адпавядала рэчаіснасці. Уздоўж вуліцы за акуратнмм плотам відаць былі сады, кветнікі, розныя дэкаратыўныя дрэвы, клумбы з яшчэ не засохлымі восеньскімі кветкамі. Можна толькі ўявіць сабе, што тут было летам! Навошта было яе нераймяноўваць? Наўрад ці хто дасць на гэта зразумелы адказ.

Домік, дзе жылі Бялашэўскія - бацькі, сям'я старэйшай сястры, быў невялікі, аднапавярховы на дзве кватэры. Адна сцяна была складзена з "пустакоў", астатнія тры - драўляныя. Такіх домікаў там было толькі два, яны захаваліся да сёння. Двор сядзібы ўпарадкаваны, чысты, нягледзячы на лістапад.

Бацьку настаўніка звалі Пятром. Ён быў кампазітарам. Увесь час, колькі я там быў, ён сядзеў за піяніна і нешта ствараў. Усе астатнія стараліся яму не перашкаджаць.

Як і мой настаўнік, ён быў невысокага росту, галаву пакрывала інтэлігентная з блакітным адценнем сівізна. Сціплая маўклівасць прыдавала яму свой асаблівы імідж. Быў ён палякам,а яго жонка (як звалі, не ведаю)- немкай. Таму Віктар Пятровіч дасканала ведаў нямецкую мову і мяне шмат чаму навучыў. Дома з маці ён гутарыў па-нямецку.

Так я аказаўся ў зусім незвычайнай абстаноўцы, дагэтуль мне незнаёмай. Усё тут было іншым: "страны чужой язык и нравы", і завяло мяне ў нейкае замяшанне, збянтэжанасць. Не дапамагло і знаёмства з пляменніцай майго настаўніка Крысцінай, па ўзросту маёй равесніцай, дяўчынкай прыгожай.

Новы дзень пачаўся са знаёмства з горадам. Шлях у яго пралягаў праз поле наўскасяк да вуліды Варшаўскай. Сёння там узнік цэлы гарадскі квартал з вуліцай Пархоменкі. Прайшоўшы яшчэ некаторую адлегласць уздоўж чыгункі па вуліцы Ліпавай і перайшоўшы праз пераезд, дзе сёння шляхапровад, выйшл на адну з цэнтральных і старэйшых вуліц горада - 3-га Траўня (Ленінская).

Вуліца 3-га Траўня была названа ў гонар прыняцця першай Канстытуцыі Рэчы Паспаяітай і першай у Еўропе ў 1791 годзе. Чыгуначны пераезд зараз зліквідаваны, а існаваў ён з 1884 года да пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя, злучаючы заходнюю частку горада або Слабаду з цэнтрам горада.

Ад былой вуліцы горада - Ленінскай - амаль не засталося нічога ў паміне. Толькі цудам засталіся два будынкі - сярэдняя школа № 3 і дом насупраць яе, пабудаваны ў 1929 годзе ў характэрнай для таго часу архітэктуры. Шмат гадоў пасля вайны ў ім месціўся Дзяржаўны банк. Усе астатнія будынкі былі разбураны ў час вайны і ў адпаведнасці з генеральным планам забудовы горада былі знесены. Былі знесены і малыя яўрэйскія домікі з вельмі незвычайнай архітэктурай, драўляныя і цагляныя, адна - і двухпавярховыя, якія сёння маглі б дапоўніць архітэктурны выгляд горада, Вуліца значна пашырана, мо разоў у дзесяць. Некалі гэту вуліцу засялялі у большасці "государевы люди". Да месца, пэўна, будзе адзначыць, што ў адным з невялікіх дамоў, побач з сённяшнім аўтобусным прыпынкам жыў лекар венеролаг, актыўны ўдзельнік лідскага падполля, якому ў час расстрэлу разам з трыма іншымі падпольшчыкамі - Грыбачэўскім, Макуцэвічам, Шаромавым-Кальфам удалося ўцячы. Галоўнай вуліцай горада была сённяшняя Савецкая, тады па інерцыі яе называлі Сувальскай. Назва гэта была прысвоена вуліцы ў гонар Сувальскага палка, які ў 1920 годзе першым уступіў у горад. Гэта было самае люднае, стракатае месца. Уздоўж вуліцы размясціліся шматлікія крамы і крамачкі, кафвярні, рэстараны, піўныя, кіёскі, два кінатэатры - "Эра" і "Эдзісон". Тут гараджане і прыезджыя маглі задаволіць усе свае патрэбы. На месцы сённяшняй плошчы Леніна (чамусьці ўсё яшчэ яе так называюць) знаходзіўся рынак. Гэта адна са старэйшых плошчаў горада. У сярэднявеччы тут знаходзіліся ратуша і магістрат. Вакол рынка стаялі адна- і двухпавярховыя цагляныя дамы, пабудаваныя пасля пажару ў 1842 годзе. Усе яны ў першыя дні вайны былі разбураны нямецкай авіяцыяй.

Уздоўж правага боку вуліцы стаялі два каталіцкія касцёлы - фарны, ён захаваў свае функцыі да сёння, і ордэна піяраў. У апошнім зараз дзейнічае праваслаўны сабор Міхаіла Архангела.

Таму вуліца Сувальская станавілася месцам дзелавых сустрэч і прагулак. Маладыя людзі вечарамі тут бавілі свой вольны час.

Вуліца пачыналася амаль ад сцен замка Гедзіміна - плошчы Славы і заканчвалася на пераездзе за ліцейным заводам. Забудована была пераважна даухпавярховымі цаглянымі дамамі, цесна збіўшыміся адзін каля другога. Зараз, як і Ленінскай, воблік яе нельга

паэнаць. Пасля разбурэння ў выніку бамбардзіровак у чэрвені 1941 года на ёй цудам захавалася толькі некалькі будынкаў. І тыя ў большай частцы былі спалены і глядзелі на свет божы сваімі чорнымі вачніцамі. Зусім цэлымі засталіся толькі 6. Адзін будынак з гістарычным мінулым - дом № 33. У ім у час вызвалення горада ад войска Пілсудскага знаходзіўся штаб 3-га Сядлецкага палка Чырвонай Арміі. Нельга ўстанавіць, дзе знаходзіўся дом пад № 66, у якім у час баёў за Ліду ў 1920 годзе месціўся штаб 2-ой польскай арміі пад камандаваннем генерала Э. Рыдз-Сміглага.

Сёння вонкавы выгляд вуліцы значна адрозніваецца ад даваеннай. Яна стала больш шырокай і ўпарадкаванай. Шырэйшай стала не толькі вуліца, але і яе тратуары. У начны час асвятляецца шматлікімі ліхтарамі. Вулічныя светлафоры рэгулююць рух транспарту, колькасць якога зараз непамерна павялічылася, як і пешаходаў таксама. Многа зроблена для добраўпарадкавання вуліцы ў аношнія гады.

Балыя забудовы на мой асабісты погляд былі цікавейшымі. Ніводзін дом звонку не паўтараў суседні. Сённяшняя забудова аднастайная, невыразная па архітэктуры і стылі. Усё, што захавалася ад былога, схавана пад тоўстым пластом тынку.

Ад гэтага Першага наведвання Ліды ў маёй памяці да сёння захаваліся некалькі момантаў. Гуляючы па Савецкай, у адным з магазінчыкаў мастацкіх вырабаў я набыў сабе сувенір - хахламскога роспісу сувенірную драўляную лыжку. Рэч сапраўды вельмі прыгожая, але гэтую прыгажосць я змог ацаніць значна пазней. Сёння набыць такі падарунак наўрад ці магчыма. І не толькі ў Беларусі.

Другое - наведванне кінатэатра. Вечарам "па даручэнні" Віктара Пятровіча ягоны малодшы брат Зютак павёў мяне ў кінатэатр "Эра". Трапіць туды ў гэты час было не так проста. На познія сеансы школьнікаў майго ўзросту не пускалі. Майму "суправаджаючаму" нрыйшлося доўга ўмаляць кантралёра, каб той прапусціў мяне ў залу. І яму гэта ўдалося. Наведвальнікаў было няшмат. Але ў фае здавалася, што іх мноства. І ў гэтым вінаваты люстэркі, што былі развешаны на сценах.

У кіназале я забраўся на самы высокі рад. Ішоў кінафільм "Шчаслівы шлях". Раскрыўшы ва ўсю шырыню вочы, затаіўшы дыханне, праследжваў рухі герояў на экране. Я ж кіно, дзе людзі рухаюцца, і чутны іх галасы, таксама бачыў упершыню. І трэці, апошні, момант, што застаўся ў памяці да сёння, з чым прыйшлося сутыкнуцца амаль праз дзесяць гадоў.

Быў позні вечар. Хмурна. Скрозь разрывы нізкіх восеньскіх хмар прастору асвятляла яркая поўня. Прамежкі гэтыя былі не вельмі працяглымі, але вельмі ўражвалі. Дапаўняла гэтую вячэрнюю карціну электрычнае асвятленне. І зноў усё было незвычайна новае - у вёсцы, акрамя газавай лямпы, іншага асвятлення не было. Падыходзячы да чыгуначнага пераезду, з левага боку вуліцы Леніна, маю ўвагу прыцягнулі высокія без акон мураваныя сцены. Нягледзячы на тое, што былі пабелены, ад іх веяла нейкай суровай таямнічасцю. І толькі пад паўцыркульнай аркай, над якой зверху гарэла электрычная лямпачка, былі відны вялікія масіўныя дубовыя дзверы.

Над сцяной у паўночна-заходнім вугле ўзвышалася вартавая вышка,а на ёй - вартавы. І трэба ж, ярка святло, ці то ад электрычнага ліхтара, ці то ад месяца, адбілося на штыку вартавога. Ну, як у песні, што некалі спявалі ў нас у вёсцы, на словы вядомага рускага паэта Фёдара Глінкі: "И на штыке у часового горит полночная луна…" Гэтая змрочная грамадзіна аказалася турмой і зрабіла на мяне гнятлівае ўражанне. І тут няма нічога дзіўнага. Я рос вельмі ўражлівым хлопчыкам. І толькі чуў з расказаў старэйшых, што такія месцы ўтрымання людзей існуюць. У той час я не мог нават уявіць сабе, што праз амаль дзесяць гадоў менавіта тут прыдзецца пачынаць сваю працоўную дзейнасць. Відаць, лёсу было так трэба.

Але мушу вярнуцца і ўзгадаць яшчэ раз добрым словам свайго былога настаўніка Віктара Пятровіча Бялашэўскага. У той час гэта быў не жанаты малады чалавек гадоў 25-ці з інтэлігентнай сям'і. Невысокага росту, але даволі мажнога, натрэніраванага целаскладу. Адукаваны. Закончыў да 1939 года Віленскі універсітэт Імя Стэфана Баторыя (так ён тады называўся) па спецыяльнасці юрыста. Намерваўся быць адвакатам. Працаваць настаўнікам прымусіў яго лёс. У савецкай юрыспрудэнцыі ён, натуральна, працаваць не мог. Таму як толькі адкрыліся ў Лідзе кароткатэрміновыя курсы настаўнікаў, ён без ваганняў паступіў на іх і паспяхова закончыў. Атрымаў права выкладаць рускую мову і літаратуру ў няпоўнай сярэняй школе. Тады так называліся школы з семігадовым тэрмінам навучання. Размаўляў на рускай мове з акцэнтам, аднак пісьмова быў граматны.

Адной са шкодных прывычак у яго было курэнне, за што бацькі яго пастаянна дакаралі. Курыў самасад, таму што у той час лепшага нічога не было. Асабліва ў сельскай мясцовасці.

Чамусьці я яму прыглянуўся, і ён кожны дзень пасля паўдня запрашаў мяне да сябе на кватэру. З ім я рыхтаваў урокі. Іншы раз правяраў пісьмовыя работы сваіх калег па класе. Ён давяраў мне гэтую работу па дзвюх прычынах; таму што я сам пісаў пісьменна і таму, што почыркі нашы былі вельмі падобныя. Акрамя таго,ён вучыў мяне нямецкай і польскай мовам. Ведаў нямецкай мовы мне аказалася дастаткова пад час вучобы ва універсітэце. Польскай мовай даволі свабодна валодаю да сёння - пішу, чытаю, размаўляю.

Чамусьці ён хацеў выехаць у Літву, у Вільню. Таму, праз некаторы час мы пачалі разам займацца літоўскай мовай. Настаўнік раздабыў недзе падручнікі, і мы рупліва стараліся засвоіць гэтую не зусім лёгкую для нас мову. З літоўскай мовай у мяне нешта не выйшла. Тое ж самае і ў яго. Акрамя асобных фраз, слоў нічога больш засвоіць не ўдалося. Каб лепш засвоіць урочны матэрыял, мы размаўлялі паміж сабой два дні на рускай, два дні на польскай, два дні на нямецкай мовах. Нядзеля ў гэтым сэнсе была вольнай.

Так працягвалася ўвесь 1940-41 навучальны год. Вайна нарушыла нашы адносіны. У час акупацыі прыязджаў да нас у вёску толькі адзін раз, і то толькі ў ліпені 1941-га. Мы з ім збегалі на Нёман, пакупаліся - быў вельмі цёплы летні дзянёк. Толькі гэтае задавальненне перарваў нам невялікі дождж, але з маланкаю.

Вярнуўся ў вёску настаўнічаць толькі ў жніўні І944 года, пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Тады ён быў ужо жанаты, і быў у іх ужо першынец, сын. Жонку яго звалі Ванда. Таксама настаўніца, толькі не ведаю па якой спецыяльнасці.

Пражылі яны ў Зблянах нядоўга. Хутка разам з усімі палякамі і раднёй: бацькам, маці, братам і сястрой выехалі ў Польшчу. І, пэўна, правільна зрабілі. Інакш, як я мяркую, з-за свайго патрыятычнага настрою не мінаваць бы яму "краёў халодных".

У апошнія гады жыў у горадзе Гіжыцка Вармінска Мазурскага ваяводства. Працаваў суддзёй. Апошні раз мне пашчасцілася сустрэцца з ім на 2-м з'ездзе палякаў, што некалі жылі ў Лідзе. Праз некаторы час я атрымаў ліст ад яго жонкі, якая паведаміла, што Віктар Пятровіч памёр ад інфаркту.

**"ФРЭЙ НА КАТУШКАХ"**

Шлях з педвучэльні на Міцкевіча ў змрочныя сцены "Каменкі" на Ленінскай аказаўся на подзіў недалёкім і немудрагелістым.

У 1944 годзе пасля вызвалення Ліды ад акупантаў, па настойлівай рэкамендацыі ўсё таго ж настаўніка Віктара Пятровіча я прадоўжыў сваю вучобу. Зрабіць гэта спачатку было зусім няпроста. Было ўжо мне ў той час 17 гадоў, а трэба было ісці вучыцца ў 6-ты клас! Два гады, згубленыя ў гады нямецкай акупацыі зрабілі мяне "салідным пераросткам" з дастаткова сфармаваўшымся целаскладам і прывабным вонкавым выглядам. Апошняе, на жаль, здарава перашкаджала. Але такіх, як я, на шчасце аказалася нямала.

У Зблянах была толькі пачатковая школа. У суседніх вёсках - таксама. Трэба было ехаць далей. Я выбраў Ліду.

Паступленне ў школу аказалася зусім выпадковым, у выніку збегу акалічнасцяў. У Лідзе прыходзілася быць у час акупацыі некалькі разоў, так што з горадам быў крыху знаёмы. Да таго ж і горад у той час быў невялікі. Практычна сёння гэта толькі яго цэнтр. А дзе знаходзіліся школа, не меў ніякага ўяўлення. У пошуках блытаўся па гарадскіх вуліцах сярод развалінаў і пажарышчаў, як той дзядзька некалі ў Вільні. І дапамог мне ў гэтым "яго вялікасць выпадак". Ідучы па сённяшняй вуліцы Кірава, убачыў на белым франтоне будынка фанерную шыльду з надпісам: "Русская средняя школа № 1". Вось тое, што мне і трэба. А быў ужо пасляабедзенны час. Зайшоў у будынак і адразу сутыкнуўся з дырэктарам школы. Дырэктар запрасіў мяне ў кабінет, распытаў пра ўсё, запісаў мае прозвішча, імя і імя па-бацьку, у які клас я хачу паступіць, і сказаў, каб 4 кастрычніка з'явіўся на заняткі. З тым я і пайшоў. На самай справе, да гэтага дня, як аказалася, ніхто пра мяне нічога не ведаў, у ніякіх спісах мяне не было.

Але гэта быў толькі адзін бок праблемы. Трэба было пераадолець яшчэ адну перашкоду - уладкавацца на кватэру.

Запомнілася яшчэ адна цікавая абставіна, якая досыць яскрава характэрызуе мой тагачасны стан. У той час прыехаць у Ліду з далёкай вёскі было не зусім проста. Ніякага арганізаванага транспарту не было. Разлічваць можна было толькі на выпадковую спадарожніну. А гэта, як правіла, былі вайсковыя машыны. Балазе, за бутэльку самагонкі можна было лёгка з кіроўцам дагаварыцца. Выручала чыгунка. Але для гэтага трэба было спачатку прайсці кіламетраў 15, а затым цягніком праехаць 35-46 кіламвтраў. Аднак гэты транспарт быў больш надзейны. Цягнік хадзіў згодна з раскладам.

Раннім жнівенскім ранкам я адправіўся у падарожжа. Ні дадаць ні адняць - сучасны беларускі Ламаносаў: "ноги босы, грязно тело и едва прикрыта грудь...", без грошай у кішэні праз пару гадзін прыйшоў у вёску Сялец.

Ішоў я не як Ламаносаў з Халмагораў у Маскву, а з глыбіннай вёсачкі над Нёманам насустрач сваёй будучыні. Даволі у той час цмянай. У Сяльцы жыла мая цётка, сястра маёй маці, Маруся. Гасцінна сустрэла мяне, накарміла. Спыталася, куды еду, па што, і ці ёсць у мяне грошы. Усё расказаў і кажу: грошай няма. Яна выняла чырвоную асігнацыю ў тры чырвонцы і дала мне ў рукі. З ёю я і паехаў у горад. Шчыра кажучы, у той час я і не ведаў, што мне э гэтамі грашыма рабіць. Забягу наперад - грошы я прывёз назад.

Аб раскладзе цягнікоў я не меў ніякага ўяўлення. Таму папрасіўся ў машыніста паравоза, што стаяў пад парамі, даехаць да Ліды на тэндары. Той мне гэта дазволіў. На каго я быў падобны, калі прыехаў у Ліду, можна толькі здагадвацца: дым і пара паравоза зрабілі з мяне хіба паўнегра. Але нічога, такіх у той час было шмат.

Перш, чым ісці ў горад, прыйшлося на станцыі добра памыцца. Зрабіць гэта цяжкасці не ўяўляла - побач была так званая кубавая, дзе была і халодная, і цёплая вада. Чыгуначная станцыя літаральна была забіта вайсковымі цягнікамі. Навокал адны вайскоўцы. Каля кубавой з кацялкамі і вёдрамі стаялі ў чарзе салдаты. Згарэўшы вакзал глядзеў на ўсё вакол сваімі пустымі чорнымі вачніцамі. Яшчэ тлелі пажарышчы на месцы іншых былых забудоў. У многіх месцах струменіліся сінія струменьчыкі дыму. Навокал пахла гарэлым. Тое ж самае прыйшлося пабачыць і ў самім горадзе. Пры адступленні немцы спалілі вакзал, разбурылі каляі чыгункі, падсобныя памяшканні. Дакончыла разбурэнне савецкая авіяцыя ў ноч з 8 на 9 ліпеня 1944 года, перад тым.як Чырвоная Армія ўвайшла ў Ліду. У гэтай аперацыі прымаў удзел полк далёкай бамбардзіравальнай авіяцыі пад камандаваннем Героя Савецкага Саюза Валянціны Сцяпанаўны Грызадубавай.

Які б ні доўгі быў летні дзень, сонца пахілілася да захаду. Пара было думаць аб вяртанні. Торапка накіраваўся ў бок станцні. Не ведаў ні раскладу руху цягнікоў, ні ў якім кірунку трэба ехаць. Але навошта чалавеку язык і мова?

Нарэшце цягнік падышоў да перона. Перонам гэтае збудаванне можна было назваць толькі ўмоўна. Бо пасля яго разбурэння, а затым аднаўлення да перона ён не быў падобны. Састаў складалі некалькі таварных вагонаў-пульманаў. У народзе яго празвалі "цялятнік". Вагоны былі абсталяваны доўгімі драўлянымі (з тоўстых дошак, дыляў) лаўкамі. Дзверы расчынены насцеж, і шмат хто з пасажыраў усеўся ў праёме дзвярэй, спусціўшы ўніз ногі. Тыя,.хто баяўся скразнякоў, схаваліся ў кутах.

Уладкаваўшыся ў "цялятніку", я шчаслівa

вярнуўся да сваёй цёткі. Яна мяне зноў накарміла, што ў той час было немалаважна, распытала пра "падарожжа". Я вярнуў ёй нястрачаныя ў горадзе тры чырвонцы, пераначаваў, а раніцою наступнага дня пешшу зноў пайшоў дадому. Аказалася, я ў сваёй вёсцы стаў "першапраходцам у навуку". За маім прыкладам пайшлі мае аднакласнікі Каця Каштан і Віця Яновіч. Але іх шлях адрозніваўся ад майго і не быў такім цярністым.

Пачаліся нясцерпныя дні чакання ад'езду на вучобу. Здавалася час прыпыніў свой нястомны бег. А ён быў крайне неспакойны. Па начах шасталі бандыты. Гдядзіш, недзе застрэлілі цэлую сям'ю без разбору: малых, старых, хворых ці, нават, калек. Днём на змену ім прыходзілі "ястрабкі", вылоўлівалі маладых хлопцаў і мужчын і адпраўлялі на фронт. У адну з такіх аблаў заграблі і мяне і пагналі разам з іншымі аднавяскоўцамі ў раённы цэнтр Жалудок. Прыйшлося двое сутак прасядзець пад вартай у замкнутым свірне "Марчуковым". Некалі ён быў уласнасцю гаспадара з такім прозвішчам. Некаторых з маіх сяброў, хто быў крыху старэйшы, адправілі на фронт. Мяне адпусцілі. Дамоў бег (21 кіламетр) без аглядкі. Прабягаючы каля аэрадрома, бачыў: схаваўшыся ад сонца пад крыламі магутных бамбардзіроўшчыкаў ляжалі на зялёнай траве лётчыкі, чакаючы загаду на вылет. На мяне яны не звярталі ніякай увагі, а я бег, толькі пяткі зіхацелі.

У 1944-1945 навучальным годзе заняткі ў школах пачыналіся не 1 верасня, а 1 кастрычніка. І гэта зразумела, за такі кароткі тэрмін - ад пачатку ліпеня да верасня - час вызвалення горада ад нямецка-фашысцкай акупацыі - падрыхтаваць школы да заняткаў было немагчыма. Многія з іх у гады акупацыі выкарыстоўваліся акупантамі далёка не па прызначэнні. Напрыклад, у СШ № 1 знаходзіўся вайсковы шпіталь. Увесь двор пасля яго эвакуацыі быў засмечаны бінтамі з запёкшайся крывёю, шынамі з гіпсам і іншымі медыцынскімі прыладамі. У той частцы двара, што з боку сённяшняга педкаледжа, былі бомбасховішчы. У былой даваеннай педнавучальні месціўся гебітскамісарыят, у школе № 10 - гестапа. І толькі школа № 3 выконвала свае непасрэдныя абавязкі.

На заняткі ў школу на фурманцы мяне прывёз бацька. І было гэта 1 кастрычніка 1944 .года. З гэтага дня пачаліся, мае ўніверсітэты,. А горад Ліда стаў пастаянным месцам жыхарства, стаў родным.

Пасяліліся мы з маім сябрам Віцем Яновічам і ягоным, стрыечным братам Федзям Казлом на прыватнай кватэры на Маргах каля самага стадыёна. Пасля гэтую вуліцу назвалі імем Пакрышкіна, затым - Суворава. Гаспадар па нацыянальнасці паляк з лрозвішчам Воўк-Карачэўскі не вызначаўся дружалюбнасцю ў адносінах. да нас "кацапаў". Таму жылі мы ў яго нядоўга і пераехалі да іншых гаспадароў. Праўда, непадалёку па гэтай жа вуліцы.

Вельмі падобна, што і першы, і другі ў час акупацыі партызанілі ў Арміі Краёвай. Таму, як толькі быў дадзены дазвол на выезд у Польшчу, хуценька, не марудзячы, накіраваліся туды. Далейшы іх лёс нам застаўся невядомы.

Разам з імі паехала адна руская дзяўчынка са Смаленшчыны, што працавала ў іх нянькай, няньчыла іх дваіх хлапчукоў. Бацькі дзяўчынкі далі на гэта дазвол. На жаль, імя дзяўчынкі не памятаю. Вельмі ж прыго-жанькай і прыхільнай яна была. Так вывучыла польскую мову, што сённяшнія нашы "палякі" ні гроша не варты супраць яе.

Так праляцелі 4 гады. Паўстала пытанне: як быць далей пасля заканчэння сярэдняй школы? Паступленне і вучоба ў ВНУ з-за матэрыяльных цяжкасцяў праблематычна. Працаваць? Дзе і кім? Больш сур'ёзнага пытання не было. У гэты час з-за недахопу настаўнікаў сельскіх школ, у Лідскай педнавучальні была адкрыта "спецгрупа" па падрыхтоўцы настаўнікаў пачатковых класаў з гадзічным тэрмінам навучання. Туды прымалі слухачоў, якія мелі сярэднюю і дзевяцікласную адукацыю. Некаторыя мае аднакласнікі пайшлі туды і пачалі настойліва клікаць мяне. І я пайшоў. Шмат што вабіла мяне туды: стыпендыя, інтэрнат, а галоўнае - праз год я станавіўся самастойным чалавекам. Канчалася нястача, беднасць, галеча.

Вучоба ішла лёгка, без напругі. Скончыўся год, мелі быць выпускныя дзяржаўныя экзамены. Перад тым адбылося "размяркаванне". Была створана адмысловая "аўтарытэтная" камісія на чале з дырэктарам навучальні Якімовічам Уладзімірам Канстанцінавічам. Акрамя яго ў склад камісіі ўваходзілі прадстаўнікі ГК КП/б/Б і ГК ЛКСМБ. Гаркам камсамола прадстаўляла загадчыца аддзела на рабоце сярод моладзі Галіна Аляксандраўна Карповіч, будучая маці вядомага ў Беларусі вучонага, доктара медыцынскіх навук, рэктара Гомельскага мединстытута Юрыя Іванавіча Бандажэўскага. Некаторы час з яго бацькамі Галінай Аляксандраўнай і бацькам Іванам Сцяпанавічам Бандажэўскім прыйшлося працаваць.

Менавіта Галіна Аляксандраўна ўнесла на камісіі прапанову паслаць мяне працаваць у Лідскую працоў-



***Бацька, маці, сястра, аўтар і пляменніца Валя. 1949 г.***



***Лідская калонія. 1950 г. Здымак калоніі публікуецца ўпершыню.***

ную дзіцячую калонію МУС. Адмаўляцца ў той час у такіх выпадках было не прынята. Усе ішлі туды, куды партыя і ўрад пасылалі. Паветра яшчэ было густа насычана патрыятызмам, імкненнем і жаданнем гераічных учынкаў. Я не стаў у гэтым выпадку выключэннем.

15 жніўня трэба было прыступіць "да службы" ў тых самых змрочных сцянах, што калісьці паказаліся і страшнымі і таямнічымі. Канчалася "вольніца" і пачынаўся новы радок у біяграфіі - працоўнае жыццё, з аднаго боку я чакаў гэтай хвіліны, з другога - баяўся.

Не дачакаўшыся 15-га, а ўжо 1-га жніўня 1949 года, пайшоў на будучае месца працы. І як ні дзіўна, мяне адразу прынялі.

Ішоў на працу і думаў, а што там, за сценамі? Вось і прахадная. Са скрыпам адчыняюцца масіўныя дубовыя дзверы. За іх парогам - зона. Там - малаўзроставыя злачынцы. Мяне сустрэў строгім позіркам надзіральнік. Пераступіўшы парог, я аказаўся адразу ў атачэнні сваіх будучых выхаванцаў. Некаторыя з іх па росту мала чым адрозніваліся ад мяне, іх будучага выхавальніка, а па жыццёваму досведу далёка пераўзыходзілі.

Першая сустрэча аказалася незвычайнай. Першае, што пачуў на свой адрас, што было сказана ў мой бок: "А это что за фрей на катушках?" А калі я адчыніў партсігар, каб пачаставаць надзіральніка папяросай, праз імгненне ён быў пусты: без пытання і дазволу расхапілі проста з рук. Ну, думаю сабе, куды трапіў я… Але што рабіць? Ехаць у вёску будаваць школу з маім досведам?

Калі да гэтага дадаць яшчэ і апісанне вонкавага выгляду насельнікаў гэтай установы, пэўна, стане зразумела, што я адчуваў у той час. Усё навокал насцярожвала.

Нарэшце, сустрэча з намеснікам начальніка калоніі па вучэбна-выхаваўчай рабоце (частцы) Кірылам Парфёнавічам Галубцовым. Кароткая гутарка, абнен "вярыцельнымі граматамі" - накіраванне на працу, пасля чаго выйшаў загад аб прызначэнні на пасаду і працу. Праз пэўны час мянв выбралі сакратаром камсамольскай арганіцыі выхаванцаў - была такая. У гэтай якасці я і працаваў.

На жаль, пасля студэнцкай лаўкі гэта аказалася мне не па сілах. Гэтаму не адпавядалі ні мае маральна-псіхалагічныя дадзеныя, ні жыццёвы досвед. У калоніі былі сабраны з усяго былога Савецкага Саюза непаўнагадовыя злачынцы. Пераважна злодзеі-кішэннікі, або - як самі яны сябе называлі - „шчыпачы". Былі і іншыя. Выхаваўчы працэс у калоніі амаль поўнасцю абапіраўся на прымус. Выхаванцы тут вучыліся і працавалі: паўдня ў школе, паўдня - у майстэрнях. Вольнага часу мелі вельмі мала.

Калі казаць шчыра, усе яны былі ахвярамі вайны. У каго бацькі загінулі на вайне, у каго прапалі без вестак, а каго проста кінулі. Па ўзросту яны былі не старэйшыя за 16 гадоў.

Узгадваюцца два ва-сьмігадовыя хлопчыкі, два Віці - Осіпаў і Гарошка. Першы быў вельмі вясёлы і ласкавы, другі - сумны, трымаўся больш асабняком, за што падвяргаўся з боку сваіх сяброў розным кпінам. Стараўся быць бліжэй да свайго выхавальніка.

Віця Осіпаў меў цудоўны дзіцячы голас, за што яго выхаванцы і дарослыя называлі "наш Каруза". Памятаю, як аднойчы мы ў час выбараў паехалі на выбарчы ўчастак даваць канцэрт, і наш Віця праспяваў песню "Арлёнак". Колькі слёз пралілі пасля гэтага чуллівыя жанчыны. Увогуле, здольных да ўдзелу ў мастацкай самадзейнасці хлопцаў было тут шмат: спевакі, танцоры, акрабаты, дэкламатары. І ў сваёй справе былі мастакамі.

Быў у калоніі выхаванец Ваня Сіманаў, пра яго ў кнізе "Ніколі не забудзем" было змешчана апавяданне "Маці і сын". У час вайны ён з маці быў сувязным з партызанскім атрадам. А калі немцы аб гэтым даведаліся, маці павесілі, а яго кінулі ў пустую студню. Жыхары вёскі выратавалі хлапчука, але пасля гэтага ён пачаў моцна заікацца. Ён не пакінуў свой крымінальны занятак і пасля выхаду з калоніі. Аднойчы прыйшлося яго сустрэць ужо дарослым, і ён мне ў гэтым прызнаўся. Толькі папрасіў, каб я пра гэта нікому не расказваў. Пасля я яго больш не бачыў.

Начальнікам калоніі быў вельмі мудры чалавек, лейтэнант Міхаіл Сяргеевіч Жураўлёў. Для выхаванцаў гэта быў сапраўдны бацька. Такім ён быў і для такіх, як я.

Нельга абыйсці ўвагай кіраўніка мастацкай сама-

дзейнасці бaяніста Генадзя Багдановіча. Гэта быў непараўнальны ні з кім арганізатар, калі ён з'яўляўся ў зоне, вакол яго заўсёды збіраліся выхаванцы, бы тая чарада вераб'ёў, і кожны хацеў нешта яму расказаць. Генадзь Міхайлавіч доўгі час працаваў у многіх школах горада, і усюды яго цанілі і вучні, і настаўнікі. На жаль няма ўжо гэтага цудоўнага чалавека. Памёр дзесьці ў Украіне.

**У ВЁСКУ СЕЯЦЬ РАЗУМНАЕ, ДОБРАЕ, ВЕЧНАЕ**

У траўні я расстаўся з калоніяй. Расставанне было без вялікага смутку, хаця там заставаліся некалькі добрых прыяцеляў. Даверлівыя сяброўскія адносіны склаліся ў мяне з выхавальнікам групы Мікалаем Пятровічам Ляднёвым. Дэмабілізаваны марак, які ўсю вайну праваяваў у асадным Ленінградзе, удзельнік параду Перамогі на Чырвонай Плошчы ў Маскве у 1945 годзе. Адкрыты і добразычлівы, ён выклікаў сімпатыі, як у выхаванцаў, так і ў супрацоўнікаў. Весяльчак і гумарыст. Выхаванцы яго клікалі "палундра", і ён прымаў гэта проста, без эмоцый. Нягледзячы, што ён не меў адмысловай адукацыі, на работу яго прынялі безагаворачна. Такія людзі ўмюды патрэбны.

Прапрацаваўшы некалькі гадоў, ён быў накіраваны на вучобу ў вышэйшую школу МУС СССР у Ташкенце. Пасля калоніі я сустрэўся з ім у час канікул, калі ён прыехаў да бацькоў, якія жылі на станцыі Скрыбава.

Пасля звальнення з калоніі я паехаў да сваіх бацькоў у вёску Збляны. Яны і мае калегі раілі мне ўладкавацца на работу настаўнікам пачатковых класаў у Жалудоцкім раёне, бліжэй да дому. Звярнууся да загадчыка Жалудокскага РайАНА Котава. Той не адмовіў, але прапанаваў ісці працаваць у школу, якую трэба было яшчэ пабудаваць. Прычым школа гэта знаходзілася недзе ў глушы. Я, безумоўна, адмовіўся і паехаў у Ліду.

Знаёмай ужо дарогай Зблянь-станцыя Нёман-Ліда накіраваўся ў Ліду, спадзяючыся знайсці больш спрыяльнўю работу.

Там, знайшоўшы Раённы аддзел народнай асветы на вуліцы Чапаева, звярнуўся да яго загадчыка Паўла Кірэевіча Дробінава з просьбай прызначыць мяне настаўнікам пачатковых класаў у якой-небудзь школе раёна. І як жа я здзівіўбя, калі Павел Кірэевіч сказаў мне, што мяне ён даўно ведае і нават чакае. Аказалася ўсе вельмі проста. Яго жонка Валянціна (імя па-бацьку запамятаў) працавала настаўніцай нямецкай мовы ў школе, дзе я да гэтага вучыўся. Іяна яму пра мяне, відаць, шмат што расказала. Што, не ведаю. Але мне гэта вельмі дапамагло. Прыняў мяне на работу без лішніх слоў. Сказаў: "Пойдзеш працаваць у школу, дзе у свой час працаваў я". Гэта была Споркаўская сямігадовая (сёння базавая) школа за 5-6 кіламетрах ад горада. Лепшага месца шукаць не трэба было. Сваім загадам ён прызначыў мяне настаўнікам матэматыкі. Дзякуючы такому прызначэнню на пачаткў маёй працоўнай дзейнасці, настаўнікам пачатковай школы я так ніколі і не працаваў. Спачатку выкладаў матэматыку і вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце Гарадзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, а пасля перакваліфікаваўся, закончыў БДУ па спецыяльнасці настаўніка фізічнай геаграфіі і выкладаў гэты прадмет у сярэдніх школах горада. Сёння думаю: прыхільны быў да мяне лёс.

Як кажуць у народзе, 10 кіламетраў для шалёнага сабакі не адлегласць. Я мог пасля работы схадзіць у горад, сустрэцца з былымі сваімі сябрамі, знаёмымі, наведаць горад, да якога за час вучобы, а затым і работы паспеў прывыкнуць і прывязацца. Гэта мая псіхалагічная асаблівасць: я вельмі хутка прывыкаю да месца, дзе жыву ці працую, да людзей, што мяне атачаюць. І вельмі цяжка расстаюся.

Сустракаліся з сябрамі-прыяцелямі, як звычайна, у гарадскім парку на танцах. З гумарам узгадваю студэнцкія (у педнавучальні нас называлі студэнтамі) гады, калі таксама туды бегалі амаль кожны вечар. Дзяўчаты нярaз у шпарках танцах ламалі абцасы. Мая задача была тут жа "адрамантаваць". Для гэтага ў кішэні ў мяне заўсёды былі цвікі, а пад падлогай танцпляцоўкі - зграбны камень. Пры дапамозе вось такога першабытнага інструмента прыходзілася дапамагаць сваім сяброўкам.

Не ведаю чаму, але сустракацца прыходзілася больш з "сатаварышы" жаночага полу. Хлопцаў у горадзе засталося мала: хто пайшоў служыць у армію, хто паступіў у вышэйшыя навучальныя ўстановы ў іншых гарадах, а хто, нават, ажаніўся. Тыя, хто застаўся ў горадзе і ўладкаваўся на працу на заводах ці фабрыках, чамусьці не прыходзілі, або прыходзілі вельмі рэдка.

Што ж, пуцёўка ў жыццё ў кішэні. Застаецца няшмат: знайсці школу. Лідскі раён у той час я амаль не ведаў, акрамя вёсак, што месціліся ўздоўж дарогі ад Зблянаў да Ліды. Але ж гэта быў зусім супрацьлеглы кірунак.

Распытаўшы сваіх знаёмых, сяброў па школе і педнавучальні, хутка зразумеў, куды трэба ісці. Асабліва карысную параду далі мне мае новыя сяброўкі, работніцы райвыканкаму, Ядзя Каспяровіч, якая жыла у Малэйкаўшчыне, і загадчыца райсабесу Ляля Цыбрук. Ядзя сама жыла ў вёсцы ў тым кірунку і кожны дзень хадзіла адтуль на працу.

Пра аўтобусы ці іншыя сродкі перамяшчэння ў той час не магло быць і мовы, таму трэба было ісці пешшу. Балазе, адлегласць дазваляла зрабіць гэта прагульваючыся.

Варта, пэўна, сказаць тут некалькі добрых слоў на адрас загадчыка РайАНА Паўла Кірэевіча, які вельмі дапамог мне вырашыць мой далейшы лёс. Гэта быў сімпатычны, мужны, абаяльны, яшчэ не стары чалавек. Франтавік. Яго грудзі ўпрыгожвалі шматлікія баявыя ўзнагароды: ордэны Чывонага сцяга, Айчыннай вайны, Чырвонай зоркі і шмат медалёў. Але ўсё гэта не абараніла ад рэпрэсіўнай сталінскай машыны. Яго жонку абвінавацілі ў тым, што, быццам, яна ў час акупацыі працавала з немцамі. Яму прапанавалі з ёю развесціся. Але Павел Кірэевіч адмовіўся гэта зрабіць. І тады "па прычыне адсутнасці належнай адукацыі" бюро райкаму УКП/б/Б выключыла яго з партыі і звольніла з работы загадчыка аддзела. Гэта была толькі зачэпка, бо ў той час нават сам першы сакратар райкаму Георгій Піліпавіч Турык не меў нават сярэдняй адукацыі. Павел Кірэевіч пакінуў Ліду і паехаў у Літву.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Пошукі і знаходкі***

# Невядомыя здымкі Валянціна Таўлая

Вялікакракоцкая сельская бібліятэка імя Янкі Купалы Слонімскага раёна адзначыла сваё 80-годдзе. З мінулага года бібліятэка ў вёсцы Вялікая Кракотка набыла новы статус: яна стала называцца бібліятэкай-музеем імя Янкі Купалы.

У свой час з бібліятэкай сябравалі многія беларускія пісьменнікі. Свае кнігі з аўтографамі дасылалі ў бібліятэку Якуб Колас, Максім Танк, Пятрусь Броўка, Янка Брыль, Іван Шамякін і іншыя пісьменнікі. У суседняй вёсцы Рудаўка прайшло дзяцінства Валянціна Таўлая, які таксама шмат дапамагаў бібліятэцы.

Пасля вайны загадчыкам гэтай культурнай установы быў Аляксандр Жыткевіч. Многія пісьменнікі дарылі кнігі з аўтографамі асабіста яму як чалавеку, які любіў сваю справу і шырока прапагандаваў родную літаратуру і культуру. Гэтыя кнігі Аляксандр Іванавіч Жыткевіч пакідаў у бібліятэцы, каб чыталі вяскоўцы. Яны ёсць і сёння. “Дарагому Аляксандру Іванавічу Жыткевічу і вялікаму сябру кнігі з сардэчнай павагай Мікола Арочка”, — аўтограф земляка на кнізе “Крылатае семя”. Піліп Пестрак на сваёй кнізе “Неспадзяванак” зычыў “Жыткевічу Аляксандру — ад шчырага сэрца”.

Вялікую дапамогу ў рабоце бібліятэкі аказала і жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Жывучы ў Менску, яна амаль кожны месяц прысылала ў бібліятэку пісьмы, бандэролі і пасылкі з кнігамі і альбомамі. У 1951 годзе Уладзіслава Францаўна ўпершыню наведала Вялікую Кракотку, а ў 1957 годзе прымала ўдзел у святкаванні 30-годдзя бібліятэкі.

Дзесьці ў 1950-х гадах Аляксандр Жыткевіч аформіў альбом, прысвечаны Валянціну Таўлаю. У ім былі вельмі рэдкія фотаздымкі паэта, фотаздымкі іншых беларускіх пісьменнікаў, а таксама рукапісы вершаў Валянціна Таўлая. Гэты альбом знаходзіўся ў Вялікакракоцкай бібліятэцы і на яго мала хто звяртаў асаблівую ўвагу. А нядаўна альбом вырашылі перадаць у музей беларускай кнігі, які дзейнічае пры Слонімскай раённай цэнтральнай бібліятэцы імя Якуба Коласа. Альбом вырашылі аднавіць, дапоўніць, удакладніць подпісы пад здымкамі.

Нядаўна метадыст бібліятэкі Лідзія Будзько паказала мне гэты альбом і я быў здзіўлены: у ім налічыў 39 рэдкіх аматарскіх фотаздымкаў Валянціна Таўлая, многія з іх нідзе не друкаваліся. Побач са здымкамі ў альбоме захоўваліся рукапісы “Лукішкіх вершаў”, якія Таўлай напісаў у турме ў 1935 годзе, а таксама рукапісы іншых паэтычных твораў і яго аўтабіяграфіі. Гэтыя фотаздымкі і рукапісы некалі Аляксандру Жыткевічу ў бібліятэку перадала жонка Валянціна Таўлая – Лідзія Сяргееўна.

Прапаную чытачам некалькіх рэдкіх, раней невядомых здымкаў з гэтага альбома.

***Сяргей Чыгрын,*** *г. Слонім.*



**Павел Дзям’янавіч Таўлай – бацька паэта.**



**Валянцін Таўлай з братам Сашам, 1920 г.(?).**




**Эскіз вокладкі першага зборніка Валянціна Таўлая, які мéўся выйсці пры жыцці паэта. Выйшаў пасля смерці пад загалоўкам "Выбранае".**



**Валянцін Таўлай у час працы ў газеце "Звязда", 1932 г.**



**Пiлiп Пестрак, Алеся Аляксандровiч – супрацоўнiца музея Янкi Купалы, Валянцiн Таўлай, Уладзiслава Францаўна Луцэвiч – жонка Янкi Купалы, Янка Брыль, Лiдзiя Таўлай – жонка Валянцiна Таўлая, Алесь Бачыла. Фота зроблена ў час адкрыцця фiлiяла музея Янкi Купалы ў Вязынцы, 1945 г.**



**Валянцін Таўлай з жонкаю Лідзіяй Сяргееўнай, 1945 г.**



**У першым радзе: Валянцін Таўлай, Алеся Александровіч, Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, Пятро Глебка з жыхарамі Ліды ў дзень прысваення Лідскай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы, 17 верасня 1946 г.**

Радзецкага Івана вывезлі немцы за сувязь з партызанамі. Ён быў самы старэйшы ў сям'і. Раман і Вячаслаў зверскі забітыя белапалякамі. Кастусь пайшоў на фронт і загінуў пад Берлінам.

Пляменнікі Радзецкага Івана, дзеці сястры, якая выйшла замуж за Антона Буяка, родам з в. Ганцавічы:

Буяк Іван Антонавіч,

Буяк Кастусь Антонавіч,

Буяк Вячаслаў Антонавіч,

Буяк Раман Антонавіч.

Антон Буяк і яго жонка жылі ў г. Сінельнікава Днепрапятроўскай вобл. Палявая, 83.

Люба Касяк была здраджна Рыбаком Міхасём - зараз нібы жыве ў Англіі разам з сястрой Люцыяй. Касякі былі застрэленыя немцамі і спаленыя ў сваёй адрыне. Немцы Любу ўжо даўно шукалі. Схапілі рана раніцай і патрабавалі, каб яна выдала іншых. Яна не выдала. Загінуў разам з імі і іх бацька.

## Група Феакцістава

Увесну 1942 г. сяржант Іван Феакцістаў па мянушцы "Шарашка", які працаваў у Аляксея Буйніцкага ў в. Пятры, арганізаваў сваю групу. У групу ўвайшлі: Уладзімір Бурнос, Уладзімір Елкін, Васіль Елпашаў, Хведар Чараўко. Да пачатку жніўня група Феакцістава забіла 5 фашыстаў, вызваліла двух настаўніц, спаліла драўляны мост праз Дзітву, падарвала цыстэрну з палівам, перапілавала тэлеграфныя слупы.

*"У пачатку жніўня 1942 г мы з Панічам Андрэем з наступленнем цемры ішлі да вёскі Сяглы. На дарозе прычулася групавая гутарка, мы пачалі прыслухвацца да надыходзячай гутаркі. Калі група падышла бліжэй, мы пераканаліся, што гэта рускія. Рускай прамовы мы даўно не чулі, ды яшчэ з мацярком. Але хто яны гэтыя людзі ? - партызаны або казакі, што знаходзяцца на службе ў немцаў? Што рабіць: ісці насустрач або зайсці ў схованку? Вырашылі ісці насустрач - што будзе, тое і будзе. Калі падышлі зусім блізка было відаць, узброеныя людзі, апранутыя не па форме, мабыць партызаны. Калі мы праціснуліся паміж імі шчыльным радам і пачалі разыходзіцца, нам стала так шкада і неяк крыўдна, хоць хто б з іх спытаўнас, куды ідзём і хто такія. Тады я спыніўся і ўслед крыкнуў ім на польскай мове: "Доконт ідзеце хлопакі?" Польскай мовай да таго часу я ўжо добра валодаў. Пачуўшы недарэчнае пытанне, яны, як адзін спыніліся і крычаць: "Стой!". Мы спыніліся, яны падыходзяць.*

*- Куды ідзяце?*

*- У Сяглы.*

*- Чаго?*

*- Убіраць ураджай. Хтосьці з групы загадаў: "Абшукаць іх!". Да мяне падышлі двое і пачалі абшукваць, высыпалі з мяшочка прадукты, запалкі, бялізну, памацалі па кішэнях і супакоіліся. Андрэя абшуквалі больш дбайна, раптам знаходзяць у яго абрэз. Як толькі знайшлі абрэз, закрычалі: "Шпіёны! Шпіёны! Рукі ўверх!".*

*Тады я ім гавару: "Няўжо шпіёны ходзяць з такой зброяй ?*

*- А хто вы ?*

*- Мы рускія. Чырвонаармейцы.*

*- Дзе служылі ?*

*- У 213 стралковым палку 56 дывізіі.*

*Падыходзіць да мяне адзін і пытае:*

*- Хто камандзір палка ?*

*- Маёр Якаўлеў.*

*- А камісар ?*

*- Батальённы камісар Чарных.*

*- Хто начальнік штаба ?*

*- Капітан Царанок.*

*- Праўда, хлопцы з нашага палка. - Гэта быў Васіль Ялпашаў. Затым рушыла ўслед новая серыя пытанняў:*

*- Адкуль родам?*

*-З Тамбова.*

*- Так, якія гарады атачаюць Тамбоў ?*

*- Калі нашай вобласці, то Мічурынск, Кірсанаў, Маршанск, Росказаў і інш, а абласныя - Варонеж, Ліпецк, Арол, Разань.*

*- Праўда. Праўдзіва рускі чалавек.*

*- Куды ідзеце з граблямі?*

*- Хочам яшчэ шчасця паспрабаваць, перайсці лінію фронту*

*- Не пройдзеце, дарма спрабуеце, ваяваць і тут можна. Ну, тамбоўскі воўк кідай граблі, пайшлі з намі, шкада, што дзве вінтоўкі сапсавалі на абрэзы.*

*У складзе гэтай групы мы пайшлі ў кірунку в. Плябанцы. У дарозе разбіліся на дзве групы: адна пайшла ў бок аэрадрома, другая, у тым ліку і мы, пайшлі ў в. Плябанцы на збор прадуктаў. Не прайшло і гадзіны, як убаку аэрадрома пакалася зарыва пажару. Гарэў мост. Гэты мост не меў стратэгічнага значэння, але для партызан ён быў небяспечны тым, што большасць усіх нападаў нямецкія аўтамашыны праходзілі праз яго, вось было і вырашана знішчыць мост" (Сляткоў).*

Да пачатку верасня ў гэтай групе было 13 чалавек: лейтэнант Елкін Уладзімір, сяржант Феакцістаў Іван Аляксеевіч 1919 г.н., сяржант Васільеў Мікалай 1918 г.н., Зямскоў Хведар Аляксеевіч 1915 г.н, Глухароў Аляксей Ціханавіч 1920 г.н., Дубаграй Мікалай, Ялпашаў Васіль Фёдаравіч 1921 г.н., Карэлін Данііл, Фралоў Георг, Чырэўка Хведар, чырванафлоцец Пралыгін Іван 1917 г.н., Слятюў Пётр Якаўлевіч, Паніч Андрэй, мясцовы камсамолец Уладзімір Бурнос і 40-гадовы з крымінальным мінулым Цімафей які называў сябе Цімашэнка. Камандаваў групай сяржант Іван Феакцістаў.

Да красавіцкага складу - Феакцістаў, Бурнос, Елкін, Елпашаў, Чырэўка, у пачатку лета далучыліся Васільеў, Дубаграй, Фралоў, "Цімашэнка" і Карэлін. Зямскоў і Глухароў збеглі з цягніка, які ішоў на захад, і з групай Феакцістава сустрэліся ля в. Боркі 10 жніўня. Іванн Пралыгін, па сцвярджэнні Гарбачэўскага і Пянькоўскага - аўтараў кнігі "Атрад зваўся "Балтыец" (Мінск, 1991) далучыўся да групы паміж вёскамі Мелегава і Бурносы 25 жніўня. Трэба лічыць, што Слядкоў і Паніч, сустрэліся з групай не ў пачатку, а ў

канцы жніўня. Большасць гэтых 20 -27гадовых хлопцаў пабывалі ў палоне, і гатовыя былі пераносіць любыя цяжкасці, толькі не палон.

## Ліквідацыя марадзёраў

*“Сярод партызан былі бандыты, рэцыдывісты, марадзёры і алкаголікі, яны сваімі дзеяннямі прычынялі непапраўную шкоду партызанскаму руху, які пачынаўся. Спачатку я не заўважаў, а калі ўрос поўнасцю ў групу, то зразумеў, што ў групе маюцца вялікія рознагалоссі, якія даходзяць да агалення зброі адзін на другога, а тым часам група станавілася ўсё большай і большай. Неяк зайшлі мы, чалавек шэсць у в. Біскупцы. Цімафей, мужчына гадоў сарака, зваў сябе Цімашэнка, паставіў бутлю самагонкі на стол, наліў усім па шклянцы і прапанаваў выпіць, некаторыя паспрабавалі выпіць не ўсю шклянка, тады Цімафей браў шклянку з недапітай самагонкай і выліваў за каўнер таму, хто не дапіў, а хто зусім не жадаў піць, ён ставіў рэвальвер на баявы ўзвод і загадваў піць. Адны яго баяліся, іншыя ненавідзелі, а трэція былі ім задаволеныя. У групе з’явіўся раскол. У Цімафея, на мой погляд, быў чыста анархічны характар. Ён хацеў стварыць безуладдзе, безуладдзе, што вядома з’яўлялася падрывам арганізаванай барацьбы супраць фашысцкіх акупантаў. Цімафей даказваў: “Мы жывём адным днём. Сёння жывыя, заўтра нас няма. Чаго нам саромецца, каго шкадаваць? Пі, бі, еш, усё, што жадаеш, дзень ды наш!”. Бачачы небяспечнае становішча, Хведар Зямскоў стаў даказваць упершую чаргу партызанам, што наша перамога непазбежная, мы павінны весці непрымірымую барацьбу з фашысцкімі акупантамі, мы з’яўляемся адзінымі і законнымі прадстаўнікамі Савецкай улады. Мы павінны наблізіць народ да сабе і разам з ім весці барацьбу супраць фашызму. Калі Зямскоў выкрыў дзеянні Цімафея, асноўная маса пайшла за Феакціставым і Зямсковым.*

*Зямскоў да таго часу меў вышэйшую адукацыю, (скончыў фінансавы інстытут) палітычна пісьменны камуніст. Я ў войска пайшоў чальцом пленума гаркама камсамолу. Мы, камсамольцы, Васільеў, Глухароў, Елкін, Бурнос з’ядналіся і павялі барацьбу супраць нездаровай з’явы. Мы папярэдзілі Цімафея і яго сяброў - паводзіць сябе сярод насельніцтва як належана савецкаму партызану, не рабаваць і не збіваць. У адну з начэй са сваімі спадарожнікамі Цімафей запрог нашага каня, узяў адзіны, што быў у той час у нас, кулямёт і схаваўся.*

*Група пад кіраўніцтвам Цімафея пачала бясчынстваваць сярод насельніцтва, раз’яжджаючы па вёсках Бурносы, Біскупцы, Мелегава, Пятры, Лучкі, Сяглы, Філонаўцы, Боркі, Скаменны Бор, ён нагнаў на народ жах. Называючы сябе Цімашэнка ён абкладаў насельніцтва падаткам, асобы, якія мелі сабак - 50 марак, у начны час хто доўга не адчыняе дзверы 20 марак або страляў у дзверы. Бачачы падрыўныя дзеянні з боку Цімафея намі было праведзена некалькі сходаў сярод насельніцтва. Насельніцтву растлумачылі, што Цімафей зусім не Цімашэнка, ён будзе злоўлены і прыцягнуты да адказнасці. Мала хто з насельніцтва верыў, што Цімашэнку будуць лавіць, бо ён галоўны партызан. Неаднаразова Цімафею прапаноўвалі вярнуцца і спыніць бандытызм, але ён адмаўляўся. Тады агульным сходам вырашылі злавіць групу Цімафея, у выпадку супраціву з іх боку, расстраляць. Насельніцтва прасілі пры з’яўленні Цімафея ў населены пункт паведаміць нам.*

*Мы пачалі рабіць на яго засады, высочваць яго паходы, але не так-то лёгка было яго злавіць. Аднойчы днём на сваёй тачанцы ён прыехаў у в. Пятры. Адзін жыхар адважыўся, прыбег да нас і паведаміў, што Цімафей у Пятрах. Мы хутка разбіліся на некалькі груп і зрабілі засады, і вось на адным з кірункаў на засаду едзе банда. Мы ведалі, што Цімафей жорсткі, ён не пашкадуе, трэба браць яго ўмела. Калі яны ехалі па вёсцы мы атачылі тачанку і закамандавалі “Кідай зброю! Рукі ўверх”. Спадарожнікі яго саскочылі з тачанкі і леглі на дарозе. Сам Цімафей схапіў кулямёт і хацеў адкрыць па нас агонь, але не паспеў - быў тут жа паранены і забіты. Сябры Цімафея здаліся, мы іх судзілі, далі ім зразумець, што іх чакае такая ж доля, як і іх верхаводу. Прызнаўшы сваепамылкі, яны пачалі прасіць аб памілаванні.*

*Такіх як Цімафей было яшчэ шмат, але мы ўжо моцныя і спаяныя, ідэйна і маральна разлажыўшыхся асобаў мы не шкадавалі, мы выносілі ім справядлівы прысуд на вачах насельніцтва, там дзе здзейснена злачынства. Толькі тады, калі мы навялі парадак сярод партызан, насельніцтва нам пачало верыць і пайшло з намі. Немцы засылалі да нас усякае паскуддзе, іх трэба было выяўляць і выкрываць. Барацьба распальвалася. (Сляткоў).*

Кліменціна Жук згадвае пра двух такіх жа марадзёраў, якія рабавалі насельніцтва поблізу в. Дворышча:

*“Салаўёў і Мельнікаў не пайшлі ў партызаны, займаліся ўсякім рабаваннем сяляні давалі цыдулкі на імя Сашы. Гэта моцна пакрыўдзіла Сашу і ўсе яны - партызаны вырашылі іх знайсці, неяк раз яны замовілі ў Дворышчы ў млыне 100 пудоў мукі і таксама на імя Сашы. Нам пра гэта паведамілі, калі яны выслалі людзей па муку з Юльянава, партызаны адабралі гэтую муку. Ні Мельнікаў Мікалай, ні Салаўёў не паявіліся. Гэта вельмі спадабалася быломуабшарніку гэтага маёнтка і млыны Вазняку Ўладзіміру. Ён пераслаў Сашы таемную цыдулку, што ён заўсёды будзе яго добрым сябрам і таксама ўсім партызанам, што ён будзе ведаць аб немцах, заўсёды ім паведаміць. І мяне з дзіцем узяў у палац свой жыць для абароны ад немцаў, сам ён жыў у вежы. Вазняк быў украінцам, але чалавек быў добры і сяброўскі, не хаваўся ён ужо ад партызанаў, а прымаў як добрых гасцей” (Жук К.М.).*

## Бой ля в. Гярвенікі

У канцы жніўня 1942 года *“большпаловы нашай групы перайшло ў Тракельскую гміну, дзе мы сустрэ-*

*ліся з капітанам Чырвонай Арміі Аляксандрам Грыгор'евым, які пасля стаў нашым камандзірам. У пачатку верасня 11 чалавек з гэтай групы каля в. Гярвенікі былі акружаныя немцамі, прыбылымі на некалькіх аўтамашынах па даносе. Завязаўся няроўны бой. У выніку партызаны пабілі частку немцаў і паліцыянтаў, спалілі аўтамашыну, астатнія ўпаніцы адступілі. А партызаны чыстым полем цэлымі адышлі ў раён дыслакацыі атрада. У гэтым баі ўся група партызан дзейнічала рашуча, з веданнем справы дзейнічалі тав. Глухароў Аляксей, Слядкоў Пётр, Васільеў Мікалай, Феакціставў Іван, Грыгор'еў Аляксандр, Паніч Андрэй, Пралыгін Іван" (Зямскоў).*

У баі ўдзельнічалі таксама Жорж Подлясек, Апанас Рэпнікаў, Генадзь Шут і Хведар Зямскоў.

*"Яны ішлі на Літву, у кірунку на Радунь, з абеду дзень быў гарачы, ад нас да трох км у Гярвеніках раздаўся залп стрэлаў і бесперапынна цвыркаў кулямёт. Пацягнуў чорны дым пажару, у мяне замерла душа. Уначы вярнуўся Саша, паранены ў нагу і распавёў мне, што яны біліся з немцамі, немцы напалі на іх сонных і распранутых у адрыне, яны там зарэзалі барана на абед, і гэты ж гаспадар заявіў немцам, а яны пасля абеду вырашылі адпачыць на ноч. І вось іх вартавы неяк слаба сачыў, яны ўсе ў адрыне, а немцы і паліцаі на вуліцы. Вось тут-то Саша і прыкрываў агнём кулямёта, пакуль усе выйшлі з адрыны. Усе выйшлі шчасліва, толькі Саша і яшчэ адзін былі параненыя, але не моцна, а немцаў было вельмі шмат. Забіта было 5 паліцаяў і 7 немцаў і 5 параненых." (Жук К.М.).*

Партызан Пётр *Слядкоў* пакінуў выдатнае апісанне гэтага бою, не без перабольшанняў, вядома.

*"Мы прыйшлі ў Гярвенікі, далей ісці было нельга, вырашылі днявацьу Гярвеніках. Нашы прадстаўнікі пайшлі да старасты вёскі (солтыса) Лявона Седака, папрасілі яго сабраць з насельніцтва прадуктаў для нас. Солтыс паставіўся да нас на першы погляд нядрэнна, замест малака і хлеба расстараўся барана. Пасля сняданку мы вырашылі перайсці ў іншае месца, бо спачатку размясціліся ў школе. Прыдатным месцам абралі хутар Іосіфа Кудаша, дзе і размясціліся на адпачынак у гумне. Раней Кудаш меў з намі сувязь. Прызначыўшы варту, усё спакойна адпачывалі.*

*Але нямецкі паслугач Лявон Сядак накіраваўся ў Жырмуны да свайго сябра Адольфа Якубоўскага, які служыў у гміне. Той адвёў Сядака ў залогу да немцаў. Як на споведзі Сядак распавёў немцам колькі партызан, якяны ўзброеныя. У другой палове дня нас акружылі, дакладна ведаючы нашу колькасць і зброю. Фашыст подкраўся да нашага вартавога і зрабіў у яго стрэл з аўтамата. Паранены вартавы з крыкам: "Хлопцы, мы акружаныя!" убег у гумно. Немцы адчынілі ўраганны агонь у адчыненыя вароты, з трэскам у гумна рваліся гранаты. Частка нашых хлопцаў паспрабавала выскачыць у заднія вароты, але немцы таго і чакалі. Як толькі ледзь хіснуліся вароты, ад іх паляцелі трэскі, там была засада.*

*Нягледзячы на нечаканасць, ураганны агонь і выбухі гранат усе сябе трымалі спакойна, без панікі, і не зрабілі яшчэ ніводнага стрэлу ў адказ. Так доўжылася хвіліны 4-5. Немцы пачалі сціскаць кольца. Пад градам куль мы ляжым і глядзім адзін на аднаго, поглядам пытаем адзін другога, што рабіць? Немцы чамусьці спынілі моцны агонь, відаць, задумалі нешта распачаць. Раптам як токам падкінула ўверх Хведара Зямскова, ён ускоквае і кідае ў фашыстаў адну і другую гранату Ф-1. Слядкоў па яго прыкладу, таксама выскачыўз гумна і пачаў кідаць гранаты. Гэты нечаканы контрвыт зламаў волю фашыстаў, і яны пабеглі ад варот гумна. Наш камандзір з гумна дае тры дзівосныя доўгія чаргі з ППД. Гэтыя чэргі нам запомніліся таму, што аўтаматбыў няспраўны і страляў ад выпадку да выпадку. Глухароў Аляксей выбягае з ручным кулямётам і застрачыўўў па сабраўшыхся фашыстах. Да ручнога кулямёта не было дыскаў, дыскі ў яго былі ад танкавага кулямёта, значна меншыя дыяметрам, і мы прыстасаваліся падвязваць дыск электрапровадам, з-за чаго наш кулямёт часта адмаўляў. Усё павыскаквалі з гумна, займаючы пазіцыі, пачалі біць немцаў. Знаходзіліся мы яшчэ ў кольцы, але ў нас аказалася выгадная пазіцыя. Хутар стаяў на ўзлеску. Імклівым рыўком мы занялі гэты ўзлесак. Частка нашай групы, заняўшы добрыя пазіцыі ў двары, пачала знішчаць немцаў. Бачачы дрэнную пазіцыю на адкрытай мясцовасці і вялікія страты, немцы ганебна збеглі па полі.*

*Раптам невядомая сіла павярнула немцаў, і яны з крыкам бягуць на нас. Аказваецца, яны заўважылі, што па ўзлеску імчыць бронемашына, а за ёй збяжыць падмацаванне. Фашысты ў бронемашыне сходу адкрылі па нас агонь. Мэта бронемашыны, відаць, была адрэзаць нас ад лесу, а затым дзвюма групамі атакаваць нас з двух бакоў. Тады самы малады партызан - камсамолец Шут Генадзь па кустах паралельна дарозе пабег насустрач машыне. Генадзь гранатамі вывеў машыну з ладу, машына далей ісці не магла, але працягвала весці агонь, які ніякай шкоды нам не прычыняў, бо машына стаяла ў лагчыне. Феакціставў закамандаваў: "За мной!". Капітан Грыгор'еў камандаваць быў не ў стане, ён быў паранены. Імгненна ўсе ўскочылі і пабеглі ў лес. Страляніна з боку немцаў працягвалася. Адарваўшыся ад немцаў, мы па лесе развілі прыдатную хуткасць. Прабегшы з кіламетр, пачаалі хуткасць бегу змяншаць, сёй-той на збягу пачаў размаўляць. І раптам, насустрач нам бягуць немцы - другое падмацаванне. Фашысты нашае адступленне прынялі за лютае контрнаступленне і маментальна кінуліся на ўцёкі без адзінага стрэлу.*

*Калі завязаўся бой гаспадар сялібы Іосіф Кудаш схапіў сваіх двух дзяцей - гэта былі два хлопчыкі гадоў 4-6 і пабег у лес, стараючыся выратаваць жыццё дзяцей і сябе. Пасля бою фашысты ў парыве гневу расстралялі Іосіфа і яго дзяцей.*

*Нягледзячы на лікава праўзыходзячыя сілы супрацўніка, наш атрад нестраціў ні аднаго чалавека забітым, чатыры партызаны атрымалі лёгкія раненні, тады як фашысты страцілі больш за 20*

*забітымі і шмат параненымі. Прыйшлося вярнуцца ў месцы, дзе знаходзіліся раней (Сляткоў П.).*

Рэпнікаў А., таксама як і Жук К., вынік бою ацэньваў больш сціплымі лічбамі: забіта 5 паліцаяў і 7 немцаў.

Пасля гэтага бою Іван Пралыгін пакінуў групу, свой сыход ён тлумачыць наступным чынам: *"Фашысцкія вылюдкі, бачачы сваю ізаляванасць у карных дзеяннях, вырашылі правесці ў 1942 г. аблаву на партызан з поўнай прачоскай вёсак і лясоў. У аблаве павінна было ўдзельнічаць каля 42 тысяч нямецкіх салдат і афіцэраў. Ведаючы аб гэтай задуме ворага, партызанскія групы пачалі аб'ядноўвацца ў атрады, брыгады і злучэнні. Я прапанаваў камандзіру партызанскага атрада "Іскра" А. Коннаву перабазавацца на час аблавы ў Ліпічанскую пушчу і адтуль дзейнічаць разам з іншымі групамі і атрадамі, але А. Коннаў адхіліў маю прапанову, сказаўшы: "Я аблаву перажыву са сваімі хлопцамі сярод сялян навакольных сёлаў і вёсак, яны нас схаваюць, а ты як хочаш". Тады мы, параіўшыся са сваімі хлопцамі, вырашылі сыйсці ў Ліпічанскую пушчу і ўліцца часова ў партызанскі атрад імя Варашылава, камандзірам якога быў Пётр Макараў. У атрад мы прыбылі ў жніўні 1942 года." (Пралыгін І.)*

**Заўвага**. Лейтэнант Коннаў А. са сваёй групай прыйшоў у Лідскі раён толькі ў верасні.

*"Калі рана зажыла трохі, Саша ізноў пайшоў. Праз некаторы час прыйшоў дадому і даў мне цыдулку, каб я схадзіла ў Тракелі па пашпарты да каменданта паліцыі Грайдаау, каб лепш хадзіць у выведку. Адтуль я прынесла 7 пашпартоў на ўсякія прыдуманыя прозвішчы. Саша ўжо не хаваўся, толькі перапрануўся ў мужыцкую адзежу. За ім прыйшлі двое партызан, хутка яны пайшлі на Цвермскія хутары, і ў домее, які зваўся "Белы сабачка", абралі Сашу камандзірам атрада "Іскра". Кожны дзень немцы пераследвалі ўжо мяне, і кожны дзень чуваць былі баі з фашыстамі". (Жук К.)*

Да сярэдзіны верасня група Грыгор'ева - Феакціstava ўключала 19 чалавек.

## Арганізацыя партызанскага атрада "Іскра"

Пахаладала, набліжалася зіма. Думка аб будучай зіме не выходзіла з галавы кожнага. Зіму баяліся, *"думалі, прыйдзе зіма - стукнуць маразы, фашысты кінуць карныя атрады і паследзе будуць пераследваць пакуль не знішчаць усіх да аднаго. Адны раілі ісці на ўсход, перайсці лінію фронту, іншыя гаварылі сыходзіць у лясы і там зімаваць. Не было яшчэ партызанскага досведу, яшчэ не ўяўлялі, што рабіць узімку, як змагацца, дзе і як жыць ?"*

*"У пачатку верасні 1942 г. я з групай партызан у колькасці 15 чалавек, маючы на ўзбраенні 2 ручныя кулямёты, 14 вінтовак, асабістая зброя і гранаты, прыбыў у Лідскі раён, маючы намер рухацца далей на ўсход да фронту. Тут, у раёне Дакудава мы сустрэлі двух узброеных людзей, гэта былі лейтэнант Андрэй Сяргееў і старшына Рыгор. Яны нас (13 верасня) пазнаёмілі з мясцовай партызанскай групай у 19 чалавек, камандаваў групай сяржант РСЧА Іван Аляксеевіч Феакціstaў. Пры сустрэчы на агульным сходзе было вырашанае, аб'яднацца двум групам для сумесных дзеянняў супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў і іх прыхвостняў - паліцыянтаў і дзейнічаць на месцы, г.зн. у Лідскім раёне. Для агульнага кіраўніцтва быў запрошаны капітан тав. Грыгор'еў Аляксандр" (Коннаў А.).*

*"Першага кастрычніка 1942 г. на хутары Станіслава Граблiса ля в. Юравічы агульным сходам партызан было вырашана назваць групу партызанскі атрад "Іскра". Камандзірам абралі капітана Аляксандра Грыгор'ева, начальнікам штаба Хведара Зямскова. Новае камандаванне вырашыла адвесці атрад у Белавежскую пушчу і адтуль пачаць актыўную барацьбу супраць акупантаў" (Коннаў А.).*

*"Шмат было прапаноў, але большасцю галасоў было прынята назва "Іскра", бо група невялікая, лічылі, што абавязкова ад іскры загарыцца полымя. Другое пытанне - што рабіць з прыходам зімы? Пакуль не позна вырашылі на зіму сыйсці ў больш надзейныя лясы, стварыць там партызанскі лагер, пабудаваць лінію абароны, пракапаць некалькі падземных хадоў на выпадак змушанага адыходу." (Сляткоў П.)*

*"Атрад быў арганізаваны ў аснуўным з групы партызан, якую я прывёў з Рыбацкага лесу - гэта паміж мястэчкамі Рось і Луна* (Лунна) *на беразе р. Нёман". (Коннаў А.)*

*"У верасні 1942 года на базе групы Феакціstava быў створаны партызанскі атрад "Іскра". На агульным партызанскім сходзе мяне абралі начальнікам штаба" (Зямскоў).*

## Перамовы з камендантам паліцэйскага ўчастка ў Жырмунах

*"Пачатак бою ў Гярвенікахпраходзіў на даволі блізкай дыстанцыі. Наш партызан Жорж Падлясек, капітан польскага войска, сярод немцаў і паліцаяў, якія наступалі, пазнаў свайго лепшага сябра па даваеннай службе ў польскім войску. Сябар Жоржа аказаўся камендантам паліцэйскага ўчастка, які размяшчаўся ў маёнтку Жырмуны. Падлясек праз сувязнога Стэфана Варону пасылае яму ліст, у якім называе яго ворагам польскага народа. У сваім адказе камендант не апраўдваўся і не лаяў Падлясека, ён напісаў: "Калі б мы сустрэліся, тады даведаліся б хто сябар польскага народа, а хто вораг". Паміж камендантам паліцыі і Жоржам завязалася перапіска. У сваім лісце Жорж прасіў каменданта аб сустрэчы, той быў не супраць, але сустрэцца згаджаўся толькі ў мястэчку Жырмуны. Пасля доўгіх перамоваў праз вельмі асцярожнага і разумнага сувязнога Стэфана*

*Варону (Яна Сташкевіча - у газетнай публікацыі) было вырашана ісці на сустрэчу ў Жырмуны.*

*На гэтую рызыкоўную сустрэчу пайшлі камандзір атрада Грыгор'еў, начальнік штаба Зямскоў, Падлясек і я (Пётр Сляткоў). З наступленнем цемры ва ўмоўленым месцы па ўстаноўленым паролі дэлегацыю сустрэў сувязны каменданта. У дакладна абгавораны час ён павёў нас на перамовы. Узброіўшыся пісталетамі, гранатамі і нажамі, мы па адным у інтэрвале бачнасці пайшлі за сувязным. Кожны ведаў, што ідзем у логава ворага і варажылі - гэта пастка або перамовы ў сапраўднасці адбудуцца? Увайшлі ў Жырмуны, то тут, то там сустракаюцца немцы і паліцаі. На любую нечаканасць мы гатовыя адказаць і дзейнічаць за адно. Падышлі да брамкі высокай агароджы, брамка адчынілася, там стаяў другі сувязны. Па адным прайшлі праз брамку да хаты. На ганку чакаў ксёндз, ён запрасіў нас у хату. Трымаючы ў кішэнях напагатове пісталеты трое пайшлі ў хату, а я застаўся ў двары выконваць ролю вартавога. Па ўсім перыметры агароджы густы хмызняк бэзу, трэба было неадкладна праверыць хмызняк, ці няма там засады. Трэба прыслухвацца да хаты - не ці ідзе там барацьба ? Пакуль усё ціха.*

*Хвіліны праз 3-4 на ганку з'явіўся ксёндз і запрасіў мяне ўвайсці ў хату. Я падзякаваў ксендза за запрашэнне і адмовіўся. Ксёндз пайшоў у хату. Выходзіць Зямскоў і гаворыць: "Заходзь". Ну зараз справа іншае. Зала, дзе праходзіла сустрэча, была добра асветлена, вокны завешаны, пасярод стаяў вялікі стол, добра накрыты. Там былі віны і розныя закускі. Пры маім з'яўленні паліцыянты ўсталі і працягнулі рукі. Я не жадаў падаваць руку, але магчыма мае сябры ўжо абмяняліся поціскам рукі? Гаспадары наліваюць у чаркі віна, прапаноўваюць тост - мы трымаем чаркі, але не п'ем. Гаспадары зразумелі нашу стрыманасць і выпілі першымі, мы рушылі ўслед іх прыкладу- выпілі. Ужо былі ўпэўненыя, што ўсё абыдзецца шчасліва, палякі не павінны падвесці ксяндза, не павінна адбыцца кровапраліцце ў кватэры ксяндза. Ад другой чаркі мы адмовіліся.*

*- Піць у нас няма часу, давайце пагаворым адкрыта, мы прыйшлі да вас па зброю, каб весці барацьбу супраць акупантаў. У вас ёсць, у нас бракуе.*

*- Так, зброя ў нас ёсць, у асноўным вінтоўкі - гаворыць камендант, - мы чакаем навабранцаў, тут будзе вучэбны пункт.*

*- Калі вы сапраўдныя палякі, вы павінны аддаць гэтую зброю нам - сказаў Жорж Падлясек.*

*- А як аддаць? Зброя находзіцца ў маёнтку за тры кіламетры ад Жырмун, маёнтак моцна ахоўваецца.*

*- А так. Заўтра мы падашлём да вашай казармы невялікую групу хлопцаў, яны трохі пастраляюць, а ты арганізуй за імі пагоню, а мы тым часам нападзём на маёнтак. Бо з усімі - то нам з вамі не справіцца.*

*- Добра. Высылайце заўтра групу, абстрэльвайце нас, а мы пастараемся ўзяць больш паліцыянтаў і пайдзем пераследваць вашых хлопцаў. Ды вось што. Заўтра, калі вы будзеце наступаць на маёнтак у гэты час паедуць на роварах двое нашых паліцыянтаў, яны вам могуць перашкодзіць. Вы іх затрымайце, але не забівайце, яны нашы людзі. Так і вырашылі" (Сляткоў).*

*"Падлясек узначаліў перамовы з камендантам жырмунскай паліцыі. У перамовах удзельнічалі 4 паліцыянты, у тым ліку і камендант. З нашага боку: капітан Грыгор'еў, капітан Падлясек, начштаба Зямскоў і выведнік Сляткоў. Перамовы праходзілі ў хаце Жырмунскага ксяндза" (Коннаў).*

## Напад на маёнтак Жырмуны ў кастрычніку 1942 года

*"Па вузкай сцяжынцы сярод рэдкага невялікага хмызнячку едуць два паліцыянты на раварах. Нашы хлопцы з засады накінуліся на іх і раззброілі, яны так напалохаліся - не маглі гаварыць. Тут хутка спрацавала партызанская знаходлівасць, двое нашых партызан Мікалай Васільеў і Ўладзімір Бурнос перапрануліся ў паліцэйскую форму, селі на паліцэйскія ровары і паехалі ў размяшчэнне казармаў. Пад'ехалі да маёнтка, паліцыі і немцаў у двары няма, на другім паверсе на вокнах сядзяць немцы. Перапранутыя партызаны робяць выгляд, што нясуць вартавую службу.*

*На падыходзе да казармы атрад разбіўся на дзве групы. Адна нападае на казарму, другая ўзломвае дзверы склада, берэ зброю. Марудзіць няма калі: могуць вярнуцца асноўныя сілы. "Давай, наперад!". Паўзком, перабежкамі разасяродзіліся за надворнымі пабудовамі. Першая група пайшла на казарму не выяўленая немцамі. Пакуль ціха. Адчынілі ўваходныя дзверы, двое нашых хлопцаў у паліцэйскай форме ішлі наперадзе, за імі ўся чарада ідзе па лесвіцы ўверх. Адчынілі дзверы калідора другога паверху - па калідоры ішла з падносам афіцыянтка, несла немцам вячэру. Пры сустрэчы з партызанамі ў паліцэйскай форме ветла ім пакланілася, але калі ўбачыла, што ў дзверы ўваходзяць узброеныя людзі і апранутыя хто ў што, не па форме, у яе ад жаху зваліўся паднос. Справа горш. Яна можа крыкнуць. Тады мы кінуліся ў адны, у другія дзверы, а ў трэціх спакойна сядзелі немцы, чакалі вячэру. Як толькі нашы хлопцы ўбачылі немцаў у адзін голас крыкнулі: "Рукі ўверх!" Большасць паднялі, а хто паспрабаваў ужыць зброю - не паспеў.*

*З ліку палонных мы ўстанавілі па дакументах хто фашыст, а хто нямецкі салдат. Фашыстаў мы ўзялі з сабой, немцаў з наказам пакінулі. Зброю ўзялі спаўна, што было на складзе і тое, што знаходзілася ў казарме" (Сляткоў П.)*

*"У першую аперацыю з групай у 12 чал. я разбіў маёнтак Жырмуны, спалілі валаснае кіраванне (гміну), забіты 2 фашысты, узялі ў палон 4 паліцыянтаў, якіх адпусцілі пад чэснае слова, не падымаць зброі супраць свайго народа, астатнія паліцыянты паразбягаліся, у маёнтку ўзялі вялікую колькасць харчу, быдла і коней, коні былі патрэбныя як транспарт і для коннай*

*выведкі." (Коннаў).*

*"Неўзабаве партызаны ў маёнтку Пяткоўшчына* (б. м. .Жырмуны - СВ) *разбілі ўсё нямецкае дабро і спалілі. Шмат там забілі немцаў і нямецкіх службоўцаў, забралі ўсіх коней"  (Жук К.).*

## Тракельска-Дворышчаўская аперацыя

*"У Тракелях знаходзіўся буйны пункт па вырабе сметанковага масла і збору яйкаў для нямецкіх войскаў. У маёнтку Дворышча быў пункт па вырабе сметанковага масла і збору яйкаў. У Дворышчах знаходзіўся млын, а ў панскіх адрынах - ссыпны пункт збожжа для немцаў. Акрамя таго, немцы арганізавалі ў Дворышчы нарыхтоўку торфу, які прызначаўся для апалу нямецкіх устаноў і вайсковых шпіталяў. Насельніцтва Тракельскай гміны было моцна закабалена немцамі, немцы абавязвалі насельніцтва бясплатна працаваць на торфараспрацоўках і адвозіць на конях торф у Ліду.*

*У Дворышчы прыехаў Вазняк - зяць былога ўладальніка маёнтка Амберга. Вазняк прыехаў з жонкай - дачкой Амберга, з аселым намерам і прыступіў да аднаўлення маёнтка свайго цесця. Перш за ўсё ён узяўся за аднаўленне 4-павярховай вежы пад кватэру. Вежа мела прыкладна 10 м кв. у аснове, чатыры паверхі, 4 памяшканні - на першы выпадак гэта маладога пана цалкам задавальняла. Старажылы гаварылі, што некалі з гэтай вежы пан Амберг вёў назіранні за палявымі работамі яго парабкаў. Вазняк даў згоду працаваць на партызан, ён перадаў нам некалькі пісталетаў, дапамагаў даставаць боепрыпасы. Пасля яго жонка працавала ў Лідзе і забяспечвала нас чыстымі бланкамі пашпартоў з адбіткамі пячаткі, нам лёгка было выпісаць любой асобе пашпарт і іншыя дакументы.*

*Вазняк быў забіты ўкрасавіку 1943 г. па загадзе кіраўніцтва польскага падполля. Нейкім чынам ён быў датычны да арышту Ежы Гульпоўскага -Шульца, які працаваў на Тракельскім маслапункце (млячарні).*

*Мы стварылі бачнасць, што Тракелі акружаныя партызанамі з усіх бакоў. Мы з'яўляліся ўсюды, і скоўвалі паліцыю. Паліцыянты сядзелі ў Тракелях, баючыся высунуць нос. Мы напісалі некалькі лістоў на польскай і рускай мове на імя паліцаяў - фолькедойча Федаля, Наркуна і Браніцкага. У сваіх лістах мы выказвалі шкадаванне, што ў савецкім крымінальным кодэксе няма артыкула аб ужыванні прысуду праз павешанне - добра б было павесіць вас на вачах народа, якому так шмат вы прычынілі бед. Ну што ж, калі так, прыйдзецца вас расстраляць, як сабак. Што датычыцца Вялічкі, Петрусевіча, Ворача і іншых - уцякайце хутчэй, пакуль яшчэ ёсць магчымасць. Асобы Федаля, Наркуна і Браніцкага я добра запомніў. Мне яны запомніліся ў студзені 1942 г., калі па-зверску забілі гумовымі палкамі савецкага лейтэнанта па імені Пётр на хутары Гімбуты ў доме Бубеля Браніслава. Нам важна было ўзяць гэтых злачынцаў жыўцом.*

*Мы разграмілі ў Тракелях маслапункт, разбілі апаратуру, знішчылі вялікую колькасць яйкаў, забралі спісы абкложаных, не даўшы паліцыі апамятацца, уначы ў Тракелях адшукалі пад печчу ў адной жанчыны Наркуна і расстралялі яго як здрадніка і злачынца. Паліцыя на чале з войтам Навіцкім уцякла ў Ліду. Насельніцтва нас прывітала: яно ўбачыла ў нас абаронцаў і таму аказвала нам дапамогу.*

*Вазняк нібы таксама ўцёк у Ліду. Перад уцёкам ён зрабіў вялікую справу: не адправіў у Ліду некалькі сот тон збожжа. Пад вечар я разаслаў партызан па вёсках Гімбуты Казённыя і Панскія, па ўсіх хутарах, прылеглых да гэтых вёсак, а таксама ў Мергінцы, Дворыща і Юравічы. Была пастаўлена задача - мабілізаваць сялян з фурманкамі, кожная фурманка павінна мець не меней дзесяці пустых мяшкоў, прычым трэба дабіцца 100% яўкі фурманак, усе абозы павінны сабрацца ў маёнтку Дворышча. Сяляне не ведалі навошта, па парожніх мяшках, здагадваліся, што па збожжа. Аднак, куды збожжа везці, яны пакуль не ведалі. Сам я з Федзям Ляпёхіным прыйшоў на млын, дзе было чалавек 15 з памолам. Мы ўсіх сабралі і папярэдзілі: млын акружаны, хто выйдзе з млына, будзе расстраляны без папярэджання. Мельнікам Капчынскаму і Калясінскаму загадана працу не перапыняць. Хвілін праз 20 з'явіўся першы абоз, затым з іншага боку другі і г. д. Я сабраў усіх сялян -вознікаў і таксама папярэдзіў, што Дворышча акружана партызанамі, калі хто паспрабуе ўцячы ўпотай, то будзе расстраляны. Будзе зроблены ўзлом дзвярэй адрын. Кожны павінен насыпаць у свае мяшкі збожжа і павезці дадому. Падчас працы бяспека забяспечана, усё вывезенае збожжа будзе ваша. "Партызаны, узламаць дзверы! Усім прыступіць да пагрузкі!" Спачатку мужыкі нехаця тапталіся на месцы, але калі ўбачылі шмат збожжа, яны накінуліся і дружна пачалі грузіць. Хто бліжэй жыў здолеў 2-3 разы прыехаць. На працягу ночы ўсё збожжа сплыло з засекаў акупантаў.*

*Раён дзеянняў нашага атрада значна пашырэў, ад Дакудава да Тракеляў, ад Тракеляў да Воранаўскага і Радуньскага раёнаў. Тракелі вызвалены ад паліцыі, знішчаны два пункты па вырабу сметанковага масла і збору яйкаў. Насельніцтва вызвалена ад паставак і падаткаў, нарыхтоўкі торфу і гужпрацповіннасцяў. У Дворышчы поўнасцю спынена нарыхтоўка і вывазка торфу. Узята некалькі сот тон збожжа. Насельніцтва гэтых раёнаў пачало рэгулярна атрымліваць свежыя зводкі Саўінфармбюро". (Сляткоў П.)*

## Група Валянціна Дзямідава

Улетку - увосень 1942 г. у Воранаўскім раёне малодшы лейтэнант Валянцін Дзямідаў, уцякач з палону з Усходняй Прусіі, сфармаваў сваю групу. У яе ўваходзілі: Дзямідаў Валянцін, Лупашчанка Сцяпан - лейтэнант, Цімафееў Рыгор - малодшы палітрук,

Зыранаў Хведар, Дудараў Васіль Пятровіч - ветэрынар, або фельчар, Грыша "Ленінградскі", Маркевіч Міхась - селянін з в. Барташуны, Карыцін Хведар - малодшы лейтэнант, Пузырыцкі Мордух - габрэй, Шэйман Генадзь - воранаўскі габрэй, Дзёмушкін Мікалай, Лернер. Дыслакавалася група на хутарах за 8-12 км на ўсход ад Воранава.

Усё далейшае выкладанне заснавана на аповядах Валянціна Аляксеевіча Дземідава, з якім мы працяглы час мелі магчымасць абмяркоўваць тэму партызанскага руху на Лідчыне.

*"Мне сказалі, што ў Перегацах адзін "савет" жыве, працуе ў селяніна. Знайшоў. Гэта быў Цімафееў. Разгаварыліся, ён малодшы палітрук, скончыў вучэльню. Пагутарыў паўгадзіны, нешта ён не настроены.*

*- А што ж ты, сябрук, прысягу даваў капаць агарод.*

*-Я прывык да людзей, яны мне як родныя. -Бачу, што не баязлівы.*

*- А ведаеш, гавару, што бывае ў ваенны час. Падумай. - Праз дзень ён прыйшоў у сваёй гімнасцёрцы. Ён таксама збег з палону.*

*Зыранаў Федзя з'явіўся перад сустрэчай з Дударавым. Салдат, збег з палону. Буйны, плячысты, з Архангельскай вобласці. На радзіме ў яго была запрэжка сабак. Узімку распранецца па пояс, абатрэцца снегам. Ён стаў маім ад'ютантам.*

*На хутар у Навіянкі пайшлі з Лупашчанкам. Заходзім, стаіць з аўтаматам Дудараў, з ім Грыша "Ленінградскі" і Маркевіч. Мы прывіталіся, пазнаёміліся. Стала нас 6. Яны пра нас чулі. Недалёка ад Сандроўскага жылі.*

*Пра Хведара Карыціна з Янушэўшчыны пачуў Лупашчанка, ён быў вельмі таварыскім чалавекам. Дзесьці ёсць зямлянка - жыве танкіст. Ходзіць - пагражае аднаму жыхару Янушэўшчыны. Той нават заклаў акно цэглай.*

*Шэймана Генку і Пузырыцкага мы сустрэлі каля Янушэўшчыны: "Вядзіце да зямлянкі". Гэты лес за 150 м ад Янушэўшчыны. Генка адчыніў: "Федзя вылазь". Паказаў галаву - абраслы як мядзведзь. Прывіталіся. Чаму сядзіш ?*

*- Мужык у Янушэўшчыне сказаў, што заб'е мяне.*

*Пайшлі да мужыка.*

*- Навошта акно заклаў цэглай?*

*- Ён сказаў, што заб'е мяне.*

*- Дайце адзін аднаму руку. А ты Федзя, каб заўтра пагаліўся і давай да нас. - Ён у палоне не быў. Спявак і гарманіст. Сядзіць і гарлапаніць. Там, у Янушэўшчыне любілі яго.*

*Дзёмушкін прынёс з сабой кулямёт. Дзесьці жыў на хутары. З'явіўся бліжэй да восені 1942 г."*

## Здабыча зброі

*Мы былі ў ляску, капалі зямлянку, чалавек 5 нас было, і абходчык з Сталянятаў з вінтоўкай з'явіўся. Мы яго атачылі. Невялікага расточка мужычок у форме, відаць, што папалохаўся - гаварыць пачаў недарэчы.*

*Ён гаварыў, што даўно нас заўважыў. Мы вінтоўку ў яго забралі.*

*- А колькі ў вас ляснічых?*

*- 7 ляснікоў.*

*- Зброя?*

*- 5 вінтовак, пісталет у ляснічага. Ляснічы-Сцежка з в. Станулянцаў. Ён гаварыў - гатовы з вамі сустрэцца. Вырашылі пайсці да лясніка па зброю. Пайшлі Дудараў, Грыша, Лупашчанка, Дзёмушкін і я. Выйшлі на гасцінец Воранава -Пераганцы. Стаіць ляснічоўка. Абапал лес, з коміна дым. Адчыняю дзверы. Прыслужніца маладжавая, цікавая стаіць перад печкай, пірог на лапаце трымае.*

*-Дзе ?*

*-Там, - пальцам паказала.*

*Я тузануў дзверы, ён ніц на ложкі ляжаў, побач на крэсле пісталет "Вальтар". Я пісталет адразу ў кішэнь. Пхнуў яго, ён вока расплюшчыў і нават у твары змяніўся. Хлопцы ззаду стаяць.*

*-Дзе вінтоўка? Што яшчэ ёсць?*

*- Вінтоўкі ў абыходзе, вернуцца пад вечар.*

*-Усе мы забярэм.*

*Адчыняецца дзверы, уваходзіць яго жонка, і адразу на калені з плачам.*

*- Не забівайце.*

*Я яе супакоіў.*

*- У нас і думкі такіой не было. Нам трэба ўзброіцца. Якім шляхам перадасце?*

*- У якое месца скажаце - туды і прывязу.*

*- Да крыжа ў Навіянкцы. Да вечара, каб не цёмна, на 5 гадзін арыентыровачна.*

*- Буду ехаць, сама прывязу.*

*- Калі даеце цвёрдае слова прывезці не пазней сённяшняга вечара, мы будзем чакаць.*

*Падышлі да часу туды. Едзе воз на рысорах, у ёй мужчына і жанчына, белы конь.*

*- Я прывезла.*

*- Дзякуй.*

*- Дзякуй вам, што так добра да нас паставіліся.*

*- Спакойна сабе жывіце. Скажаце, зброю партызаны адабралі.*

*- Гэтая справа наша, вырашым. Зброі ў немцаў хапае.*

*Прывезла жонка лесніка 5 вінтовак, пісталет і гранату.*

## Налёт на Геранёны

*Прыходзілі мужыкі і жаліліся, што моцна крыўдзіць геранёнскі войт Сарока. А жыве за Вінцукамі, у яго хутар там. "Пакарайце яго ...кожную нядзелю 25 палак дае. Кладзіся - спускай штаны і 25 палак". Просьба ёсць, трэба выконваць, аўтарытэт заваёўваць. Пазней восенню ў адзін з дзён гэбітскамісар з Ліды замовіў дроў прывесці - павязуць 20 фурманак.. Мы аб гэтым даведаліся за некалькі дзён, падрыхтаваліся. Дзёмушкін валодаў кулямётам ДС*

*(Дзегцярова станковы). Вырашылі так, як з Утканаў будуць везці дровы, станем са сваёй фурманкай, будзем ехаць за імі да самага пастарунка. Паехалі Лупашчанка, Дзёмушкін, я і Дудараў або Зыранаў. Санкі едуць - вязуць дровы. Не даязджаючы да пастарунка, саскокваем з Лупашчанкам. Дзёмушкин і Дудараў на санях. Дзёмушкін на санях разгарнуўся, як праехалі. Запусціў пару чэрг уздоўж па вуліцы. Я з дзесяцізарадкі па тэлефонным провадзе. Провад удрызг. Сын Сарокі быў камендантам паліцыі ў Іўі. Там стаяў украінскі батальён. А калі Дзёмушкін даў чаргу, як пачалі разбягацца. Немцаў не было. Па разу стрэлілі, аднаго ў пятку ранілі. Апошнім выскачыў Сарока, у лісіным футры.*

*- Чаму здзекуешся. Людзі прыязджаюць скардзіцца.*

*Турмы ў нас не было. Параіліся: "Становись да хвоі, Мікалай - невялікую чаргу".*

*Ён як даў, толькі ад футра лісінага кавалкі посці паляцелі. Паехалі ў яго хату на хутар. У яго 40 калод пчолаў было. Узялі пару збаноў мёду і з'ехалі на хутары Андроні. Там жылі багатыя мужыкі, як мядзведзі, два браты. Перакусілі, як след, нас пакармілі.*

Аповяд аб гэтай аперацыі ў 1973 г. апублікаваў А. Нідэр: *"Здабылі Валянцін Аляксеевіч і Лупашчанка зброю і ... пачалі шукаць паплечнікаў, каб стварыць партызанскі атрад. Абязбройвалі паліцаяў, нямецкіх прыслужнікаў. Першую сур'ёзную аперацыю правялі супраць гераненскай залогі. Мясцовы бургамістр - кат Сарока вельмі дапёк людзям.... Нашых байцоў ў групе было яшчэ малавата, а варожая залога - умацаваная. Дзямідаў прапанаваў пайсці на партызанскую хітрасць. Непадалёку ад мястэчка перахапілі абоз з дрывамі з 50 вазоў. На першых двух размясціліся партызаны і загадалі возчыкам на поўным ходу ўварвацца ў Гераненьі. У страху вочы вялікія. Убачылі "абаронцы" варожай залогі, што імчыцца па мястэчку вялізарная партызанская частка да казармы, магістрата. І пусціліся наўцёкі. Кулямётчык Дзёмушкін касіў свінцом трапна. Вынікі аперацыі: залогу поўнасцю знішчылі, бургамістра мясцовае насельніцтва патрабавала на сходзе пакараць смерцю. Былі канфіскаваны прадукты і раздадзены людзям. І яшчэ партызаны захапілі паўтары тысячы бланкаў "аўсвайсаў", пячаткі..." (А. Нідэр. Равеснік кастрычніка. //Уперад. 1 снежня 1973 г)*

## Таямнічая гібель Грыгор'ева, Падлясека і Елкіна

*"Пасля Жырмунскай аперацыі распрацоўваўся план разгрому Радуньскай залогі, дзе таксама служыў сябар Падлясека. На перамовы з Радуньской паліцыяй пайшлі капітан Грыгор'еў Аляксандр, капітан Падлясек Жорж і лейтэнант Елкін Уладзімір. Усе трое загінулі ў вёсцы Кабылінкі* (Кабыльнікі, цяпер Крыніцы). *Гэта прыкладна было ў сярэдзіне лістапада 1942". (Сляткоў П.)*

*"Быў з імі перакладчык нямецкі, паляк, пажылы чалавек невялікага росту Падлясек Юры, звалі яго партызаны Жорж. У ноч на 11 снежня 1942 г прыехаў Саша да нас у Дворышча, іх было трое: Саша, Жорж і Валодзя (Елкін). Развітваючыся са мной, сказаў: "Едзем на ўмоўнае месца да аднаго знаёмаму каменданта, ён не павінен нас падвесці, разгромім фашыстаў, а то яны там распусцелі". Я спытала: "Далёка?". Ён сказаў: "Пад Радунь, чакай мяне, 13 чысла вярнуся". Я яму яшчэ: "Чаму вас толькі трое, што вы там зробіце, Саша, небяспечна, сіла ваша малая". Ён гаворыць: "У нас усё абгаворана, за мяне не бойся, мяне кулі не возьмуць, пакуль нашы не прыйдуць, вось тады адпачнём, а нас таму мала, хлопцы пайшлі на Літву, у пушчу, будзем там будаваць базу". Развітаўшыся са мной, паехалі ў бок Тракеляў на шэрым кані, іх падвозіў Вацлаў Вінча з Гімбутаў.*

*Больш Саша не вярнуўся, прайшло і 13 снежня, а Саша так і не з'явіўся, ні ў атрад, ні да мяне, больш я яго не бачыла.. Праўда, пасля 11 снежня неяк былі немцы ў абшарніка, калі яны паехалі, Вазняк паклікаў мяне да сабе і спытаў, ці быў Саша. Я яму не ведала што адказаць, баялася здрады, сказаць, што не быў - ён можа мяне выдаць немцам, я сказала, што быў. Ён гаворыць, вось немцы гаварылі, мне, што забіты той, як яны звалі бандыт, за якім даўно сачылі, у чорным доўгім футры з чорнай павязкай на левым воку, высокі з аўтаматам і з ім яшчэ двое, недалёка ад Бастунаў за два км. Падкладвалі міны на чыгунцы. А іншыя былі чуткі, што дзесьці ў Гімбуцішках выдадзеныя здраднікам, тым, да якога яны паехалі, забітыя тутэйшымі бандытамі.*

*Кім забіты - дагэтуль не вядома. Пасля забойства Сашы я не знаходзіла больш сяброў у партызанах і вось так засталася жыць. Немцы спалілі маю пабудову 14 сакавіка 1943 г." (Жук К.М.).*

Увосень 1942 г., у лістападзе ў Пудзінскай школе, дзе жыла настаўніца Бяйзарава і мелася радыё, былі акружаныя і забітыя старэйшы лейтэнант Андрэй Сяргееў, старшына Георг (Рыгор) Герасімаў і Хведар Камышаў. *"Немцы спалілі школу, забілі звязаных партызан і мясцовага жыхара" (Рэпнікаў А.).*

*"Наш маленькі атрад панёс цяжкую страту: загінулі два лепшыя партызаны - Федзя Камышаў і Рыгор Герасімаў. А здарылася гэта так. Вяртаючыся ад сувязной, якая працавала настаўніцай у мясцовай школе, партызаны заўважылі, што іх акружаюць гітлераўцы. Адступаць не было куды. І хлопцы вырашылі прыняць няроўны бой. Некалькі гадзін яны адбіваліся ад ворага. Але сілы былі няроўныя.. Кончыліся патроны. І героі, падняўшыся ў увесь рост, пайшлі ў рукапашную. Параненых, абліваючыхся крывею партызан, гітлераўцы кінулі ў палаючую школу" (Рэпнікаў А. Партызанскімі сцежкамі.// Уперад. № 72 ад 9 траўня 1969 г)*

Бяйзарова Ніна Сцяпанаўна - дырэктар і настаўніца Бярозаўскай пачатковай школы ў 1939-41 гг. - аб гэтым эпізодзе ў сваёй аўтабіяграфіі не ўспамінае:

*“Працавала я ў гаспадара на хутары Язовікі да лістапада 1942 г, затым па заданні падпольнага райкаму мне прыйшлося працаваць у школе пры немцах у Пудзіна, і адначасова выконвала абавязкі сувязной. Аб гэтым даведаліся, немцы і паліцаі пачалі мяне праследваць. І прыйшлося мне пайсці ў атрад “Іскра” ў партызаны”.* У артыкуле Т. Асіпенкі *(Партызанка атрада “Іскра // Уперад ад 9 снежня 1981 г.)* сітуацыя выкладаецца зусім па-іншаму: *“Бяйзарава працуе ў Бярозаўскай школе да лістапада 1941 г., Міша Чылек - яе вучань папярэджвае аб небяспецы, і яна сыходзіць у лес да партызанаў.”*

## Гібель Анатоля Ярмолава і Грышы “Ленінградскага”

*“Я са сваёй групай ехаў з в. Папашаны Воранаўскага раёна. Ехалі праз Тракелі, ля школы, якая была ў бараку, стаіць лёгкая кашоўка. Спыніліся - трэба паглядзець. Паставіў Дзёмушкіна з кулямётам, сам пайшоў у школу. Вечар, гадзін 11, нядзеля. Пастукаў. На мне быў шынялёк. Адчыняе дзверы маладая настаўніца Аня ў паліткунакінутым.*

*- Хто ў вас ?*

*- А вы хто?*

*- А што па маёй адзежы не відаць ?*

*Бачу святло пасярэдзіне свеціць. Я іду, адчыняю дзверы. Стіць чалавек з пісталетам, злева стаіць другі і трымае 10-зарадную вінтоўку. З пісталетам быў Ярмолаў, з вінтоўкай - Зямсков. Заходзіць лейтэнант Грыша, Грыша гэты хуткі быў. Ён яму гаворыць: “Ты разрадзі пісталет”. Ярмолов бах яго, а сам у акно і ўцякаць. Зямскоў з 10-зарадкай уцякаць. Я загадаў: “Не страляць!” Ярмолов пабег да астатніх, яны былі ў Мергінцах. Зямскоў прыбег раней, вырашыў на дапамогу весці, яны ўжо ішлі. А насустрач бег Ярмолаў. Сам застрэліўся” (Дзямідаў.)*

*“Ярмолаву Анатолію Фёдаравічу (палітрук, родам з Варонежа, былы супрацоўнік амбасады СССР у Румыніі) і Зямскову было дадзена заданне наладзіць сувязь з тракельскімі настаўніцамі. Уначы ў кватэру настаўніц раптам уварвалася ўзброеная група, якая закамандавала: “Рукі ўверх!”. Зямскоў і Ярмолаў не падпарадкаваліся гэтай каманд зе, трымаючы пад вечкам стала пісталеты. Невядомыя апусцілі зброю, раптам у памяшканне забягае яшчэ адзін і накіроўвае зброю на Ярмолава. Тады Ярмолаў б’е яго з пісталета, а сам выбівае акно і ўцякае. Тое ж зрабіў і Зямскоў.*

*Атрад ад месца здарэння стаяў на адлегласці 7 км. Прыбегшы ў атрад Зямскоў паведаміў, што відаць Ярмолаў узяты ў палон. Увесь атрад кінуўся на выручку, спадзяючыся адрэзаць паліцыянтаў на шашы маёнтка Дворышча. Праз паўкіламетра на дарозе быў заўважаны чалавек, яго паклікалі: “Хто ідзе?”. Чалавек стаіўся ў кювеце. Камандзір даў каманду: “Акружыць!”. Атрад разышоўся і моўчкі стаў сціскаць кольца. Нечакана ўсярэдзіне кольца раздаўся стрэл. Калі сціснулі кольца, у цемры выявілі труп, асвятлілі і ўбачылі які ляжыць Ярмолаў з прастрэлянымі скронямі. Мы яго пахавалі ў ляску блізка ад дарогі, што ідзе ад в. Гімбуты на в. Токары. Так загінуў палітрук Ярмолаў”. (Сляткоў П.)*

*“Два трупы. Праз дзень усе сабраліся. Пахавалі Грышу і Анатоля ў адной магіле ў ляску бліжэй да Токараў. Потым перавезлі і перапахавалі дзесьці тут. Загінулі па-дурацку. У Ярмолава 9 чалавек было, ён сяброваў з Зямсковым. Там у школе дзве настаўніцы былі Грамовіч Аня і Савенка Валя. Яны потым былі ў партызанскім атрадзе” (Дзямідаў).*

## Выбары новага камандзіра

*“У лістападзе 1942 года на агульным партызанскім сходзе камандзірам атрада “Іскра” абралі Коннава, а Феакцістава намеснікам камандзіра атрада па выведцы” (Зямскоў Х.).*

*“Грыгор’еў Аляксандр і кулямётчык пайшлі на сувязь і не вярнуліся, зніклі без вестакі. Разграміўшы маёнтак, знішчылі памяшканне гміны і, разагнаўшы Жырмунскую залогу, мы даведаліся, што камандзір Грыгор’еў Аляксандр разам з Елкіным Уладзімірам не вярнуліся, пошук іх не даў вынікаў. Даведаўшыся аб знікненні капітана Грыгор’ева і гібелі штаба, усе групы, а іх было тры, сабраліся ў канцы кастрычніка 1942 г. на Філонаўскіх хутарах, дзе мяне адкрытым галасаваннем выбралі камандзірам партызанскага атрада “Іскра” (Коннаў).*

*“Злучыліся мы 5 лістапада ў Цвермах. Снег ужо выпаў. “Іскра” утварылася 5 лістапада 1942 г. з далучэннем груп Ярмолава, Феакціства і нашай. Аб’яднанне адбылося на хутары ў Цвермах. Было чалавек 40, Коннаў, Феакціставаў, маіх 13. Коннаў быў апрануты ў чорны кажух, у шапцы. У Феакціства было да 20 людзей, але ён старшы сяржант. Бесшабашная асоба, меў схільнасць да здзяйснення недазволеных спраў” (Дзямідаў).*

Ва ўспамінах іншых партызан група Дзямідава ўлілася ў атрад “Іскра” у снежні 1942 года - прыехалі на двух санях 13 чалавек.

Ёсць і яшчэ меркаванні:

Атрад “Іскра” заснаваны на Філонаўскіх хутарах у канцы лістапада.

Атрад “Іскра” заснаваны ўзімку 1942-43 гг. цэнтральным штабам партызанскага руху, прадстаўніком штаба капітанам Сінічкіным ля в. Дакудава.

*“Позняй восенню 1942 г. пад Дакудава прыйшоў атрад колькасцю да 70 чалавек, камандаваў атрадам пажылы чалавек. Атрад меў рацыю і добрую новую зброю з вялікім запасам боепрыпасаў. Мы выпрошвалі ў іх па некалькі штук патронаў і нават гранат, а яны з намі дзяліліся. Праз тыдзень атрад сышоў”. (Рэпнікаў А.)*

## Пячатка Сляткова

*"Увосень 1942 года Слятковым была выраблена круглая пячатка з зоркай усярэдзіне абадка. Усе сельгаспрадукты, якія накіроўваліся з вёсак для фашысцкага войска ў горад Ліду, партызанскім атрадам вярталіся сялянам, а ім выдаваўся афіцыйны дакумент, у якім паказвалася, што сельгаспрадукты ў такога то грамадзяніна забраны для патрэб партызанскага атрада "Іскра" і ставілася пячатка. У пачатку фашысцкія ўлады горада Ліды такіх дакументаў не прызнавалі, але неўзабаве змушаныя былі прызнаць, бо гэта стала масавай з'явай" (Зямскоў).*

*"Аднойчы мне прыйшло ў галаву выразаць штамп, у дзяцінстве я любіў выразаць на школьнай гуме-сціркы сваё прозвішча і імя, і вось я бяруся за гэтую працу. Шмат выпрабаваў варыянтаў, шмат зрэзаў старых гумовых падэшваў. Але ўсё ж выразаў роўнабаковы трыкутнік з адбіткам "Штаб партызанскіх атрадаў". Калі я скончыў працу і стаў рабіць адбітак, неяк усім стала цікава, што ў нас пячатка. Хлопцы мяне спыталі: "Чаму ты зрабіў надпіс: "Штаб партызанскіх атрадаў", а не атрад?" Я адказаў: "Адбітак гэтага штампа абавязкова патрапіць у рукі немцам, хай яны думаюць, што нас не адзін, а некалькі атрадаў".*

*З гэтага штампа і пачалася ў нас актыўная карысная праца. Кожную суботу, як правіла, нямецкія ўлады прызначалі з кожнага населенага пункта адну - дзве галавы буйной рагатай жывёлы, акрамя таго авечак і свіняў.*

*Тады мы надрукавалі адбіткі на чыстых сшытках, разбіліся па 3-4 чалавекі, разышліся па дарогах, што вялі ў Ліду і пачалі затрымоўваць сялян, якія вялі быдла немцам у Ліду. Сялян мы затрымоўвалі, выдавалі ім даведку, нібы ў іх па дарозе ўзятая карова або іншая жывёла партызанамі, быдла мы не бралі, сяляне адганялі яго дадому, і ішлі ў Ліду з партызанскай даведкай. Вядома не без таго, сяму-таму нагаек перапала, але потым з'явілася маса такіх даведак і немцы змушаныя былі змірыцца. Звычайна цягнік з быдлам адыходзіў у нядзелю, а на гэты раз не пайшоў. У наступную суботу мы сталі адважней дзейнічаць. Ізноў сарвалі адпраўку быдла. Тады немцы калоннай аўтамашын у суправаджэнні бронемашыны рушылі на нас. Калі нямецкая калона вярталася ў Ліду праз Сяглы, мы зрабілі на іх засаду, замаскіраваліся. У мяне тады яшчэ быў абрэз. Калі падышла калона на стрэл хтосьці крыкнуў: "Хлопцы, не страляйце, а то Сяглы і Плябанцы спаляць". Так мы немцаў і прапусцілі. Пасля гэтай падзеі сяляне самі прыходзілі да нас па даведкі, каму прызначалі быдла здаваць. Такім чынам, немцы быдла больш не атрымлівалі.*

*Вось прыклад такой даведкі.*

***Даведка.***

*Выдадзеная гр. Жылюк Уладзіславу, Марцінкевічу Людвіку жыхарам вёс. Гімбуты Тракельскай гміны ў тым, што 30 жніўня 1943 г. у іх у раёне в. Калкі Лідскай гміны на дарозе ўзятыя дзве каровы, прызначаныя нямецкім акупацыйным уладам. Даведка выдадзеная для прад'яўлення Тракельскай гміне. У чым і сведчым. Партызаны" (Сляткоў).*

*"У маёнтку Жэмаслаў забілі немцаў, забралі станковы кулямёт, вінтоўкі, гранаты, патроны, пісталеты, тры параконныя фурманкі поўна нагружаныя свінямі, якія адкормліваліся для фашысцкага войска (Зямскоў).*

## Авіябомбы з Навапрудцаў

Са снежня 1942 г. атрад "Іскра" становіцца актыўным партызанскім атрадам, адным з лепшых у Заходняй Беларусі. Шмат у чым дзякуючы таму, што атрад здолеў забяспечыць сябе грунтоўным запасам толу, які выкарыстоўваўся пры падрыве цягнікоў, грузавых машын.

На чацвёрты або пяты дзень вайны, (25 чэрвеня або 26 чэрвеня 1941 г. - меркаванні расходзяцца), на ўскраіне в. Навапрудцы сапёры Чырвонай Арміі падарвалі падземныя склады боепрыпасаў. Там было некалькі вагонаў снарадаў, авіябомб і патронаў. Выбух быў вельмі магутным. Патроны разляталіся на 2-3 км. Жыхары вёскі, якія вярнуліся на папялішчы, граблямі гарнулі раскінутыя на прысядзібных участках патроны, тапілі ў балоце снарады і авіябомбы. Пра гэта стала вядома партызанам і яны здолелі ў снежні 1942 г. здабыць гэтыя авіябомбы. Памяць людская выбарчая, кожны ўспамінаў так, як запомніў:

*"У пачатку зімы 1942 г. мне і Пятру Глушкову з удзелам мясцовага селяніна з в. Дакудава Маркевіча Івана давялося дабрацца на кані ў г. Ліду на былое месца парахавога склада, дзе яшчэ ляжалі авіябомбы ўсіх памераў. Па сіле магчымасці пагрузілі авіябомбы і даставілі ў атрад, а пазней гэтыя бомбы цалкам і ў вытапленым выглядзе ўкладваліся на чыг. палатно" (Рэпнікаў).*

*"Маркевіч і Васілеўскі выведалі, што блізка ад лідскага аэрадрома раскіданы бомбы. Пад кіраўніцтвам П. Сляткова пры ўдзеле Яншына П., Рэпнікава А., Маркевіча і Васілеўскага ў атрад было дастаўлена 6 бомб" (Коннаў).*

*"Патрэбна была ўзрыўчатка, ды яшчэ ў вялікай колькасці для падрыву мастоў і цягнікоў. Дзе яе ўзяць? Цяжка прыдумаць. І гэтую задачу бліскуча вырашылі жыхары Дакудава Іван Маркевіч і Зміцрук Васілеўскі. Яны даведаліся, што пасля выбуху склада з авіябомбамі выбуховай хваляй частка авіябомб была адкінутая да 500 м ад былога склада. Пасля вывучэння мясцовасці месцазнаходжання авіябомб пад маім камандаваннем у складзе групы, якая складалася з 5 чалавек : Маркевіч Іван, Васілеўскі Зміцрук, Рэпнікаў Апанас, Яншын Пётр і Сляткоў Пётр прывезлі 6 бомбаў.*

*Неяк ў складзе той жа групы, акрамя Рэпнікава, мы вярталіся з бомбамі. На мосце вартавы спрабаваў праверыць, што вязём у санях, вытам нажа я забіў яго, а бомбы шчасліва даставілі ў прызначанае месца. Бачачы паспяховыя, вельмі карысныя аперацыі,*

*камандаванне атрада даручыла заняцца вывазам авіябомбаў Глухарову Аляксею. Глухароў са сваім звязам перавёз больш за 70 бомбаў. Гэтай узрыўчаткі нам хапіла б на паўтара- два годы, бо з кожнай бомбы выходзіла 7-8 пакетаў для падрыву цягнікоў. Наш атрад нескнарнічаў узрыўчаткай, забяспечваў толам не толькі атрады нашай брыгады, але і шэраг іншых атрадаў. Вось якую неацэнную дапамогу аказалі Маркевіч Іван і Змітрук Васілеўскі. Абодва яны загінулі" (Сляткоў).*

*"У канцы лістапада 1942 года па заданні камандавання атрада была накіраваная група партызан на чале з тав. Глухаровым Аляксеем на Лідскі аэрадром для вывазу авіяцыйных бомб вагой 50-100 і 250 кг. Гэтая група партызан з пастаўленай задачай справілася паспяхова, было вывезена на конях гэтулькі авіяцыйных бомб, што іх цалкам хапала атраду да злучэння з часткамі Чырвонай Арміі для падрыву варожых цягнікоў, і атрад "Іскра" дзяліўся з іншымі атрадамі ў прыватнасці з атрадам "Кастрычнік", яны ў сваю, чарга дзяліліся з намі спрошчанымі ўзрывацелямі і толавымі шашкамі. Для падрыву варожых цягнікоў бракавала спрошчаных ўзрывацеляў, але для гэтай мэты выкарыстоўваліся запалы з гранат Ф-1" (Зямскоў).*

У снежні 1942 атрад з Лідскага аэрадрома вывез 12 авіябомб *(Фонд 3500, вопіс 4, д.253, л.57).* Пасля пад камандаваннем Глухарева было вывезена больш 80 авіябомб.

На наступную ноч быў праведзены першы падрыў варожага цягніка. На наступную ноч мы падарвалі варожы цягнік, які ішоў на фронт.

## Першыя падрывы цягнікоў

З першымі падрывамі цягнікоў вялікая блытаніна. Зямскоў - начальнік штаба атрада "Іскра" сцвярджаў, што: *"Першы чыгуначны эшалон быў падарваны ў кастрычніку 1942 г. на перагоне Ліда - Гавье, каля Кадолбскога пераезду разам з групай партызан атрада ім. Варашылава ўзрыўчаткай, дастаўленай гэтай групай партызан, дзе камандзірам атрада быў Макараў Пётр Кузьміч".*

У рэчаіснасці гэты падрыў быў зроблены 24 снежня, у ім удзельнічалі 7 партызан з атрада Варашылава і 11 партызан з атрада "Іскра". У "іскраўцаў" яшчэ не было свайго падрыўніка, і яны, мабыць, звярнуліся да П. К. Макарава з просьбай аб сумеснай аперацыі. Гэтая аперацыя па ўспамінах І. Пралыгіна апісаная ў кнізе "Атрад зваўся "Балтыец" *(Мінск, 1991, с. ): "Вывучыўшы мясцовасць і расставіўшы сілы, партызаны паднеслі да чыгункі авіябомбу, выкапалі поруч рэек яму і апусцілі ў яе смяротны груз. У галоўку авіябомбы ўманціравалі звычайны ўзрывацель з чакой. Чаку злучылі шнурам з вінтовачным шомпалам, які ўбілі ў шпалу. Замаскіраваўшы сляды земляных работ, партызаны пакінулі чыгуначнае палатно...*

*Але вось прычуўся гул паравоза, які нарастаў. Цягнік хутка набліжаўся да месца мінавання. Зараз ён будзе побач. Раптам начную імглу асвяціў моцны сполах, раздаўся магутны выбух. Паравоз лёг на бок, цягнучы за сабой вагоны. Партызаны адкрылі агонь па застаўшыхся на рэйках. Ахова цягніка выскоквала з задніх вагонаў і, хаваючыся за колы, неўзабаве пачала аказваць супраціў. Макараў (гэтай аперацыяй кіраваўДумаў) загадаў праваму флангу спыніць агонь, а леваму акружыць ворагаў. Праз некалькі хвілін партызаны знаходзіліся ўжо поруч з эшалонам. У жывых з ахоўнікаў нікога не засталося. Пасля паспяхова праведзенай аперацыі партызаны вярнуліся на базу з трафеямі. Узялі зброю, боепрыпасы, уякіх мелі вострую патрэбу".* Больш узяць яны нічога не маглі - цягнік быў загружаны вуглём. Пашкоджана 2 паравозы, разбіта 19 вагонаў, забіта 12 ахоўнікаў.

Гэты падрыў цягніка запісалі сабе ў актыў абодва атрады - імя Варашылава і "Іскра", да іх далучылася яшчэ АК.

*"З лістапада 1942 года партызаны атрада "Іскра" пачалі праводзіць выбухі варожых цягнікоў узрыўчаткай /толам/ шляхам мінавання чыгункі цалкам стокілаграмовымі бомбамі або рабіліся з толу пакеты па 40-50 кг, якія таксама добра дзейнічалі, як і бомба, і выбухі выводзілі абодва палатны чыгункі з ладу, а цягнікі ляцелі пад адхон" (Зямскоў).*

У сапраўднасці да актыўнай падрыўной дзейнасці атрад прыступіў у снежні 1942 г, і да новага года паспеў ажыццявіць нешта накшталт двух падрываў.

*"Група Феакціства пад Гутнам у снежні 1942 г. падарвала цягнік" (Коннаў). Гэтую гісторыю на старонках газеты "Уперад" распавёў У. Буйніцкі: "У снежні 1942 г. вечарам Іван Феакціста ў падышоў да мяне і кажа: "Абкручвай, Віталій, анучамі калёсы. На вяселле паедзем. Будзем жаніць фрыцаў". Абгарнуў я абады калёс анучамі, абвязаў тэлефонным дротам, а бацька да мяне: "Я сам паеду. Куды табе, малакасосу такому, партызаніць, ужо". Але для мяне гэта было справай гонару. "Калі не пусціце, то заўтра ж пакіну дом, - кажу,- і падамся на фронт". Фёакціставў запэўніў, што бярэ нада мною апеку і ўсё будзе дабра. А калі сціямнела, абвязаныя колы глуха забарабанілі па мерзлай зямлі. З Пятроў накіраваліся ў Сухвальню, а там у кірунку Хутнаў, дзе днём і ноччу грукацелі варожыя цягнікі. Выехалі з лесу.*

*"У гэтым месцы ахоўваецца слабей чыгунка, -адзначыў Феакціставў, -тут і прыпынімся. А ты чакай нас,- кіўнуў на мяне". І пайшлі. А мне жудасна аднаму ў хмызняку на возе. Бачу, падышлі да палатна. Іван прыклау вуха да рэек. Пасля ўсхапіўся і хутка-хутка замітусіліся. Я пасля здагадаўся, што здалёку ішоў цягнік. Феакціставў, відаць, хваляваўся: абураўся на хлопцаў, кідаў кароткія загады. "Свяці, - не вытрымау ен нарэшце. Федзя пстрыкнуў у далонях ліхтарыкам. І адразу ж ажыло ўсё навокал. Заляскаталі злева выстралы, кулі слізганулі па хмызняку. І, як на злосць, справа паказаўся сноп святла - ішоў цягнік. Ліхтарык імгненна патух, успыхнула запалка. І тут жа хлопцы покатам паляцелі ад рэек. "Чорт, - чагосьці вылаяўся Феакціставў і таропка ўхапіўся за лейцы. - Трымайся, хлопцы". Мы не паспелі праскочыць і сотні метраў, як грамавы раскат аглушыў наваколле, цемру паласнула бліскавіца. І тут жа праз лічаныя імгненні адбылося неверагоднае: пачаўся такі лязгат і выбухі,*

*што, здавалася, сама зямля расколецца. Над намі з шыпеннем і свістам паляцелі абломкі, а над чыгункай запалыхаў цэлы фантан агню.*

*Гэта было першае баявое хрышчэнне групы Феакцістава". (У Буйніцкі. Першае хрышчэнне. // Уперад. 6 ліпеня 1968 г.)*

Другі цягнік быў пушчаны пад адхон 31 снежня *1942 года або ўжо ў студзені 1943 г. Была закладзеная 100 кг авіябомба, выбухам быў разбіты паравоз і 8 вагонаў, і 2 вагоны пашкоджаны, ваенны груз быў пераўтвораны ў абломкі металу. "Для выканання гэтай аперацыі партызаны былі разбітыя на тры групы. Адной групай кіраваў Коннаў Аляксандр, другой Дзееў Аляксандр і трэцяй я. Цягнік быў падарваны, абстраляны, падпалены і гарэў да самога раніцы, у выніку было выведзена палатно чыгункі на доўгі час, пакуль прыбралі пасля выбуху да тла згарэлы цягнік. У гэтай баявой аперацыі ўсе партызаны дзейнічалі дакладна, адважна і рашуча, з веданнем справы" (Зямскоў).*

*"Памятаецца першае пасля аб'яднання наша баявое выступленне. На перагоне паміж станцыямі Гаўя і Гутна мы ўзарвалі варожы цягнік. Тэхніка і баявая амуніцыя немцаў былі пагружаны ў 37 вагонах і замаскіраваны цюкамі сена. І вось састаў паляцеў пад адхон. Партызаны закідалі вагоны бутэлькамі з гаручай сумессю". (Дзямідаў У. // Уперад.)*

*"Партызаны "Іскры" пад Новы 1943 год падарвалі варожы цягнік з боепрыпасамі і прадуктамі паміж ст. Гаўя - Юрацішкі, у чым удзельнічаў і я* (Лазавы; прыйшоў у партызанскі атрад 1 або 19 студзеня). *Аперацыяй камандаваў Аляксей Глухароў. Разбурылі і знішчылі тэлефонна-тэлеграфную сувязь паміж Іўем -станцыя Гаўя на працягу да трох км". (Лазавы.)*

## Зіма 1942-1943 гг.

*"У зімовы перыяд 1942-43 гг. атрад размяшчаўся па хутарах і малых населеных пунктах уздоўж берагоў р. Нёман ад Дакудава і вышэй да 15-20 км. Больш за 5 дзён у адным месцы не жылі" (Рэпнікаў А.).*

Асноўнымі апорнымі пунктамі атрада былі - в. Дакудава, Бурносы, Пятры, а пасля - в. Альхоўка, Пудзіна, Крывічы, х. Васілевічы.

*"У снежні 1942 г. мы звязаліся з Ленінскай брыгадай (камандзір брыгады капітан Сінічкін), якая дыслакавалася ў Ліпічанскай пушчы" (Коннаў).*

14 снежня 1942 *г.* быў атрыманы першы загад аб тым, што атрад уваходзіць у склад Ленінскай брыгады *(Фонд 3500, вопіс 4, спр. 253, арк. 57)*

У канцы снежня 1942 або ў студзені 1943 на вечарынцы ў раёне Дворышча Хведар Карыцін з групы Дзямідава забіў Хведара Чарэчку. Рыбак на зіму сыйшоў з атрада, такую ідэю роспуску атрада на зіму падаў быццам бы Міхась Радзецкі. Атрад Радзецкага далучыўся да "Іскры".

*"Першапачаткова ў асноўным баявыя дзеянні арганізоўваліся невялікімі засадамі, разгром невялікіх залогаў, малочных заводаў, а асноўнае - не давалі фашыстам узяць хлеб у сялян, у абшарніцкіх сядзібах, забіралі хлеб, везлі, раздавалі і хавалі ў сялян, а калі нельга было вывезці, то спальвалі" (Коннаў).*

**12.01.43**. Пушчаны пад адхон цягнік у раёне в. Князікоўцы - ст. Гаўя, удзельнічалі: Цімафееў, Дзёмушкін, Пятроўскі Уладзімір, Кудзі Уладзімір, Кудзі Аляксандр, Лазавы, Кушаль Уладзімір (16 гадоў). *(Лазавы.)*

**20.01.43 г.** Падарваны цягнік у раёне ст. в. Пабольe- Юрацішкі. Удзельнічалі: Лазавы, Гінзбург Цалій, Гінзбург Мацвей, Цімафееў. *(Лазавы.)*

*"У студзені 1943 года было вырашана на перагоне Ліда-Юрацішкі /каля Юрацішак/ падарваць цягнік дзвюма авіябомбамі. Адна бомба была падкладзена ў галаву цягніка, другая па разліку пасярэдзіне яго. У галаве цягніка бомба была зараджаная спрошчаным узрывальнікам, а ў сярэдзіне цягніка з дапамогай электрабатарэі, але спрошчаны ўзрывальнік не спрацаваў, у сярэдзіне цягніка бомба падарвалася і аскепкі ад вагонаў ляцелі на вялікую адлегласць, а неўзарваўшуюся бомбу, што была закладзеная ў галаве цягніка, партызаны не пакінулі, а забралі і павезлі. У гэтай аперацыі асабліва вызначыліся Шахлевіч Уладзімір, Лазавы Сямён, Глухароў Аляксей, Рыжнёў, Ляпін Васіль, Васільеў Мікалай, Яншын Пётр, Гінсбург Мацвей, Гінсбург Цалій, Дабралежа, Цішчук Цімафей, Пузырыцкі, Сокалаў Васіль, Туруткін Іван, Курыла Хведар" (Зямскоў).*

**28.01.43 г.** Першая рота пад камандаваннем Мікалая Васільева, мінёры Лазавы і Глухароў. Замініравалі палатно пад два выбухі авіябомбай і ўзрыўпакетам. Авіябомба не спрацавала, цягнік падарвалі ўзрыўпакетам. Цягнік пусцілі пад адхон на раз'ездзе в. Березовцы поруч са ст. Гаўя. Пад адхон паляцела 12 вагонаў. Загрузілі некалькі саняў мясам і прадуктамі, падпалілі цягнік, які згарэў стоячы на рэйках. *(Лазавы.)*

## Сляткоў у пошуках зброі

"Камандаванне атрада дае мне другое заданне: узбраенне *атрада, а атрад стаў расці не па днях, а па гадзінах. З гэтай мэтай я іду ў Воранаўскі і Радуньскі раёны, дзе і пачаў разгортваць сваю працу. У гэтай задачы мне добра дапамагла польская мова. У той час малапісьменны паляк не мог разгадаць, што я рускі, шмат я ведаў вершаў і песень на польскай мове. Я вольна з палякамі размаўляў і спяваў песні. У в. Гімбуты Тракельскай гміны жылі два браты Баляслаў Вінча гадоў 28 і Браніслаў гадоў 26, старэйшы трэці брат Ясь жыў у Белькавічах км 20-25 ад Гімбутаў. Ён таксама даў згоду працаваць на партызан. Браты былі добрымі музыкамі. Баляслаў граў на скрыпцы, Браніслаў на цымбалах. Іх запрашалі на вяселлі і вечары, яны старанна гралі. Падпойвалі малойчыкаў, выпытвалі ў каго ёсць зброя, а звесткі перадавалі мне. Назапасіўшы спісы асобаў, якія маюць зброю, я папярэдне іх вывучаў, праводзіў адпаведную апрацоўку і забіраў у іх зброю. Зброю не заўсёды было лёгка ўзяць, было і цяжка. Папрацаваўшы ў адным раёне я пераходзіў у іншы. З дапамогай братоў Вінча я*

*пазнаёміўся з Ромусем, здаецца з в. Станішы Радуньскай гміны. Ромусь ведаў напералік, у каго якая ёсць зброя, а асабліва ў сваіх аднагодкаў, у многіх ведаў дзе яна захоўваецца і таму было лёгка забраць. Адкуль у насельніцтва зброя? Наш 213 сп, у якім я служыў, ваяваў на мяжы ў раёне м. Сапоцкіна, біўся датуль, пакуль не стала харчоў і боепрыпасаў, а немцы ўжо ўзялі Менск. Пачалося трагічнае адступленне. Знясіленыя бяссоніцай і голадам байцы ў баях падчас адступлення гінулі сотнямі, немцы праследвалі нас, навязвалі па 4-5 баёў у дзень. Так пры адступленні салдаты нашага войска гінулі, а зброю падбіралі некаторыя мясцовыя жыхары. Вось гэтай зброяй партызаны ў першую чаргу і скарысталіся. Недзе 20 лютага 1943 г сувязны, які перавозіў ад нас зброю, паведаміў мне, што па загадзе камандавання я павінен прыбыць са сваёй групай у атрад. Калі я вярнуўся ў атрад, мне прапанавалі: "Можа ты пагодзішся камандаваць звязам, бо за тваю адсутнасць выведкай пачаў камандаваць Аляксей Глухароў?". Я даў згоду стаць камзвязам" (Сляткоў).*

**4.02.43 г.** Лазавы, Лапін Васіль, Кісялеўскі Іван, Курыла Хведар, Кудзі Саша, Кудзі Жэня, Кудлаў Уладзімір, Пятроўскі Валодзя і інш. падарвалі цягнік на пераездзеля ст. Гаўя - Ліпнішкі *(Лазавы)*.

Асабліва павялічыўся прыток людзей у атрад "Іскра" з студзеня 1943 года, калі атрад пачаткаў актыўна дзейнічаць на чыгунцы па падрыву варожых цягнікоў. Атрад яшчэ больш заваяваў сімпатыі ў мясцовага насельніцтва. *"Яны бачылі нашы дзеянні, яны бачылі, што мы нездарма носім зброю, а ўжываем яе супраць ворага - нямецкіх акупантаў."*

2,8,20 лютага і 13 сакавіка 1943 г. партызаны "Іскры" падарвалі цягнікі на ўчастку Ліда - Маладзечна. Падрыў цягніка 2 лютага адзначаны ў манаграфіі "Усенародная барацьба ў Беларусі ...", Т.2. Стар. 224:

*"Група партызан у колькасці 18 чалавек пад кіраўніцтвам Дзеева і Зямскова падарвала, а затым падпаліла чыгуначны цягнік. Паравоз зляцеў з рэек, 4 вагоны і 2 платформы былі разбітыя, частка вагонаў спаленая".*

13.02.43 г. Белазораў, Жукаў і Канашэвіч з сем'ямі з'ехалі ў ПА "Іскра"

18.02.43 г. у Лідзе арыштаваны Ўладзімір Іванавіч Пятроўскі. Сядзеў 21 суткі.

Напярэдадні 25-годдзя дня Чырвонай Арміі група партызан пад камандаваннем Валянціна Дзямідава дужа паказытала нярвовую сістэму Жамыслаўскай і Гераненскай залогам *(Лазавы)*.

## Напад на адкормачную базу ў Расляках

*"22 лютага 1943 г. наш атрад "Іскра" пад кіраўніцтвам камандзіра атрада Коннава ў колькасці 30 чалавек, пайшоў выконваць баявое заданне па знішчэнні фашысцкага маёнтка ў г. Ліда. Рэйд быў праведзены ў начны час. Падышлі да в. Сяглы, размешчанай за 10-13 км ад Ліды, спыніліся, каб дачакацца цемры, растлумачылі партызанам задачы дадзенай аперацыі, якая павінна адбыцца за 4-5 км ад г. Ліды. Рушылі выконваць аперацыю. Зрабілі выведку, акружылі маёнтак, знялі вартавых, парэзалі сувязь, расставілі па пастах партызан, і пачалі граміць маёнтак, усё неабходнае для атрада пагрузілі на сані і вывезлі ў партызанскую зону. У гэтую ноч гітлераўцы ў Лідзе былі ахопленыя панікай, кінуўшы горад, фашысты сыйшлі на ўскраіну, думаючы, што да горада падыходзяць вялікія сілы партызан. Аб гэтым партызаны даведаліся ад сувязістаў-падпольшчыкаў" (Багатыроў).*

*"У ноч пад 25 гадавіну Чырвонай Арміі партызанскі атрад "Іскра" ў колькасці да 60 чалавек пад камандаваннем Аляксандра Коннава паспяхова правёў баявую аперацыю ў прадмесці Ліды на Расляках, напаўшы ў начны часна адкормачны пункт, дзе немцы адкормлівалі свіней для свайго войска. Выведнікі, якія пракраліся на тэрыторыю адкормачнага пункта адрэзалі сувязь з Лідскай залогай. Партызаны Феакцістаў, Сляткоў, Кісялеўскі знялі ахову, выставілі баявую ахову, рынуліся да адрын, раздаліся стрэлы - дабівалі рэшткі соннай аховы і рэзалі адкормленых свінняў. Запрэглі 10 нямецкіх коней у санную вупраж, нагрузілі да 50 галоваў адкормленых свіней і спакойна ўначы дабраліся да месца дыслакацыі на хутары Забалаць каля в. Пятры. На раніцу разгараліся вогнішчы, смалілі свіней, прыводзілі ў парадак свіныя тушы для патрэб і запасаў. Свежы шашлык з трафейнай свініны быў багатым агульным абедам у дзень 23 лютага" (Лазавы).*

## Прысяга

*"23 лютага 1943 г. на хутары Забалаць (Забалотня) партызанскі атрад быў поўнасцю сабраны і партызаны прынялі ўпершыню партызанскую прысягу. Прыехаў камандзір Ленінскай брыгады Хведар Сінічкін, зшыхтавалі ўвесь атрад. Зачыталі ўрачысты загад па партызанскай брыгадзе і атраду "Іскра", прыняцце партызанскай прысягі і прызначэннена пасады. Камандзір атрада - Коннаў, камісар -Дзеев, начштаба - Зямскоў, камандзір 1 роты Васільеў Мікалай, камандзір 2 роты - Дзямідаў, палітрук - Цімафееў, нач выведкі - Сляткоў, камандзір звяза коннай выведкі і сувязі - Феакцістаў, начпрад - Воўкаў, яго нам. - Цішчук Цімафей. Мяне прызначылі на пасаду нам камандзіра 2 роты" (Лазавы).*

Лернер сцвярджаў, што агульнае шыхтаванне партызані заснавнне атрада адбылося ў Дакудаве, куды па загадзе прадстаўніка Цэнтральнага штаба партызанскага руху Беларусі капітана Сінічкіна былі сабраныя партызаны групы, якой камандаваў лейтэнант Коннаў і групы, якой камандаваў мал. лейтэнант Дзямідаў. Да гэтага абедзве групы дзейнічалі паасобку.

Разам з Сінічкіным прыбыла група партызан з

атрада "Кастрычнік" пад камандаваннем капітана (ст палітрука) Георгія Бязлюдава ў складзе 30 чалавек. Група адмыслова была пасланая ў Лідскі раён для навучання партызан атрада "Іскра" дыверсійна- падрыўной працы. Іх размеркавалі па абедзвюх ротах. Бязлюдаў быў прызначаны начальнікам асобага аддзела.

Атраду "Іскра" быў вызначаны раён дзеянняў, куды ўваходзілі Лідскі, Іўеўскі, Дакудаўскі, Тракельскі раёны *(Ф.3500, оп.4 д.253. л. 57)*.

Праз 5 дзён, "28 лютага Цімафееў, Лапін, браты Гінзбургі, Нічыпараў, Дзёмушкін, Воўкаў і партызаны з групы Бязлюдава пусцілі пад адхон цягнік з бронемашынамі на пераездзе в. Дзяйліды -Суботнікі каля ст. Юрацішкі. 2 сакавіка Цімафееў, браты Гінзбургі, Лапін узялі праваднікa з хутароў Ціўновічы Іўеўскага раёна Мацецкага Яся і яго брата Браніслава і падарвалі цягнік з салдатамі, якія ехалі ў адпачынак з Усходняга фронту. Пры выбуху да 100 чалавек фашысцкіх салдат знайшлі сабе магілу каля раз'езду в. Шавелы і самой ст. Юрацішкі" *(Лазавы)*.

## Арганізацыя камсамольскай групы ў Дроздаве

*"Прыкладна ў лютым 1943 г. з дапамогай Генадзя Шута ў в. Дроздава была створана камсамольская арганізацыя. У яе ўвайшлі Марыя Быстрыцкая, Мікалай Дзікевіч, Зінаіда Кумпяк, Быстрыцкая Вольга. Кумпяк і Дзікевіч былі пасланыя ў гэтую групу з мэтай узбуйнення групы, прычым Дзікевичу было дадзена заданне ўступіць у нямецкую паліцыю пры ст. Мінойты або Ганчары, але потым гэтае рашэнне адмянілі. Група займалася антыфашысцкай прапагандай, вяла назіранне за колькасцю нямецкіх войскаў і іх перамяшчэннем, вяла назіранне за аховай чыгункі і выконвала іншыя заданні. Так, напрыклад Марыя Быстрыцкая павінна была паступіць на працу на вайсковы аэрадром у Лідзе, там мусіла стварыць групу з савецкіх грамадзян, якая павінна была займацца дыверсійна-падрыўны работай. Камандаванне ЧА з вялікай увагай сачыла за аэрадромам г. Ліды. У прыватнасці нам. кам. брыгады па выведцы В.Дзямідаў абавязаў мяне праз кожныя 3 сутак даваць звесткі аб стане аэрадрома, аб колькасці самалётаў, іх канструкцыі, месцы размяшчэння складоў са зброяй, а таксама аб будаўніцтве падманнага аэрадрома. Усе звесткі я атрымліваў і перадаваў па прызначэнні. У сілу неабходнасці адзін член падпольнай групы Аляксандр Саўгіро змушаны быў пакінуць аэрадром і перайсці ў атрад" (Сляткоў).*

## Жаночае свята 1943 г.

*"У гонар міжнароднага жаночага дня - 8 сакавіка 1943 года, па <u>іх</u> патрабаванні я арганізаваў групу дзяўчат- партызанак. Старшай групы была Бяйзарава Ніна, у ёй былі Громовіч Аня, Крыжаноўская Валя, Яроміна Ніна, Гінзбург Ніна, Марыя /прозвішча не памятаю/, для прыкрыцця пайшлі Васільеў, Дзямідаў, Зямскоў, Глухароў, мінёр Лазавы. Ад в. Пятры даехалі на фурманках да шашэйнай дарогі Ліда - Іўе. Высланая наперад выведка данесла: шлях вольны, як заўсёды выставілі ахоўванне налева і направа. Да лініі чыгункі падышлі - Бяйзарава Ніна, Грамовіч Аня і дасведчаны мінёр-падрыўнік Лазавы, які меў на сваім ліку некалькі падарваных варожых цягнікоў. Выбралі друз, усталявалі на месца ўзрывальнік, прымацавалі шнур і адышлі. Праз некаторы час з'явіўся варожы цягнік. Усе замерлі ў чаканні - ірванулі за шнур так энергічна, што трое паляцелі ў снег - Бяйзарава, Грамовіч, Крыжаноўская. Падрыў быў праведзены на адрэзку ст. Гаўя - Іўе ў 3 гадзіны 8 сакавіка 1943 г. Пабіта і пашкоджана 15 вагонаў з прадуктамі і вайсковымі грузамі" (Коннаў).*

*" 8 сакавіка 1943 г. усе партызаны нашага атрада ўзялі абавязальніцтва перад таварышамі ў гэтае міжнароднае жаночае свята падарваць варожы цягнік. Мяне прызначылі мінёрам, сярод жанчын Бяйзарава Ніна, Крыжаноўская Валянціна, Кісілеўская Стася, Ярэмава Ніна, Васільева Аня, Лупашчанка Маруся, Гордзіна Аня і група партызан: Зямскоў, Васільеў, Нічыпараў і інш." (Лазавы).*

Пра гэта ўспамінае Ніна Бяйзарава *(гл. "Уперад" ад 9.05.58 г.)*.

## Уцёкі ваеннапалонных у партызаны

*"Раней за ўсіх у сярэдзіне 1942 г. у <u>партызаны</u> з дэпо ўцёк ваеннапалонны Мікалай Думаў. Сваякі гаспадыні, дзе Думаў быў на кватэры, жылі ў вёсцы ў раёне дзеяння ПА імя Варашылава і праз сваю кватэрную гаспадыню ён звязаўся з партызанамі. Затым некалькі разоў прыходзіў у Ліду і спыняўся ў маёй кватэрнай гаспадыні Віннічак А.Я. Мы з ім мелі некаторае падабенства і таму ён па сваіх патрэбах выходзіў на двор і па розных справах увечар у маім абмундзіраванні. Мікалай Думаў даў месцы дыслакацыі партызанскіх атрадаў.*

*Былі адпраўленыя на сувязь Мікалай Фамін, Васіль Мардвінкін, Мядзведзеў і інш. Але пошукі поспехам не ўвянчаліся, партызан не знайшлі. Другі раз сустрэча адбылася з камандзірам брыгады імя Леніна капітанам Сінічкіным. Пасля была наладжаная сувязь і з атрадам "Іскра". У атрад сыходзілі дробнымі групамі па сваёй асабістай ініцыятыве. Ніякага Лідскага падпольнага цэнтра я не ведаў. Проста збіраліся давераныя таварышы, нікому нічога не гаворачы ўцякалі і траплялі ў розныя атрады, у розныя брыгады. Хто дзе каго сустрэў, да таго і далучаўся" (Кіян).*

## Усталяванне сувязі з падпольшчыкамі

*"Позняй восенню 1942 г (мабыць, у студзені 1943), мне давялося быць у выведцы ў г. Лідзе ў*

*палонных, якія працавалі ў немцаў пры чыгуначным дэпо і электрастанцыі, з заданнем абавязаць іх падарваць гэтыя камунікацыі. Даручэнне пайсці ў г. Лідуя атрымаў пасля таго, як ужо з'явіліся ў атрадзе палонныя, якія прыйшлі з Ліды. Маё заданне было перадаць пакет на імя Фаміна і Мардвінкіна з указаннем тэрміну правядзення працы па падрыве дэпо і электрастанцыі. У інтэрнаце я прабыў нядоўга, хвілін пяць, і вярнуўся да свайго каня запрэжанага ў сані і накіраваўся за горад у кірунку Дакудава, тады атрад знаходзіўся на хутары Порослі. Апрануты быў пад мясцовага вясковага хлопца, узброены быў пісталетам. Я ведаў Ліду, бо ўжо бываў раней з продажам дроў у перыяд пражывання ў сялянкі на хутары Порослі. Выязджаючы на заданне, быў праінструктаваны па размяшчэнні месца інтэрната, інтэрнат не ахоўвалася, астатняя пільнасць залежала ад самога сябе. Заданне выканана паспяхова, завязалася сувязь, прызначаны адказны Фамін Мікалай Якаўлевіч, дадзена заданне падарваць дэпо і электрастанцыю і ахвочым палонным выйсці да партызанаў на хутары Порослі" (Рэпнікаў А.)*

*"Сістэматычная дыверсійная праца ў Лідзе і асабліва на Лідскім чыгуначным вузле пачалася толькі з таго часу, калі мы звязаліся з партызанскімі атрадамі. Да гэтага часу розныя дыверсійныя акты былі часам зусім нявіннага або выпадковага характару. Толькі з лютага 1943 г. пачалася арганізаваная праца пад кіраўніцтвам партызанскіх атрадаў" (Сасноўскі).*

*"На сувязь з падпольшчыкамі ў Ліду пасылалі Шута Сцяпана, Ярашэвіч Веру, Кучынскую Веру, Жукава Пятра. З актыўных сувязных былі: Быстрыцкі з в. Моцевичы, Шут Сцяпан, Шут Сяргей, Курыла Мікалай" (Курилов Ф.)*

## Бой пад Покасцю

*"13 сакавіка дзякуючы Граблис Алене партызанскі атрад не быў акружаны ў в. Покасць. У баі пад Покасцю, калі немцы і паліцыя наляцелі на атрад, і атрад змушана адышоў, кулямётчык Кудлаў і яго чатыры партызаны завязалі бой. Застаўшыся на месцы для забеспячэння адыходу, яны трапным агнём улажылілі двух і некалькіх ранілі, пасля чаго змусілі да ўцёкаў вялікую групу немцаў і паліцыі". (Коннаў, Цімафееў.)*

## Падрыў электрастанцыі

У ноч на 14 сакавіка 1943 г. Роберт Сасноўскі і Паўлаў падарвалі электрастанцыю на чыгуначнай станцыі. Падрабязнасці гэтай аперацыі апісаныя ў кнізе Смірнова і Ампілава "У маленькім горадзе Лідзе...". Кніга ў перакладзе на беларускую мову публікавалася ў "Лідскім летапісцы" ў 1997-98 гадах.

*"Акт ад 14 сакавіка 1943 г.*

*У 2 гадзіны 30 хвілін па мясцовым часе была падарваная двума пакетамі толу (12 кг) чыгуначная электрастанцыя ў г. Лідзе. У выніку выбуху 2 машыны ўзляцелі ў паветра, а трэцяя выведзеная з ладу, акрамя таго, ўзнік вялікі пажар і ўсё, што знаходзілася ў дадзеным памяшканні, згарэла. Для выканання гэтай аперацыі быў пасланы партызан Жукаў Пётр Васільевіч, які прыцягнуў групу ваеннапалонных, што працавалі на гэтай электрастанцыі. Усю падрыхтоўчую працу, дастаўку матэрыялаў, інструктаж правёдзіў камісар Дзееў А.І., начальнік штаба Зямскоў Х.У. з атрада "Іскра", камандзір (камісар) атрада "Кастрычнік" Бязлюдаў Г.І.*

*Непасрэдна ўдзельнічалі з групы ваеннапалонных: Сасноўскі Р.Ю., Паўлаў С.П. Саўчанка Ў.П., Багмут А. А, Тэртычны К.М.*

*Камандзір атрада "Іскра" Коннаў.*
*Камісар Дзееў.*
*Дакладна: нач. штаба Зямскоў."*

Пасля падрыву электрастанцыі, у 23 гадзіны 13 сакавіка 1943 г. 60 чалавек ваеннапалонных з 72 якія працавалі ў дэпо уцяклі да партызанаў, у атрад "Іскра" прыйшлі 14-18 чал. Разам з Сасноўскім у атрад "Іскра" прыйшлі 12 (15) чалавек: Бахмутаў, Дабралежа, Туруткін, Рексцін, Мардвінкін, Паўлаў.

**20.03.43 г.** Кудлаў Уладзімір, Курыла Хведар, Селіванаў, Арлюк, Тыгр, Белозеров, Лучко, Кісілеўскі, Кудзі Саша, Кудзі Жэня падарвалі цягнік у раёне чыг. станцыі Агароднікі каля Нёмана *(Лазавы)*.

**30.03.43 г.** Лазавы, Лупашчанка, Дзёмушкін, Нічыпараў, Дудараў, Жук Яўген (пазней аказаўся здраднікам і быў расстраляны) і інш. падарвалі цягнік паміж ст. Ліда - Жырмуны *(Лазавы)*.

## Паліцыянты ідуць у партызаны

*"У сакавіку 1943 г. у атрад прышлі 4 чалавекі. Яны мелі праз нашых сувязных з намі сувязь, ахоўвалі мост на чыгунцы каля станцыі Гутна, але іх хацелі перакінуць на іншае месца. Не губляючы часу, забілі 2-х немцаў, забралі зброю і боепрыпасы, узялі аднаго немца з сабой, нагрузілі яго боепрыпасамі і ў якасці насільшчыка прывялі ў в. Граблі (Пруткі), мясцовае насельніцтва паведаміла Лазавому і Нікіфараву, якія вярталіся з задання, што ў гэтай хаце немцы, але гавораць па-руску. З прыбылымі партызанамі акружылі хату, увайшлі і загадалі здаць зброю. Людзям у нямецкай форме гэта і было трэба: як высвятлілася, яны ішлі да нас. Гэта былі: Гаўрыленка Павел, Алейнік Рыгор, Мядзведзеў Міхась і яшчэ адзін, а пяты быў немец - "насільшчык". Хлопцаў прывялі ў атрад, ваявалі яны добра" (Коннаў).*

Гаўрыленка быў улюбёнцам атрада, адкупляў віну перад Радзімай і таварышамі. Пасля злучэння з Чырвонай Арміяй былыя паліцыянты былі накіраваныя ў знішчальны батальён, там Гаўрыленка і Алейнік загінулі.

## Красавіцкія выбухі

*“**10.04.43 г**. Лазавы, Курылаў, Сярожа (жыхар в. Анацкі -загінуў), Кушаль Валодзя падарвалі чыг. мост паміж ст. Ліда-Агароднікі ў раёне цагельні ў самім горадзе Лідзе”* (*Лазавы*).

*“10 красавіка 1943 г. партызанская група атрада “Іскра” у колькасці 60 чалавек выйшла на заданне на чыгунку Ліда -Маладзечна, паміж Іўем і Суботнікамі. Пераадолеўшы адлегласць 60 км, не даязджаючы пераезду, спыніліся ў ляску, выслалі наперад выведку, якая праз некаторы час вярнулася і далажыла: усё ў парадку, назіральнікі выстаўленыя, можна дзейнічаць. Пакінулі каля фурманак ездавых, рушылі да чыгункі: наперадзе за некалькі метраў выведка, за ёй неслі на плашч-палатках 2 па 100 кг кожная авіябомбы, па баках рухаліся групы ахоўвання, ззаду група прыкрыцця і яна ж падчас аперацый павінна быць атакуючай. Групу ахоўвання з боку ст. Гаўя ўзначальваў сяржант Васільеў Мікалай. Групу ахоўвання са боку станцыі Юрацішкі узначальваў мал. л-нт Дзямідаў Валянцін. Першая група мінёраў - Яншын Пётр, Лазавы Сільвестр і Дзёмушкін Мікалай, другая група мінёраў - Белазёраў Максім, Глухароў Аляксей і Нічыпараў Міхась.*

*Першую па руху цягніка на шнур /вуду/, другую на шомпал. Адлегласць паміж бомбамі 50-60 метраў, Толькі замініравалі, як пачулі шум ідучага цягніка на ўсход. Міна пастаўленая на шомпал не спрацавала, цягнік дайшоў сярэдзінай да бомбы пастаўленай на шнур /вуда/, рывок - другая не падвяла: бліснула маланка і стукнуў гром, у паветра паляцелі кавалкі шпал і дошак ад вагонаў. Адразу ж група Дземідава адкрыла агонь па паравозе, а група Васільева Колі - па заднім вагоне, дзе звычайна знаходзілася ахова. А затым пайшлі ў атаку групы аховы з флангаў, а атакуючая група каля 40 чалавек прама на цягнік, уся ахова цягніка была знішчаная, не паспела аказаць супраціву. Цягнік складаўся ў большасці з леднікоў, калі іх адчынілі, то там апынуліся тушы свініны, ялавічыны, цукар і іншыя прадукты, неадкладна была арганізаваная пагрузка на фурманкі, паведамілі ў блізкія вёскі, каб хутчэй бралі, што жадаюць з прадуктаў і хавалі, нагрузілі ў абоз і адправілі, а пакінутыя прадукты разам з вагонамі падпалілі. Так партызаны “Іскры” забяспечылі сябе прадуктамі большчым на 2 м-цы”. (Коннаў А.)*

*“Красавік 1943 г. Немцы асабліва ўзмацнілі ахову чыгунак. Засады, патруляванне - усё гэта абцяжарвала дыверсіі на чыгунках, а гэта была асноўная праца атрада. Я узяў з сабой групу 12 чал. і выйшаў на чыгунку Ліда-Маладзечна ў кірунку ст. Гаўя. Першая спроба аказалася няўдалай, калі мінёр-падрыўнік Яншын Пётр пачаў закладваць пакет, нас абстралялі з засады, пад нашым агнём Яншын паспяхова зняў пакет і мы адышлі, на наступны дзень мы падышлі да чыгункі метраў на 800 і арганізавалі дбайнае назіранне за ўсім, што адбывалася на чыгунцы. З наступленнем цемры наблізіліся да чыгункі., выслаўшы левае і правае ахоўванне. Затым прыступілі да міравання, скончылася ўсё добра, ахоўванне і мы адышлі і вось тут убачылі ідучы ў кірунку лініі парны патруль і ў гэты ж час пачулі гук ідучага цягніка, немцы нічога не заўважылі, прайшлі. Вось і варожы цягнік, які ідзе на ўсход, уся ўвага на чыгунку, рывок шнура і гэтыя 3-5 секунд здаюцца гадзінамі, нарэшце грукат выбухуі полымя, скрыгат і грукат працягваецца, калі мы ўжо адышлі ад месца выбуху км на 2, толькі тады адкрылі стралянину ў цёмную ноч фашысты, а мы рухаліся да свайго атрада ў в. Альхоўка. Выведка далажыла, у выніку выбуху разбіты паравоз і 6 вагонаў, 4 пашкоджана і сыйшлі з рэйкаў. Цягнік ішоў да лініі фронту з баявой тэхнікай і боепрыпасамі”. (Коннаў А.).*

## Падпал фанернай фабрыкі на ст. Сялец

*“У красавіку 1943 г. кіраўніцтвам атрада наш звяз у колькасці 20 чалавек быў накіраваны да фанернай фабрыкі і складу, якія знаходзіліся на ст. Нёман пад аховай фашыстаў. Перад намі стаяла задача: зрабіць выведку, высвятліць, як ахоўваецца фанерная фабрыка і склад і знішчыць іх, зрабіўшы падпал. Старшым групы быў прызначаны Пётр Сляткоў. Партызаны: парторг Багатыроў Н., камандзір звязу Васільеў Н., Лазавы С., Хіжняк П., Гінсберг, Карых С., Лернер У., Шубін У., Паніч А. і Кудлаў. Была зробленая выведка, пасля чаго асцярожна падкраўшыся, акружылі аб’екты, перарэзалі тэлефонную і тэлеграфную сувязь і пракраліся ўнутр фабрыкі і ў склад. Асцярожна знялі вартавых, падпалілі склад і фабрыку з усіх бакоў. Полымя пажару асвятліла ўсё неба, і было відаць далёка вакол. Фашыстаў заспелі знянацку, яны не маглі зразумець - як гэта магло здарыцца, стралялі ўсю ноч па нябачных партызанах, якія паспелі адысці ў прызначанае месца. Там нас ужо чакала кіраўніцтва атрада. Старшы групы Слятков далажыў аб выкананні баявога задання. Кіраўніцтва атрада абвясціла падзяку ўсёй групе. На другі дзень быў пасланы сувязіст, які ўстанавіў страту спаленай фабрыкі. Яна складала 20 млн. руб., на што быў складзены дыверсійны акт, падпісаны кіраўніцтвам партызанскага атрада” (Багатыроў).*

## Выведніцы

*“Я хадзіла ў выведку з Аленай Усінаўнай .Граблі. Першы раз у канцы красавіка 1943 г. нас паслалі даведацца аб прыбыцці войскаў СС, і куды яны трымаюць кірунак. Прыбыўшы ў г. Ліду мы зайшлі да маёй маці, якая нам сказала, што з раніцы частка з гэтых войскаў прайшла ў бок Баранавіч. У іх ліку 5 танкаў і 8 бронетранспарцёраў, прыкладна 300 немцаў. Для таго, каб высвятліць неўзаметку якія войскі пойдуць па шашы на Іўе, маці параіла нам пайсці раскідваць гной на агародзе каля гэтай шашы, што*

*мы і зрабілі. Разам танкаў і бронетранспарцёраў налічылі 8 штук, 3 гарматы і каля 200 немцаў. Пасля чаго мы адразу рушылі ў атрад "Ікра", які стаяў на хутары каля в. Пятры. Па дарозе мы таксама даведаліся, што дадзеная калона рухаецца на в. Анацкі, што намі і было паведамлена ў атрад. Пасля гэтага атрад адышоў за р. Нёман, пакінуўшы толькі засаду.*

*Другі раз нас паслалі ў Ліду ў пачатку траўня 1943 г. на яўку да маёй сястры Васілеўскай А.І., якая жыла каля турмы па вул. Сыракомлі. Па заданні партызан, у той час працаваў у Лідзе паліцыянт Кудзі Яўген з в. Дакудава, які праз мяне часта перадаваў каштоўныя звесткі для партызан. Кожны месяц мне прыходзілася яго ўначы прывозіць у атрад, дзе ён сустракаўся толькі з Зямцовым і камісарам брыгады Дзеевым. Астатнія партызаны не павінны былі ведаць, што ён працуе на партызан.*

*Яўгена Кудзі ў чымсьці западозрыў паліцэйскі-"шкурнік", ён баяўся правалу, таму прасіў або прыбраць паліцая-шкурніка або дазволіць яму пайсці ў атрад.*

*Прозвішча гэтага паліцая не памятаю, але ведаю, што ён паляк па-нацыянальнасці, яго сям'я была рэпрэсаваная і высланая ў Сібір, а ён па дарозе збег з цягніка. Яго імя было Антак або Алік, сапраўды не памятаю. З прыходам немцаў ён уступіў у паліцыю і помсціў усім, хто спагадаў рускім.*

*Я гэтак жа мела яўку ў хірурга Бярылы (Бірылы), які працаваў у лякарні і забяспечваў партызан неабходнымі медыкаментамі. Для выканання дадзенага задання доктар Бярыла даў мне парашок.*

*Не даходзячы да кватэры сястры, сустрэла Кудзі Яўгена і дала знаць, каб ён прывёў здрадніка на кватэру да сястры. Калі Кудзі Я. і здраднік-паліцыянт прышлі на "гулянку да дзяўчынак" і трохі выпілі самагонкі, я дала знць, каб Кудзі Я. вывеў пад добрапрыстойнай падставай здрадніка ненадоўга з кватэры. У гэты час я падсыпала парашок у шклянку паліцая. Пасля таго, як здраднік-паліцай выпіў гэтую шклянку з гарэлкай, то праз некаторы час заспяшаўся на дзяжурства ў турму.*

*Начаваць мы засталіся ў сястры. Пад раніцу Яўген прыйшоў на кватэру і паведаміў, што паліцыянта ўначы паралізавала, а раніцай ён сканаў" (Пятроўская В.І.).*

*"Увесну 1943 г. у в. Сяглы, дзе размяшчаўся першы партызанскі пост ад Ліды, у хаце гр. Сяглы я затрымала шпіёна. Было гэта так: седзячы ля акна я ўбачыла, як міма хат прайшоў нейкі незнаёмы чалавек. Калі я папрасіла каменданта Дубаграя яго затрымаць, ён не зрабіў гэтага. Тады я выйшла на ганак з аўтаматам, які ўзяла ў яго, і затрымала гэтага чалавека. На ім была простая вясковая адзежа, але калі я яе зняла, пад ёй аказалася нямецкая форма. Яго, я, нікому не давяраючы, з дапамогай двух аўтаматчыкаў даставіла ў штаб атрада "Іскра". Што з ім зрабілі - не ведаю. Камандзір брыгады Васільеў вынес мне падзяку" (Віннічак В.Я.).*

## Гібель Васіля Лапіна

*"З в. Альхоўка, дзе стаяў атрад, мы выйшлі на выкананне баявога задання па падрыву чыгуначных цягнікоў.*

*21 красавіка 1943 г. ля в. Бурносы мы разбіліся на дзве групы: адну ўзначаліў Рыгор Цімафееў, які пайшоў пад Шчучын, другую групу ў колькасці 8 байцоў узначаліў я. З в. Пятры пайшлі на ўсход, у раён чыг. станцыі Юрацішкі да в. Урцішкі. Мы перасеклі гасцінец і дасягнулі вёскі, паглыбіліся ў лес бліжэй да чыгункі, і вось пераезд Дайліды -Суботнікі. Пакінуўшы 6 байцоў ззадусябе, мы з Васілём Лапіным пайшлі ў выведку - пераканацца ці няма блізка ад пераезду засады. Не дайшлі да пераезду метраў 30, як раптам успыхнулі ракеты, а ўслед пасыпаўся шквальны агонь з кулямётаў і аўтаматаў, паразіўшых на смерць Лапіна. Я быў цяжка паранены - трыма кулямі разбіла лапатку перадплечча левай рукі і закранула правы край лёгкіх. У гэты час я знясілеў, сам забраць труп Лапіна пад моцным агнём супраціўніка не змог. Калі я падаў у мяне выпаў з рук аўтамат, ён ляжаў метраў за 5-8 ад мяне. Калі я пачаў паўзці, каб забраць зброю, немцы ўзмацнілі агонь па мне, адразаючы шлях да баявой зброі. Метраў за 5-6 ляжаў забіты варожым агнём У. Лапін, астатнія байцы разгубіліся і ўрассыпную адышлі, кінуўшы мяне і Лапіна на самаўпраўнасць лёсу. Я прыкінуўся забітым і не падаваў прыкмет жыцця. Узвілася чарговая серыя ракет, фрыцы пераканаліся ў тым, што мы забітыя, падышлі і забралі труп Лапина і вярталіся ізноў, каб забраць мой труп. Левае рука ў мяне поўнасцю адмовіла - я не мог перазарадзіць свой пісталет ТТ, сціснуўшы зубы з дапамогай правай я перазарадзіў пісталет і калі немцы падышлі да мяне ўшчыльную я разрадзіў свой пісталет ва ўпор і забіў двух фрыцаў. Скарыстаўшыся тым, што немцы не адкрывалі агонь, я ўскочыў у кювет і пачаў адпаўзаць пад полагам ночы і лесу. Мне ўдалося выслізнуць ад ворага, дабраўся да в. Урцішкі, дзе мне аказалі першую дапамогу Кудзі Уладзімір Сільвестравіч і Каравай Іван Канстанцінавіч. На другі дзень Кудзі У.С. перавёз мяне на возе за 30 км, рызыкуючы не толькі сваім жыццём, але жыццём сваёй сям'і. Прывёз мяне цяжкапараненага ў в. Бурносы і здаў камісару атрада Цімафееву. Лекар атрада тав. Гордзін аказаў мне медыцынскую дапамогу і быў маім лекарам да поўнага акрыяння. Цяжка хворым я быў 2 месяцы.*

*Труп Васіля Лапіна немцы даставілі ў в. Вігушкі, дзе яны размяшчаліся ў школе, і пахавалі на тэрыторыі школьнага двара. Баявы быў таварыш, кулямётчык, хадзіў некалькі раз на выкананне баявых аперацый па падрыву цягнікоў". (Лазавы).*

Група Цімафеева ў ноч на 24 красавіка 1943 г. падарвала цягнік паміж станцыямі Шчучын - Ліда, які ішоў на ўсходні фронт з жывой сілай і боепрыпасамі.

# Расстрэльныя лёсы беларусаў

Іншы раз і бяссонніца бывае рэч карысная.. Неяк у адну такую ноч пачаў лістаць трапіўшую мне ў рукі дакументальную кнігу Л. Маракова "Ахвяры і карнікі". Перагортваючы старонку за старонкай, на памяць прыйшло пытанне: ці не знайду я тут імя свайго крэўнага, што ў канцы 20-х ці пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя, шукаючы паратунку ад праследу польскіх уладаў, уцёк у Савецкі Саюз, пасля недзе бясследна знік? Як вядома, у той час у СССР ішло "паляванне" на рознага роду шпіёнаў, дыверсантаў, здраднікаў Радзімы ды іншых "ворагаў народа" і злоўмыснікаў.

Аб падзеях таго часу ў прэзідэнцкім архіве Расійскай Федэрацыі захоўваецца шмат дакументаў, у тым ліку, "Списки лиц, подлежащих суду военной коллегии Верховного Суда СССР", датаваныя 7 верасня 1937 года і падпісанныя І. Сталіным, В. Молатавым, Л. Кагановічам, К. Варашылавым, І.М. Яжовым, а таксама ад 15 верасня 1937 года, падпісанныя І. Сталіным, В. Молатавым і начальнікам 8-га аддзела ГУДБ СССР старшым маёрам (армейскае званне генерал) дзярж-бяспекі У. Цасарскім. У іх налічвалася тысячы жыхароў Беларусі, якія падлягалі гэтаму суду, а прасцей – знішчэнню. Па першаму спісу ва ўнутраннай турме НКВД у Менску было расстраляна 103 чалавекі. У другім – іх многія тысячы. Расстрэльная машына працавала бездакорна, нават без выхадных. У нядзелю 20 лютага 1938 года было расстраляна 141 асоба. Калі канвеер карнікаў працаваў круглыя суткі без перапынку, то кожныя 10 хвілін развітваўся з жыццём 1 чалавек! Менавіта ў другім спісе я і знайшоў свайго сваяка.

Гаворка тут ідзе пра дваюраднага брата маёй маці, былога жыхара вёскі Сялец Лідскага раёна, Шэшку Іосіфа Сільвестравіча. На старонцы 156 кнігі запіс: "Шашко Юсіф Сільвестравіч (1902), навуковец, аграном, педагог. Арыштаваны 28.8.37. Асуджаны 20.10.37." Расстраляны ва ўнутраннай турме НКВД БССР 10 лістапада 1937 года.

Некаторая недакладнасць у напісанні прозвішча ***Шашко*** замест ***Шэшка*** - вынік недаклатнага перакладу з беларускай мовы на рускую ці наадварот.

Да арышту ён працаваў выкладчыкам Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, меў навуковую ступень кандыдата сельгаснавук. Яго абвінавацілі ва ўдзеле ў нейкай антыдзяржаўнай арганізацыі – "Саюзе вызвалення Беларусі"*, які, быццам, дзейнічаў у Горацкай сельгасакадэміі. За гэта ж адбываў турэмнае пакаранне вядомы беларускі вучоны, акадэмік, Г.І. Гарэцкі **.

У той дзень 10 лістапада былі расстраляны 16 чалавек: 9 калгаснікаў, 2 навукоўцы, 1 рабочы. 1 рабочы дзяржслужбы, 1 аднаасобнік і два чалавекі невядомай прафесіі і роду занятку.

Такі ж лёс ледзь не напаткаў і яшчэ аднаго сваяка – роднага брата маёй маці, а майго дзядзьку - Шэшку Юльяна Якаўлевіча. Польскія ўлады прысудзілі яго да пакарання смерцю. Але здзейсніўся цуд – зняволены ўцёк з-пад варты і таксама пабег, як мага, у СССР. А там яго толькі і чакалі: за каўнер і, як польскага шпіёна, пагналі ў канцлагер ГУЛАГу ў Іркуцкай вобласці ў Сібіры. Але і там уцёк. Ледзь прытомнага знайшлі яго ў тайзе мясцовыя жыхары. Не выдалі, адагрэлі. Прытулілі і пачалі жыць усе разам. Шмат гадоў пражыў пад чужым прозвішчам. І толькі пасля вайны стаў, як сёння кажуць, "лігітымным" грамадзянінам Расіі.

Зараз жыве там ягоная другая сям'я – сын і дачка. Адна дачка памерла, адна жыве ў горадзе Краснадары. З імі ў мяне наладзіліся добрыя і ўстойлівыя сувязі: абмен лістамі, тэлеграмамі, тэлефоннымі перамовамі.

Усё б нішто, каб злы лёс, бы той Дамоклаў меч, не працягваў вісець над галовамі гэтай сям'і і ўсяго роду.

У чэрвені 1941 года пачалася Вялікая Айчынная вайна. У Сялец прыйшлі нямецка-фашысцкія захопнікі. Па нечым брудным даносе арыштавалі бацьку Іосіфа – Шэшку Сільвестра. І 23 ліпеня 1941 года разам з іншымі аднавяскоўцамі расстралялі.

Здаецца неверагодным, каб такое магло здарыцца. Ён жа быў усяго толькі калгаснікам нядаўна створаннага калгаса. Працаваў калгасным пастухом, меў старэчы ўзрост, дрэнна бачыў (на адно вока быў сляпы). Не быў ні камуністам ні іх прыхільнікам. Хутчэй наадварот.***

Навісла пагроза жыццю і малодшага сына Сільвестра – Канстанціна. Напярэдадні вайны ён толькі што скончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя (тады гэтая навучальная ўстанова насіла такое імя). А да гэтага вучыўся разам з былым міністрам асветы БССР М. Г. Мінкевічам у беларускай гімназіі ў Вільні. У той час гэта быў адзіны жыхар у Сяльцы і ў наваколлі, які меў вышэйшую адукацыю. Сярод аднавяскоўцаў і сялян навакольных вёсак карыстаўся надзвычайнай павагай. Мо гэта і дапамагло ў крытычную хвіліну застацца жывым.

"Паляванне" на яго адкрылі партызаны польскай Арміі Краёвай. У дзень Вялікадня 1944 года, калі былі арыштаваны і расстраляны акаўцамі шмат маладых хлопцаў з вёскі Сялец і з іншых, яму цудам удалося схавацца і перажыць час акупацыі далёка ад роднага дому. А калі вярнуўся дадому пасля вызвалення, стаў вельмі "жаданым суразмоўцам" НКВД.

У асабістых гутарках шмат хто з маіх апанентаў, як з боку пракамуністычнай арыентацыі, так і прыхільнікаў АК (апошнія асабліва агрэсіўна), кажуць: не трэба варушыць мінулае. Усё прайшло і пра яго пара забыцца. Маўляў, гісторыя не паўтараецца. А ці так гэта насамрэч? Напрыклад, Марк Твэн некалі казаў: у свеце няма нічога такога, што не магло б здарыцца. Уся сама гісторыя, як сукупнасць падзей мінуўшчыны, паўтарыцца, натуральна, не можа, але асобныя падзеі і здарэнні ў змененым стане ў залежнасці ад часу паўтараюцца ў не менш жудасным выглядзе, прыкладаў таму мноства.

Ці не была паўторам "Крышталёвая ноч" у фашысцкай Германіі 4 лістапада 1938 года, калі гітлераўцы ўчынілі па ўсёй краіне пагром яўрэяў, "Варфаламееўскай ночы" 24 жніўня 1572 года ў Францыі, у час якой каталікі і пратэстанты вынішчалі адзін другога, і стаўшая імем намінальным?

Ці не паўтарыў Гітлер у XX стагоддзі "досвед" уладароў Венецыянскай Рэспублікі (зараз – Італія) XIУ-XУ стагоддзяў, ствараючы жудасныя гета? Назва "гета" мае італьянскае паходжанне і ўпершыню яно было створана ў Венецыі.

Ці не паўтарылі сваімі дзеяннямі гісторыю інквізіцыі Гітлер са Сталіным: першы вынішчаючы камуністаў і іх ідэялогію, другі, адпаведна, - антыкамуністаў? Па размаху сваіх дзеянняў яны кожны паасобку пераўзышлі вядомага іспанскага інквізітара Таркседаду, які за 17 гадоў знішчыў 111511 ерэтыкоў. Гітлер і Сталін кожны паасобку загубілі мільёны душ!

Не! Памятаць пра мінуўшчыну трэба. Мала таго, праз увесь час трэба нагадваць аб ёй сваім нашчадкам. Бо мінуўшчына – базіс, фундамент будучыні. А я вельмі б не хацеў, каб нашы нашчадкі і цэлыя пакаленні жылі ў сваім новым доме ці, нават, хатцы, пабудаваных на падмурку, прасякнутым крывёю продкаў, каб ніколі нічога падобнага, не магло б паўтарыцца.

Тэрор улады мае і іншы бок. Ён небяспечны яшчэ і тым, што вынішчае лепшую, больш актыўную і дзеяздольную частку нацыі. Каб яе адрадзіць, спатрэбіцца шмат часу. Апроч таго, гэта наносіць грамадству непапраўную маральна-псіхалагічную шкоду. Ці не таму мы сёння такія інертныя?

**Заўвага.**

Аб дзікунстве працы энкэвэдзісцкага чалавека-губчага канвеера сведчыць наступнае. Працавалі сталінскія чэкісты мэтанакіраванаі руплiва. Толькі з 19 жніўня па 30 снежня 1937 года ў перыяд "крывавага тунэля" ва ўнутраннай турме НКВД у Менску было забіта (расстраляна) 2196 чалавек. Або кожны дзень расстрэльвалі па 16-17 асобаў!

Нават выхадныя і святы для іх былі "рабочымі днямі". Так. 7 лістапада 1938 года і 8 лістапада 1937 года, у дзень гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі расстралялі 3 асуджаных (конюха, шаўца, аднаасобніка)! У дзень свята жанчын 8 сакавіка 1938 года расстралялі 5 жанчын (3 калгасніцы, 1 дамашнюю гаспадыню, 1 аднаасобніцу)!

Усё гэта рабілася пад злавесным грыфам "за" Сталіна і яго падручных. Аб гэтым яскрава сведчаць дакументы. А нам усё яшчэ да сённяшняга часу ўсяляюць, маўляў, "ён нічога не ведаў, што рабілася па-за Крамлём". Ведаў, даваў на гэта дазвол!

***Анатоль Кулеш.***

---

* **«САЮЗ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ»** («СВБ»), справа у 1930 ДПУ БССР супраць бел. нац. інтэлігенцыі, якая абвінавачвалася ў *нацыянал-дэмакр-тызме,* контррэвалюцыйнай і антысав. дзейнасці; першы масавы паліт. пазасудовы працэс у БССР. Вясной—летам 1930 было арыштавана 108 дзеячаў навукі і культуры Беларусі, у тл. 25 былых членаў партыі бел. эсэраў: акадэмікі Бел. АН В.Ю. Ластоўскі, Я.Ю. Лёсік, С.М. Некрашэвіч, праф. А.А. Смоліч, наркамы земляробства (Цз.Ф.Прышчэпаў) і асветы (А.В. Баліцкі), пісьменнікі М.Гарэцкі, УДубоўка, Я.Пушча і інш. Кіраўніком арг-цыі «СВБ» быў «прызначаны» ДПУ БССР Ластоўскі, у складзе кіраўніцтва «ўведзены» І.І.Краскоўскі, Я.Купала, Лёсік, Некрашэвіч, Смоліч, АЛ.Цвікевіч і інш. Паводле пастановы калегіі АДПУ СССР ад 18.3.1931 Прышчэпаў, Баліцкі, нам. наркамзема А.Ф. Адамовіч і П.В.Ільючонак, справа якіх, як камуністаў у снеж. 1930 была выдзелена ў асобную, прыгавораны да 10 гадоў канцлагераў. Астатнія 86 чал. пастановай калегіі АДПУ ад 10.4.1931 асуджаны на розныя тэрміны зняволення: 8 чал. (Я.І. Бядрыцкі, П.Я. Жаўрыд, М.І.Каспяровіч, І.І.Цвікевіч і інш.) на 5 гадоў, П.М.Біндзюк — на 3 гады *папраўча-працоўных лагераў,* астатнія — на 5 гадоў высылкі ў аддаленыя раёны Сав. Саюза. А. Гурло быў асуджаны на 5 гадоў высылкі ўмоўна. Усе арыштаваныя абвінавачваліся ў тым, што «з'яўляліся членамі контррэвалюцыйнай нацыяна-лістычнай арганізацыі «Саюз адраджэння Беларусі» («САБ»), у далейшым перайменаванай у «Саюз вызвалення Беларусі» («СВБ»)... Па ўзгадненні з Палітбюро ЦК ВКП(б) і АДПУ СССР рыхтаваўся адкрыты судовы працэс па справе «СВБ», аналагічны таму, які быў праведзены ў 1930 над укр. нац. інтэлігенцыяй па т.зв. справе «Спілка вызволення Украіны». Але ў ходзе яго падрыхтоўкі выявілася, што на папярэднім следстве ўдалося прымусіць прызнаць сваю «віну» толькі 25 чал. Больш за 40 чал. адмові-ліся ад усякіх абвінавачанняў, а каля 20 чал. прызналіся часткова.

Усе, хто праходзіў па справе «СВБ» і выжыў пасля першага працэсу, зноў арыштаваны ў 1937—41 за ранейшыя «злачынствы», большасць з іх расстраляны ці загінулі ў канцлагерах.

** **Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія** трапіла пад рэпрэсіі разам з іншымі ВНУ краіны. Сярод арыштаваных урозныя гады:

**Выкладчыкі:**

Яўген Аляксееў (прафесар), Максім Гарэцкі (загадчык кафедры), Гаўрыла Гарэцкі, Сцяпан Журык (прафесар), Сцяпан Мельнік, Паўліна Мядзёлка (працавалі у 1920-я г.),

Веніямін Аксельрод, Іван Антонаў (дацэнт), Аляксандр Анцыповіч, Анастасія Апалько, Якаў Афанасьеў (прафесар), Аляксей Башкевіч, Аўгуст Берзін (дацэнт), Піліп Вашчавоз, Савелій Гарбачоў, Юры Гаўрук, Віктар Горскі, Канстанцін Загорскі, Фёдар Курынны, Карл Лебярэхт, Леанід Малякоў (прафесар), Ісак Марэк, Рыгор Мінаеў, Яўген Мячынскі, Карл Петэрсон (дацэнт), Барыс Саноцкі, Іван Старасоцкі, Сяргей Фамін, **Іосіф Шашко**, Андрэй Шліпенбах (у 1930-я г.), Мікалай Байер (у 1940-я г.).

**Студэнты:**

Міхаіл Ганчарык - вучыўся да 1924,

Мікалай Галадзед - вучыўся, верагодна, у пачатку 1920-х г.,

Іван Тачыцкі - скончыў вучобу ў 1925,

Уладзімір Бабраўніцкі - вучыўся з 1925 да 1929,

Васіль Каваль, Сцяпан Піліпчык - вуч-ся ў 1920-я г.,

Іван Маўчанаў - вучыўся ў канцы 1920-х - пачатку 1930-х г. (?),

Лэйзар Брангітэйн (Бранштэйн?), Уладзімір Валасенка, Рыгор Вішнякоў, Пётр Гашпар, Дзмітрый Громаў, Ніна Груша, Аляксандр Грыцкоў, Іван Закурдаеў, Пётр Кротаў, Міхаіл Лапіцкі, Сямён Левітан, Віктар Мальцаў, браты Валянцін і Міхаіл Некрашэвічы, Гершон Палей, Марыя Прэс, Мікалай Пятроў, Мікалай Раманаў, Мікалай Савіцкі, Давыд Шапіра - вучыліся ў 1930-я г.,

Яўген Гурскі - вучыўся да 1950 г.

*** **Шэшка Сільвестр Іванавіч** (1873 г.н., в. Сялец). Удзельнік Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Супрацоўнічаў з рэдакцыяй заходне-беларускага часопіса "Шлях моладзі" (выдаваўся ў 1929-39 гг.).

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ







**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя”, г. Менск, выйшла 2-гая кніга 2-га тома кнігі Яўхіма Карскага “Белорусы”, 512 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**

**У выдавецтве Інстытута беларусістыкі, г. Вільня, выйшла кніга Яна Станкевіча “Язык і языкаведа”. Выданне другое папраўленае і дапоўненае. 1214 ст.**



**У выдавецтве “Медысонт”, г. Менск, выйшла кніга Андрэя Янушкевіча “Вялікае Княства Літоўскае і Інфлянцкая вайна 1558-1570 гг.” 356 ст. Наклад 300 асобнікаў.**




**У Выдавецкім цэнтры БДУ, г. Менск, выйшла перавыданне кнігі П.М. Бацюшкава, 1890 г. “Белоруссия и Литва ”, 408 ст. Наклад 1000 асобнікаў.**



**У Выдавецкім цэнтры БДУ, г. Менск, выйшлі Матэрыялы II Міжнароднай навуковай фальклорна-этналінгвістычнай канферэнцыі “Комплекснае даследванне фальклору і этнакультуры Палесся”, 340 ст. Наклад 100 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Энцыклапедыкс”, г. Менск выйшла кніга Васіля Юршы “Фамильная книга”, 370 ст. Наклад 50 асобнікаў.**



**У выдавецтве “GAWIA”, г. Познань, выйшла кніга Казіміра Нехвядовіча “Беларускія падарожжы”, 96 ст.**



**Касцёл Літасці Божай у мікрараёне Маладзёжны г. Ліды.** *Здымак Ігара Пешахонава.*